# Spis treści

## artykuły

## materiały źródłowe



## artykuły recenzyjne



## In memoriam

# Contents

## academic papers

**Наталля Сліж**
(Гродна)

ORCID: https://orcid.org/0000-0002-9907-9761

## Астралагічныя веды пра свяціла і планеты ў рукапісе Супрасльскага манастыра[1]

Рукапіс Супрасльскага манастыра даўно ўжо патрапіў пад увагу даследчыкаў, але асноўным прадметам вывучэння быў твор „Арыстоцелевы варота” ці „Тайна тайных”. Часта фігураваў у гістарыяграфіі як віленскі спіс ці зборнік[2]. Ён захоўваўся ў Вільні, а зараз — у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі[3]. Аўтар яго невядомы. У ім утрымліваюцца палітычныя парады, якія быццам бы даваў Арыстоцель Аляксандру Македонскаму, а таксама тэксты па фізіягноміі, камянях і іншыя. „Арыстоцелевы варота” маюць арабскае паходжанне. Твор быў вельмі папулярны ў сярэднявечнай Еўропе і перакладаўся на розныя

1 Даследаванне выканана дзякуючы навуковым стажыроўкам пры Нямецкім гістарычным інстытуце ў Варшаве і пры Універсітэце ў Беластоку па праграме „Салідарны з Беларуссю”.

2 А. Соболевский, *Переводная литература Московской Руси XIV-XVII веков: библиографические материалы*, Санкт-Петербург 1903, с. 419-423; М. Сперанский, *Из истории отреченных книг. IV: Аристотелевы врата, или Тайная тайных*, Москва-Санкт-Петербург 1908; Е. Карский, *Белорусы*: т. III: *Очерки словесности белорусского племени. Старая западнорусская литература*, Петроград 1921, с. 52-59; W. Ryan, *The Old Russian Version of the Pseudo-Aristotelian „Secreta Secretorum”*, „The Slavonic and East European Review”, 1978, no. 56 (2), p. 242-260; той жа, *The Onomantic Table in the Old Russian Secreta secretorum*, „The Slavonic and East European Review”, 1971, vol. 49, no. 117, p. 603-606; Л. Станкевич, *Рукописный сборник гадательно-астрологического содержания XVI в. („Аристотелевы врата, или Тайная Тайных”) из фонда Национальной библиотеки Беларуси*, [у:] *Материалы международной электронной конференции „Книжная культура пограничья Славии Восточной и Западной (ноябрь 2007 г.)”*, http://www.knizhkult.narod.ru/Stankevich.htm [дата доступу: 18.08.2021]; Н. Перавалава, *Прыметнік у „Арыстоцелевых варотах” (XVI ст.)*, „Веснік Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Серыя 4: Філалогія. Журналістыка. Педагогіка”, 2002, № 3, с. 38-41; тая ж, *Асаблівасці скланення лічэбнікаў у старабеларускім перакладзе „Арыстоцелевых варот” (XVI ст.)*, „Веснік Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Серыя 4, Філалогія. Журналістыка. Педагогіка”, 2003, № 1, с. 47-52.

3 *Описание рукописей Виленской публичной библиотеки, церковно-славянских и русских*, сост. Ф. Добрянский, Вильна 1882, с. 463-465; Навукова-даследчы аддзел кнігазнаўства Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі (далей: НББ), № 091/276К.

мовы[4]. З рукапісу надрукаваны часткова і цалкам „Арыстоцелевы вароты”[5] і „Поучения Луннику” (1465/1466 г.)[6]. У рукапісе яшчэ змешчаны астралагічныя творы, якія раней глыбока не аналізаваліся. Мэта дадзенай працы прадставіць астралагічныя веды пра свяціла і планеты ў тэкстах.

Па палеаграфічных знаках рукапіс датуюць 60-мі гадамі XVI стагоддзя[7], але па змесце даследчыкі адносяць да другой паловы XV стагоддзя[8]. Па астралагічных тэкстах таксама відавочна, што яны паўсталі ў гэты перыяд. У адным з тэкстаў згадваецца дата 1494 года, як будучы год. Таму можна казаць, што пераклад зроблены ў XV ст., а перапісаны з арыгінала ў XVI ст. Творы, звязаныя з астралогіяй, фізіягноміяй, нумералогіяй, варажбой, адносяцца да катэгорыі таемных ведаў, якія не былі прызначаны для шырокай публікі. Аднак такі падбор тэкстаў пад адной вокладкай яскрава сведчыць, што збіраліся яны спецыяльна. Для таго часу гэта не была ўнікальная з’ява. Цікавасць да падобных ведаў набыла распаўсюджанне ў Заходняй і Усходняй Еўропе з часоў Сярэднявечча. Усе тэксты ў рукапісе напісаны адным почыркам. Пачатак новага тэксту, раздзела ці важнай інфармацыі вылучаецца чырвоным колерам, што сведчыць пра разуменне перапісчыкам зместу.

*Супрасль як месца захавання рукапісу.* Разам з хрысціянствам у Кіеў прыходзіць не толькі рэлігійная літаратура, але і астралагічная. Рэлігійныя цэнтры становяцца бібліятэкамі, дзе захоўваюцца рукапісы рознага плану. Было б памылкова думаць, што хрысціянства ніколі не было звязана з эзатэрыкай, магіяй, астралогіяй і інш. Альберт Вялікі, Фама Аквінскі, Роджэр Бэкан і шмат іншых асоб фігуруюць у гісторыі развіцця гэтых накірункаў.

Супрасльскі манастыр быў важным духоўным і інтэлектуальным цэнтрам[9]. Калекцыя кніг сведчыць пра зацікаўленасць духавенства

4 M. Manzalaoui, *The Pseudo-Aristotelian ‘Kitāb Sirr Al-Asrār’. Facts and Problems*, „Oriens”, 1974, vol. 23/24, p. 147-257.

5 М. Сперанский, *Из истории отреченных книг*, с. 135-179; *The Secret of Secrets: The East Slavic Version*, Introduction, Text, Annotated Translation, and Slavic Index by W. F. Ryan and M. Taube, Warburg 2019.

6 О. Лицкевич, *Использование лунного календаря в ВКЛ*, „Беларуская даўніна”, 2015, вып. 2, с. 98-127.

7 Л. Станкевич, *Рукописный сборник*...

8 Н. Ивашина, Е. Руденко, *Манускрипт № 091/276К (Виленский сборник) из Национальной Библиотеки Беларуси,* „Latopisy Akademii Supraskiej”, t. 7: *Dawna cyrylicka księga drukowana: twórcy i czytelnicy*, 2016, с. 71; О. Лицкевич, *Использование лунного календаря в ВКЛ*, с. 116-121; *The Secret of Secrets*, p. 129.

9 А. Миронович, *Супрасльский монастырь в конце XV - середине XVI в. как религиозный и культурный центр*, [у:] *Славянская Библия в эпоху раннего кни-*

ў розных галінах ведаў. У бібліятэцы манастыра захоўваліся астралагічныя і астранамічныя працы. У спісе 1557 года згадваліся творы Казьмы Індзікаплава „Хрысціянскага тапаграфія”, багаслова Іаана Дамаскіна „Дакладнае выкладанне праваслаўнай веры”, „Талковая Палея”. Так, у працы Дамаскіна ўтрымліваюцца главы, якія даюць апісанне Сонца, Месяца, Юпітэра, Меркурыя, Марса, Венеры і Сатурна[10], знакі задыяка і стыхіі[11]. Інфармацыю пра зоркі, неба, Месяц можна было знайсці ў „Талковай Палеі”. У бібліятэцы Супрасльскага манастыра захоўваліся два асобнікі: адзін пачатку XVI стагоддзя, другі — 1603 года. Цалкам тэкст Палеі быў уключаны ў рукапісны Сборнік XVII стагоддзя[12]. Рэлігійны зборнік „Ізмарагд” складаўся з розных павучальных твораў[13]. Сярод іх былі тэксты па астралогіі пра Сонца, Месяц і планеты на аснове „Шасцідзёна”, аб вясеннім раўнадзенстве. У бібліятэцы Супрасльскага манастыра захоўваліся два экземляры за XVI і XVII стагоддзі[14]. Варта згадаць яшчэ Супрасльскі біблейскі зборнік 1507 года, які быў створаны Мацвеем Дзясятым. У ім асобна змешчаны каляндарныя тэксты з табліцамі календара Месяца і медычны астралагічны каляндар, у якім суадносяцца знакі задыяка і часткі цела[15].

*гопечатания: К 510-летию создания Библейского сборника Матфея Десятого*, отв. ред. А. А. Алексеев, Санкт-Петербург 2017, с. 213-234.

10 Астралагічныя тэрміны як назвы планет, задыяка і інш. падаюцца ў тэксце з вялікай літары.

11 *Описание рукописей Виленской публичной библиотеки*, с. 101-106; М. Нікалаеў, *Палата кнігапісная: рукапісная кніга на Беларусі ў X-XVIII стагоддзях*, Мінск 1993, с. 97; Д. О. Святский, *Астрономия Древней Руси*, Москва 2007, с. 347-353; Д. Скварчэўскі, *Развіццё астраноміі і хрысціянскай касмалогіі ў Вялікім княстве Літоўскім у XIV-XVII стст.*, „Веснік Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта”, 2015, № 2, с. 3-4.

12 Lietuvos mokslų akademijos centrinės bibliotekas Rankraščių skyrius (далей: LMACB), f. 19–83, l. 20–32v; *Описание рукописей Виленской публичной библиотеки*, с. 144–145, 150, 444; М. Нікалаеў, *Палата кнігапісная*, с. 105–106; Д. Скварчэўскі, *Развіццё астраноміі*, с. 3–4.

13 М. Чистякова, *К вопросу о структуре и источниках 3-й редакции Измарагда (на материале списка БАН Литвы, ф. 19, № 240)*, „Senoji Lietuvos literatūra”, 2008, no. 26, p. 121-181; С. Темчин, *Матвей Десятый и составление третьей (литовской) редакции Измарагда*, „Kalbotyra”, 2009, t. 54 (2), p. 169-178.

14 LMACB, f. 19-240, l. 625v, 682v; *Описание рукописей Виленской публичной библиотеки*, с. 383, 385; М. Нікалаеў, *Палата кнігапісная*, с. 97, 100-101.

15 Б. Морозов, Р. Симонов, *Датировка и атрибуция медико-астрологических расчетов, приписанных к травнику 1534 года*, „Древняя Русь. Вопросы медиевистики”, 2004, № 15-18, с. 6; Р. Симонов, *Математическая и календарно-астрономическая мысль Древней Руси: по данным средневековой книжной культуры*, Москва 2007, с. 134-135; Г. Гайдук, *Доклассическое естествознание Восточной Европы конца XV — середины XVIII в.*, Минск 2010, с. 46-50;

Як бачым, у бібліятэцы манастыра былі творы, звязаныя з астралогіяй. На нашу думку гэта магло быць не толькі звязана з наяўнасцю астролагаў сярод духавенства манастыра, а таксама з цікавасцю да астралогіі фундатараў манастыра — роду Хадкевічаў. Яго прадстаўнікі былі вельмі паспяховымі на той час і зрабілі добрую кар'еру. Яны маглі звяртацца за парадамі да астролагаў. Хадкевічы карысталіся бібліятэкай манастыра, згадвецца пра вяртанне кніг Юрыем Хадкевічам[16]. Ускосна пра цікавасць да астралогіі ў родзе сведчыць фундацыя троцкім ваяводам Аляксандрам Хадкевічам друку астралагічнага календара Юрыя Лемкі[17].

*Перакладчыкі.* У тэкстах рукапісу не сустракаецца подпісаў, згадак на асоб, якія маглі перакладаць астралагічныя творы. Пераклады сугучны дзейнасці жыдоўскай групы інтэлектуалаў у Кіеве ў другой палове XV стагоддзя. Найбольш яскравыя асобы з гэтага кола былі Захарый (Схарыя) бен Аарон і Маісей бен Іакаў[18]. Захарый скапіраваў у Кіеве ў 1468 годзе астранамічны манускрыпт Аль-Ферганы[19], які быў перакладзены Якавам Анатолем (1194-1256)[20]. Пра Захарыя адзначаецца, што ён быў у складзе пасольства Міхаіла Алелькавіча[21], калі ён

А. Романова, *Комплекс календарно-астрологических таблиц в Супрасльском сборнике*, [у:] *Славянская Библия в эпоху раннего книгопечатания: К 510-летию создания Библейского сборника Матфея Десятого*, отв. ред. А. А. Алексеев, Санкт-Петербург 2017, с. 208-212.

16 *Описание рукописей Виленской публичной библиотеки*, с. XXII.

17 *Kalendarz świąt rocznych na rok 1612 Gerzego Lemki*, Lublin 1611.

18 В. Перетц, *Материалы к истории апокрифа и легенды*, т. 2: *К истории Лунника. Введение и славянские тексты. Дополнения к истории Громника и указатели к вып. 1 и 2*, Санкт-Петербург 1901, с. 44; W. Ryan, *The Old Russian Version*, p. 244; M. Taube, *The Spiritual Circle in the „Secret of Secrets" and the „Poem on the Soul"*, „Harvard Ukrainian Studies", 1994, no. 18 (3/4), p. 342-355; той жа, *The Kievan Jew Zacharia and the Astronomical Works of the Judaizers*, „Jews and Slavs", 1995, no. 3, p. 168-198; той жа, *The Fifteenth Century Ruthenian Translations from Hebrew and the Heresy of the Judaizers: Is There a Connection?* [у:] *Speculum Slaviae Orientalis: Muscovy, Ruthenia and Lithuania in the Late Middle Ages*, Moscow 2005, p. 185-208; той жа, *Transmission of Scientific Texts in 15th-Century Eastern Knaan*, „Aleph: Historical Studies in Science and Judaism", 2010, vol. 10, issue 2, p. 314-353; С. Темчин, *Схария и Скорина: Об источниках виленского ветхозаветного свода (F19-262)*, „Senoji Lietuvos literatūra", 2006, no. 21, p. 303-309; О. Лицкевич, *Использование лунного календаря в ВКЛ*, с. 113-116.

19 Аль-Фергані — вядомы персідскі навуковец IX ст. Яго праца *Arabis Chronologica et astronomica elementa* была надрукавана на латыні ў 1590 г. і мела вялікае значэнне для развіцця навукі.

20 M. Taube, *The Kievan Jew Zacharia*, p. 171-172.

21 M. Taube, *Transmission of Scientific Texts*, p. 332-333.

прыязджаў у Ноўгарад Вялікі ў 1470-1471 гадах[22]. З візітам Захарыя звязваецца ерэтычны рух у Маскоўскім княстве[23]. Міхаіл Алелькавіч быў заможнай і ўплывовай на той час асобай. Ён мог дазволіць прымаць на сваім двары адукаваных асоб. У Алелькавіча былі высокія амбіцыі і далёка ідучыя палітычныя планы. Таму для гэтага ён мог карыстацца паслугамі астролага, што было нармальнай з'явай у гэты перыяд. Да таго ж Алелькавіч быў праваслаўнага веравызнання. Перакладзеныя тэксты набылі сваё распаўсюджанне праз праваслаўныя цэнтры па ўсёй тэрыторыі ВКЛ і дайшлі да Маскоўскага княства. Але гэта можа яшчэ сведчыць на карысць таго, што перакладанне здзяйснялася пры храме ці манастыры Кіева. Яно падтрымлівалася і духоўнымі, і свецкімі асобамі ВКЛ.

Да перакладчыцкай дзейнасці групы адносяць біблійныя творы — „Логіку", „Арыстоцелевы вароты", „Шастцікрыл", „Касмаграфію" і іншыя творы. Яны былі перакладзены з іўрыту[24]. Пераклад „Арыстоцелевых варот", „Логікі" меў важнае значэнне для развіцца філасофскай думкі[25].

Аднак большасць астралагічных тэкстаў была перакладзена з грэчаскай мовы і былі звязаны з Візантыйскай Імперыяй, дзе астралагічныя і эзатэрычныя тэксты мелі распаўсюджанне[26]. Візантыйская астралагічная традыцыя была звязана са старажытнай Грэцыяй, пры гэтым яна яшчэ мела ўплыў арабскай астралогіі. Напрыклад, былі вядомы тэксты Абу Машара, і яны былі перакладзены на грэчаскую мову[27]. Паходжанне тэкстаў з Візантыі дадаткова спрыяла іх прыняццю ў праваслаўным асяроддзі. Акрамя таго, астралагічныя тэксты былі

22 A. Krupska, *Michał Olelkowicz*, „Polski Słownik Biograficzny", t. XXIII, Warszawa-Kraków-Wrocław-Gdańsk 1978, s. 745; K. Krupa, *Polityczne związki Giedyminowiczów z Nowogrodem Wielkim w latach 1430-1471*, „Przegląd Historyczny", 1993, t. 83, nr 3, s. 289-306.

23 А. Алексеев, *Сочинения Иосифа Волоцкого в контексте полемики 1480-1510-х гг.*, Санкт-Петербург 2010, с. 92-134.

24 M. Taube, *Transmission of Scientific Texts*, p. 185-208; ён жа, *The Kievan Jew Zacharia*, p. 168-198.

25 Д. Чижевський, *Філософія на Україні: спроба історіографії*, Прага 1926, с. 30.

26 М. Андреева, *Политические и общественные элементы византийско-славянских гадательных книг*, „Byzantinaslavica", 1930, т. 2, с. 47-73, 395-415; 1931, т. 3, с. 430-461; 1932, т. 4, с. 65-84; I. Ševčenko, *Remarks on the Diffusion of Byzantine Scientific and Pseudo-Scientific Literature among the Orthodox Slavs*, „The Slavonic and East European Review", 1981, vol. 59, no. 3, p. 321-345.

27 D. Pingree, *From Astral Omens to Astrology: From Babylon to Bīkāner*, Roma 1997.

неабходны для рэлігійнай практыкі. Веданне цыклаў Месяца было выкарыстоўвана для разліку рэлігійных свят. Перакладзеныя тэксты набылі сваё распаўсюджанне па ўсёй тэрыторыі ВКЛ і дайшлі да Маскоўскага княства.

Жыдоўская група ў большасці працавала з тэкстамі сваёй культуры, а астралагічныя тэксты быццам бы адыходзяць ад агульнага кантэксту. Але цікавасць жыдоў да астралогіі мела месца значна раней, яшчэ да нашай эры. Аб гэтым сведчаць астралагічныя тэксты ў Кумранскай бібліятэцы[28]. У саміх тэкстах сустракаюцца згадкі, звязаныя з жыдоўскай культурай. Каб перакладаць астралагічныя тэксты, трэба мець абазнанасць у тэме. Можна выказаць іншае меркаванне, што разам з рэлігійнай літаратурай у Кіеў прыйшла яшчэ астралагічная і яе перакладам займалася духавенства ВКЛ. Але да гэтай версіі трэба дадатковыя факты.

Сыходзячы з астралагічных тэкстаў можна казаць пра ўзровень ведаў перакладчыкаў. Веданне асноў візантыйскай, грэчаскай, арабскай, жыдоўскай астралогіі, а таксама эзатэрычных тэкстаў, якія прыпісваюцца цару Саламону. Верагодна валодалі практыкай магіі. Гэта карэлюецца з характарыстыкай Іосіфа Валоцкага пра Захарыя: ён практыкаваў магію, астралогію, чарнакніжжа[29]. Да таго ж варта адзначыць валоданне перакладчыкамі рознымі мовамі, у тым ліку і грэчаскай. У тыя часы астролагу грэчаскую неабходна было ведаць. Толькі адзін тэкст, перакладзены з польскай мовы выпадае з агульнай карціны. На нашу думку ён мог належыць іншаму перакладчыку.

Перакладзеныя астралагічныя творы траплялі ў розныя зборнікі. Так, у бібліятэцы Кіева-Міхайлаўскага манастыра захоўваўся рукапіс „Книга зовомая приточник” Ваські, пісара Мікалая Радзівілавіча 1483 года. У ім утрымлівалася „Логіка”, якая была перакладзена жыдоўскай інтэлектуальнай групай, а таксама луннік[30]. У рукапісе са збораў Ундольскага сустракаецца шмат астралагічных тэкстаў, блізкіх да тэксту з рукапісу з Супрасльскага манастыра[31], што было адзначана яшчэ

28 J. C. Greenfield, ל״ז , M. Sokoloff, D. Pingree and A. Yardeni, *An Astrological Text From Qumran („4Q318”) and Reflection on some Zodiac Names*, „Revue de Qumrân”, 1995, vol. 16, no. 4 (64), p. 507-525; H. R. Jacobus, *4Q318: A Jewish Zodiac Calendar At Qumran?*, [y:] *The Dead Sea Scrolls*, Leiden 2010, p. 365-395.

29 А. Алексеев, *Сочинения Иосифа Волоцкого*, с. 97.

30 А. Соболевский, *Переводная литература*, с. 406-408; В. Перетц, *Материалы к истории апокрифа*, с. 57-74.

31 Российская государственная библиотека (dalej: РГБ), Собр. Ундольского, № 1022.

Мікалаем Конанавым[32]. Аляксей Сабалеўскі азначыў падабенства тэкстаў „Сказанія аб семі зорках" у віленскім і холмскім спісах. Апошні паходзіў з Музея Холмскага Свята-Багародзіцкага брацтва. У гэтым страчаным рукапісе, які датаваўся XVI стагоддзем, былі яшчэ такія творы як „Арыстоцелевы вароты", „Шэстакрыл", „Касмаграфія"[33]. У калекцыі сялян Карнілавах у Карэліі захоўваўся зборнік XVII-XVIII стагоддзяў, у якім утрымліваюцца Каляднік, тэксты аб злых днях, луннік, Пячатка цара Саламона і іншыя. У яго складзе ёсць планетнік і прадмова да яго, а таксама тэкст „Мудрость великая бяди без тряда тобе ведомо", якія па сваім змесце блізкі да першага планетніка з віленскага зборніка[34]. Тэксты маглі як перапісвацца, так і быць прывезены перакладчыкамі ў іншыя мясцовасці, напрыклад у Маскоўскае княства.

*Астралагічная тэрміналогія*. Дадзеныя пераклады ўяўляюць важную крыніцу па астралагічнай тэрміналогіі. У гістарыяграфіі звярталася ўвага на моўныя і тэрміналагічныя асаблівасці назваў планет і знакаў задыяка[35]. У артыкуле Дзмітрыя Скварчэўскага было адзначана, што ў ВКЛ не адрознівалі астралогіі і астраноміі, у тым ліку і тэрміналагічна[36]. Аднак гэта не адпавядае рэчаіснасці. Астралагічныя і астранамічныя тэксты — гэта розныя тэксты. Так, сабраныя ў рукапісе творы маюць дачыненне да астралогіі і не суадносяцца з астраноміяй. Таксама адрозніваюцца працы па астралогіі і астраноміі Абу Машара, Іагана Кеплера і іншых навукоўцаў.

[32] Н. Кононов, *Из области астрологии. Обзор статей: Планетника, Звездочстца, Колядника, Громника, Лунника, Трепетника, Тайная Тайных, Лечебника и пр. рук. XVIII в. А. Г. Первухина*, „Древности: Труды слав. комис. имп. МАО", 1907, т. 4, вып. 1, с. 18.

[33] А. Соболевский, *Переводная литература*, с. 409, 416-428; И. А. Герасимова, В. В. Мильков, Р. А. Симонов, *Сокровенные знания Древней Руси*, Москва 2015, с. 322, 620.

[34] Л. Харебова, *«Сокровенные» знания в рукописях из коллекции крестьян Корниловых*, „Кижский вестник", 2005, вып. 10, с. 149-153; В. Быкова, *Астрологоастрономические тексты в составе кижской рукописи КП-4183: проблемы текстологии,* [у:] *Актуальные проблемы развития музеев-заповедников: Тезисы докладов Всероссийской научно-практической конференции (Петрозаводск-Кижи, июнь 2006 г.),* Петрозаводск 2006, с. 23-25; *Памятники книжной старины Русского Севера: коллекции рукописей XV-XX веков в государственных хранилищах Республики Карелия*, сост., отв. ред. и автор предисл. А. В. Пигин, Санкт-Петербург 2010, с. 342-345.

[35] Н. Ивашина, Е. Руденко, *Манускрипт № 091/276К*, с. 69.

[36] Д. Скварчэўскі, *Астранамічная тэрміналогія ў літаратуры Вялікага Княства Літоўскага XV-XVII стст.*, „Журнал Белорусского государственного университета. История", 2017, № 2, с. 42-47.

У тэксце неаднастайнае напісанне тэрмінаў, часам з памылкамі, як і сам тэкст[37]. Адносна планет ужываюцца тэрміны — планета, звезда, а іх арбіт — поес, небеса, путь. Назвы планет маюць грэчаскае паходжанне, часам можна сустрэць лацінскія тэрміны: Сатурн — Крон, Кронос, Сатурнус, Сатурняс, Сатярног; Юпітэр — Зевес, Зеись, Юпитер; Марс — Ариес, Оррис, Ариогн, Арион, Марш; Сонца — Солнце; Венера — Афродит, Апродит, Афродитис, Венус; Меркурый — Еремис, Ермии, Ермен, Меркуриус; Месяц — Луна, Ляна. Для характарыстыкі планет ужываюцца словы: мужик і женскии язык, добрыя (благїя) і злыя (злыя), цёплыя (теплъ) і халодныя (студена), сухія (сух) і вільготныя (мокра).

Вузлы Месяца, кропкі перасячэння экліптыкі, называюцца — Смок, а яго верхні вузел — Галава, ніжні — Хвост. Смок на сучасную беларускую мову перакладаецца як Цмок. У сучаснай астралогіі гэтая назва і захавалася — Галава Цмока і Хвост Цмока, ці Паўночны і Паўднёвы вузлы.

Задыякальнае кола мае назву — зодеи, коло зодеиское. Знакі задыяка называюцца як дом, животны дом, счастье, стяпня, ступа, стопа, звезда, зодеи, планета. Адносна іх ужываюцца розныя тэрміны, у тым ліку лацінскія[38] і грэчаскія[39], у пераліку гэта пазначана. Апошнія нават сабраны ў спецыяльным абзацы. У тэкстах сустракаюцца наступныя назвы: Авен — Овен, Ариос (лат.), Баран, Крїос (гр.); Цялец — Таурос (лат.), Таврос (гр.), Юнец, Телец, Тур, Бычок; Блізняты — Близнец, Близнята, Емены (лат.), Дїдимос (гр.); Рак — Рак, Канцыр (лат.), Рачек, Каркен (гр.); Леў — Лев, Леу, Леон (гр.); Дзева — Вирго (лат.), Дева, Девечька, Парфенос (гр.); Шалі — Либро, Либра (лат.), Ярем, Веси, Вакга, Зигос (гр.); Скарпіён — Скорпия, Скорпиос (лат.), Скопиос (гр.), Шкорпия, Медведок; Стралец — Стрелец, Сантарион (лат.), Тохетос (гр.); Казярог — Козейрог, Козей же рог, Каприкон і Каприкорнос (лат.), Егокерос (гр.); Вадалей — Водник, Водолеи, Аквариос і Оукварион (лат.), Идрухос (гр.), Водка; Рыба — Рыба, Рыбка, Постисис і Пистес (лат.), Ихиос (гр.).

Утрымліваюцца тэрміны для кардынальных знакаў (Авен, Рак, Шалі, Казярог), фіксаваных (Скарпіён, Леў, Цялец, Вадалей), мутабельных

37 Прыводзяцца прыклады па ўсіх астралагічных тэкстах рукапісу.

38 Н. Ивашина, Е. Руденко, *Манускрипт № 091/276К*, с. 69.

39 Тэкст пра прахаджэнне Сонцам задыякальнага кола з Расійскай гістарычнай бібліятэкі таксама ўтрымлівае назвы знакаў задыяка з грэчаскай мовы. И. А. Герасимова, В. В. Мильков, Р. А. Симонов, *Сокровенные знания Древней Руси*, с. 398-408.

(Дзева, Стралец, Блізнец, Рыбы). Кардынальныя знакі (радыкальна зменлівыя і актыўныя) — движимы, фіксаваныя (устоўлівыя) — стоятелна, мутабельныя (дынамічныя, пераходныя) — среднїи. Старабеларускія тэрміны добра адлюстроўваюць сутнасць з'явы.

Гэтыя перакладныя тэксты спрыялі развіццю тэрміналогіі па астралогіі. Але на пераклад уплывала мова паходжання тэксту. Таму можна сустрэць для адной з'явы некалькі тэрмінаў. Гэта была нармальная сітуацыя ў тыя часы. Важна, што астралагічныя тэксты з'явіліся і распаўсюдзіліся на старабеларускай мове.

*Харакратыстыка астралагічных тэкстаў.* Усе астралагічныя тэксты рукапісу звязаны паміж сабой. Разам яны ўяўляюць базавы падручнік па астралогіі. Цяжка адназначна сказаць, ці былі яны скапіраваны з адной крыніцы, але падабраны адмыслова. Даецца асноўная інфармацыя пра планеты і знакі задыяка. Яна неабходна для пачынаючага астролага. Сам падручнік па астралогіі адпавядае агульнай канцэпцыі рукапісу — прадставіць базавыя звесткі па розных таемных ведах, прычым гэтыя веды ўзаемна звязаны. Так інфармацыя па медыцыне, раслінах, каштоўных камянях з „Арыстоцелевых варот" можа быць выкарыстана ў спалучэнні з астралогіяй. Таксама астралагічныя веды карысны для варажбы для выбару лепшага часу.

Падручнік складаецца з наступных тэкстаў[40]: 1 „Предислове о поесех небесных", 2 „О семи звяздях великих", 3 „Тых же звездъ моць сицова", 4 „О лоунном ходоу", 5 „О 12 зодеях", 6 „Мудрость великая бяди без тряда тобе ведомо", 7 „Сказанїе о седми звездахъ великих", 8 „Сказание о седмих планетах сиречь великих моцьных звездах", 9 „Осени 12 звезды, што владеют къ 12 частьям человеческим", 10 „Початок часом" з табліцай, 11 „А коли хочеш ведат каждого человека звездя его", 12 „Неделя", 13 „Седмь сят планеты" („Седм соут планеты"), 14 „Помышляющю о какои любо ввещи обрести" (Луннік), 15 „Две на десять суть зодеи", 16 „Солнце обходить тоу 12 на десять зодеи", 17 „Поут солнечныи", 18 „Лоуна же прояви Богъ изральтяном во поустыни пророком Моисеом соблюдая их от всякого зла" (Луннік). Усяго 18 тэкстаў [гл. дадатак 1]. Усе яны ідуць па парадку, акрамя апошняга. Ён змешчаны пасля двух тэкстаў: „Поучение луннику" і „Книга от Петра Египтенина". Першы тэкст быў прысвечаны тэхніцы вылічэння цыкла Месяца, а другі — варажбе. Аднак нельга сцвярджаць

[40] У артыкуле Л. Станкевіч прыведзены назвы астралагічных тэкстаў. Аднак не ўсе тэксты ўлічаны і ў назвах сустракаюцца памылкі. Л. Станкевич, *Рукописный сборник...*

канчаткова, што ў рукапісе былі сабраны ўсе тэксты, перакладзеныя ў другой палове XV стагоддзя. Іх магло быць болей.

У паслядоўнасці тэкстаў прасочваецца логіка. Першымі ідуць вялікія тэксты прысвечаныя планетам і знакам задыяка, базавыя тэксты (№ 1-10). Далейшыя ўдакладняюць папярэднія звесткі, прычым гэтыя тэксты вылучаліся сэнсавымі адзінкамі перапісчыкам. Калі казаць пра жанр, то з тэкстаў вылучаюцца планетнікі (№ 2, 7, 8) і луннікі (14, 18). Планетнікі падаюць апісанне планет і іх уласцівасці[41]. Іншыя тэксты часта невялікія па аб'ёме ўтрымліваюць кароткую інфармацыю па нейкай тэме. Вызначыць ім нейкую класіфікацыю не падаецца магчымым. У працы іх адзначаем як астралагічныя тэксты, падаецца назва і нумар. Дадзенае даследаванне прысвечна менавіта ведам пра планеты, таму будуць аналізавацца тэксты № 1-4, 6-13, 16, 17. Тэксты пра знакі задыяка будуць разгледжаны ў іншым даследаванні.

У планетніках пры апісанні планет ужываецца адна схема, выкарыстоўваюцца аднолькавыя моўныя звароты. У першым планетніку „О семи звяздях великих" (№ 2)[42] падаецца назва планеты, за які дзень тыдня адказвае, над якой тэрыторыяй пануе, якімі знакамі задыяка кіруе, перыяд звароту па знаку задыяка і час знаходжання ў адным знаку, месца ў знаку задыяка на 1494 год для вялікіх планет, якасць і моц, уплыў на народжаных пад планетай. Парадак апісання пададзены па перыядзе праходжання нябеснага цела па знаку задыяка, так званы халдэйскі рад, — ад самага павольнага да хуткага: Сатурн, Юпітэр, Марс, Сонца, Венера, Меркурый, Месяц. Гэты прынцып прысутнічае ў многіх тэкстах. Таксама ён апісаны ў Іаана Дамаскіна. Аб ім згадваецца ў розных астролагаў[43]. Хоць замацаваўся тэрмін „халдэйскі рад", але сама ідэя з'явілася ў эліністычнай Грэцыі[44].

Прадмова „Предословїе о поесех небесных" (№ 1) змешчана перад першым планетнікам. Яна падае паводле Іаана Дамаскіна апісанне размяшчэння планет у адпаведнасці з іх праходам па задыяку[45].

[41] А. Соболевский, *Переводная литература*, с. 137; Н. Кононов, *Из области астрологии*, с. 3-20.

[42] НББ, № 091/276К, арк. 60 адв.-63 адв. Гэты планетнік разам з прадмовай да яго падрыхтаваны да друку: Н. Сліж, *Планетнік пачатку 1490-х у рукапісу з Супрасльскага манастыра*, „Здабыткі: дакументальныя помнікі на Беларусі".

[43] Г. Бонатти, *Классическая Астрология*, перевод с английского Т. А. Тарасовой, Москва 1998, с. 110.

[44] E. Zerubavel, *The Seven Day Circle: The History and Meaning of the Week*, Chicago 1989, p. 14-20.

[45] НББ, № 091/276К, арк. 60 адв.-61.

У другім планетніку „Сказанїе о седми звездахъ великих” (№ 7, іл. 1) апісаны: назва планеты, яе цыкл, характарыстыка, колер, дзень тыдня, метал, апісанне знакаў задыяка, над якімі пануе. Апошняя інфармацыя пададзена ў вершаванай форме. Яна ўключае назву знака, у тым ліку на латыні, яго стыхію, колер, моц, характарыстыку народжанага пад знакам, уплыў на асаблівасці дня, калі Месяц знаходзіцца ў пэўным знаку, медычную інфармацыю (суадносіны знака і частак цела, магчымасць пускаць кроў, ставіць банкі і хадзіць да лазні). Побач з апісаннямі знаходзяцца сімвалы свяціл, планет і знакаў задыяка. Гэты планетнік быў перакладзены з польскай мовы. Пры чым гэта нялепшы пераклад, бо захавалася шмат паланізмаў. Парадак апісання планет як у першым планетніку. Ён адрозніваецца ад іншых тэкстаў, тым што спалучае планетнік і характарыстыку задыяка.

Трэці планетнік „Сказание о седмих планетах сиречь великих моцьных звездах” (№ 8) мае дачыненне да харарнай астралогіі і звязаны з тэкстам па планетных гадзінах[46]. Харарная астралогія займаецца адказамі на розныя пытанні. Яна ўлічвае момант, калі быў агучаны запыт. Так як астролаг не заўсёды меў магчымасць скласці гараскоп пытання, то мог карыстацца гадзінамі планет. Гэта дапамагала вызначыць, для чаго было зададзена пытанне. Інфармацыя пра нябесныя целы змешчана не па парадку: Сонца, Венера, Меркурый, Месяц, Сатурн, Юпітэр, Марс. Аднак побач стаіць нумарацыя, адпаведная з цыклам праходжэння планет, што адпавядае папярэднім планетнікам. У самім тэксце даецца наступная інфармацыя: перыяд звароту планеты, яе пол (мужчынская ці жаночая), стыхія, народжаны пад планетай, значэння пытання.

У канцы тэксту адзначаецца, што планеты маюць больш важнае значэнне, чым задыяк. Дадаткова прыведзены звесткі над якімі сферамі і эмоцыямі пануюць планеты, іх уласцівасці і анёлы планет згодна з кабалістычнай традыцыяй. Называюцца анёлы Сатурна — Самаіл, Юпітэра — Міхаіл, Марса — Аінаэль (Анаэль), Сонца — Кафцыель, Венеры — Гаўрыіл, Меркурыя — Кафоцэль, Месяца — Цадэніл. Аднак не ўсе напісаныя адносяцца да анёлаў. Тут сустракаецца пералік дэманаў па кабалістычнай традыцыі.

Самаіл з’яўляецца кіраўніком дэманаў, мае разбуральную моц, лічыцца анёлам смерці[47]. Кафцыель — князь гневу, атаясамляецца дэман

46 Тамсама, арк. 71 адв.-73.

47 *Самаил*, [у:] *Еврейская энциклопедия Брокгауза и Ефрона*, Санкт-Петербург 1912, с. 842-843.

з крумкачом, не мае міласэрнасці[48]. Міхаіл, Гаўрыіл, Аінаэль (Анаэль) і Цадэніл (Цадкіэль) з'яўляюцца архангеламі. У рукапісе назіраецца цікавая сітуацыя, бо сустракаюцца кіраўнікамі гадзін і анёлы, і дэманы. У характарыстыцы гадзін у „Прадказаннях Саламона па вадзе" („Магічны трактат Саламона") адзначаюцца анёлы і дэманы, як кіраўнікі адной і той жа гадзінай, але яны падзелены[49].

Варта заўважыць, што сустракаюцца розныя сістэмы кіравання планетамі і нават імёны анёлаў пішуцца з варыяцыямі. У рукапісе „Астралогія" (Макоўскае княства, XVII ст.) згадваюцца анёлы і архангелы для кожнай планеты: для Сатурна — Самаіл і Варахііл, Юпітэра — Міхаіл і Егудзіл, Марса — Анаэль і Селасоіл, Сонца — Кафцыель і Міхаіл, Венеры — Гаўрыіл і Урыіл, Меркурыя — Кафоцэіл і Рафаіл, Месяца — Падэніл і Гаўрыіл[50]. У „Кнізе анёла Разыэля" кіраванне планетамі прадстаўлена па-іншаму. У Сатурна анёл — Міхаель, у Юпітэра — Бархіэль, у Марса — Гаўрэель, у Сонца — Рэфаэль, у Венеры — Хасдзіэль, у Меркурыя — Цадкіэль, у Месяца — Анаэль. У кабалістычнай сістэме падзел быў наступны: у Сатурна — Кафцыэль, Юпітэра — Цадкіэль, у Марса — Самаэль, у Сонца — Рэфаэль, у Венеры — Анаэль, у Меркурыя — Міхаель, у Месяца — Гаўрэель[51]. У сярэднявечнай Еўропе ў хрысціянскай традыцыі яшчэ існавала і такая сістэма анёлаў: у Сатурна — Касііл, у Юпітэра — Закхііл, у Марса — Салафаіл, у Сонца анёл — Міхаіл, у Венеры — Урыіл, у Меркурыя — Рафаіл, у Месяца — Гаўрыіл[52].

Усе прыклады аб'ядноўвае наяўнасць у планет кіраўнікоў з ліку анёлаў, архангелаў або дэманаў. Па сутнасці, гэта ўключае астралогію ў рэлігійную сістэму, а таксама ў практычную магію. Тое, што ў віленскім спісе прыводзяцца кіраўнікі планет, якія не адпавядаюць іншым класіфікацыям можа азначаць наступнае: перакладчыкі не былі добра знаёмыя з арыгінальнымі тэкстамі ці мелі іншыя тэксты, або наўмысна напісалі не тых анёлаў, каб не выдаваць таямніцы. Дадаткова гэта пацвярджае знаёмасць перакладчыкаў з кабалістычнымі тэкстамі і сведчыць пра пераклад жыдоўскай групы астралагічных тэкстаў.

48 Демонология духов, https://sites.google.com/site/demonomenologiaduchov/informografia-demonov/0-imennik-russkij/kkk [дата доступу: 19.08.2021].

49 P. Torijano, *The Hygromancy of Solomon*, [у:] *Old Testament Pseudepigrapha: More Noncanonical Scriptures*, vol. 1, Eerdmans 2013, p. 282-286.

50 В. Перетц, *Материалы к истории апокрифа*, с. 25.

51 А. Бецаэль, *Имена планетарных ангелов*, http://treelifepath.com/2019/imena-planetarnyh-angelov [дата доступу: 19.08.2021].

52 А. Саплин, *Астрология для всех: Энциклопедия*, Москва 2007, с. 24-25.

Да трэцяга планетніка маюць дачыненне тэксты, прысвечаная гадзінам планет „Початок часом в неделю от утра” (№ 10) і „Неделя...” (№ 12). Да іх яшчэ дадаецца табліца[53]. Першы тэкст захаваўся не цалкам, толькі апісанне першых трох гадзін у нядзелю. Другі тэкст уяўляе сабой кароткую характарыстыку першых сямі гадзін дня пачынаючы з нядзелі. У іх адзначаецца для чаго тая ці іншая гадзіна добрая ці дрэнная. Прадстаўлены першыя сем гадзін, бо далей яны паўтараюцца. У логіку гадзін пакладзены халдэйскі рад[54]. Ён захоўваецца ўвесь час, але дзень тыдня пачынаецца з гадзіны планеты, якая кіруе днём. Напрыклад, нядзеля — гэта дзень Сонца, значыць, што першая гадзіна — гадзіна Сонца, а далей ідуць гадзіны Венеры, Меркурыя, Месяца і г.д. У табліцы гэта прадстаўлена сімваламі планет (іл. 2). На версе літарамі пазначаны дні тыдня з суботы, а з боку літарамі пазначаны два разы цыкл ад 1 да 12. Разлічаны цыкл на 24 гадзіны, ад 0 да 24, але ўнутры ён падзелены на дзённыя і начныя гадзіны. Начныя гадзіны пачыналіся з перыяду захаду Сонца, а дзённыя — з усходу. Цікава, што асобныя тэксты пра гадзіны і планеты сустракаюцца ў татараў Вялікага Княства Літоўскага. Захаваліся яны ў Хамалах за XIX стагоддзе[55]. Такая ж схема гадзін у Аль-Біруні і ў кнізе варажбы Рафлі[56].

Характарыстыка гадзін даволі блізкая да тэксту з „Прадказанняў Саламона па вадзе”. Назва гадзін згодна з планетамі адпавядае, але не заўсёды супадае характарыстыка. У рукапісе даецца толькі значэнне з 1 па 7 гадзіну, а ў трактаце ўсе 24. Не выклікае сумнення сэнсавая блізкасць тэкстаў з рукапісу і „Прадказанняў Саламона па вадзе”. Апошні паўстаў прыкладна ў V-VI стагоддзях. Напісаны быў на грэчаскай мове ў Візантыйскай Імперыі, захаваўся ў Еўропе ў 18 рукапісах XV-XVIII стагоддзяў. Ён адносіцца да эзатэрычных тэкстаў і прыпісваецца цару Саламону. Змест тэксту мае дачыненне да астралогіі і дэманалогіі. Ён быў прызначаны для магічных практык і для выбару правільнага дня і гадзіны для пачатку справы. Першая табліца прадстаўляе гадзіны з пункту гледжання астралогіі. Другая табліца змяшчае інфармацыю пра анёлаў і дэманаў, якія кіруюць кожнай гадзінай. Суправаджаецца ўсё малітвамі да планет і рытуаламі, якія неабходны для паспяховай рэалізацыі справы[57].

[53] НББ, № 091/276К, арк. 73 адв.-73 адв., 78.
[54] E. Zerubavel, *The Seven Day Circle*, p. 14-20.
[55] Г. Мишкинене, *Счастливые и несчастливые дни из хамаила Адама Радецкого (1888 г.)*, „Slavistica Vilnensis”, 2017, nr 62, p. 97-115.
[56] Р. Симонов, *Математическая и календарно-астрономическая мысль*, с. 426.
[57] P. Torijano, *The Hygromancy of Solomon*, p. 282-286.

| | с | н | п | в | р | ч | т | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| а | ♄ | ☉ | ☽ | ♂ | ☿ | ♃ | ♀ | ꙁ | 1 | а | 1 | |
| в | ♃ | ♀ | ♄ | ☉ | ☽ | ♂ | ☿ | рк | 2 | в | 2 | |
| г | ♂ | ☿ | ♃ | ♀ | ♄ | ☉ | ☽ | рп | 3 | г | 3 | |
| д | ☉ | ☽ | ♂ | ☿ | ♃ | ♀ | ♄ | см | 4 | д | 4 | |
| є | ♀ | ♄ | ☉ | ☽ | ♂ | ☿ | ♃ | т | 5 | є | 5 | |
| ѕ | ☿ | ♃ | ♀ | ♄ | ☉ | ☽ | ♂ | тꙁ | 6 | ѕ | 6 | |
| з | ☽ | ♂ | ☿ | ♃ | ♀ | ♄ | ☉ | vк | 7 | з | 7 | |
| и | ♄ | ☉ | ☽ | ♂ | ☿ | ♃ | ♀ | vп | 8 | и | 8 | |
| ѳ | ♃ | ♀ | ♄ | ☉ | ☽ | ♂ | ☿ | фм | 9 | ѳ | 9 | |
| і | ♂ | ☿ | ♃ | ♀ | ♄ | ☉ | ☽ | х | 10 | і | 10 | |
| аі | ☉ | ☽ | ♂ | ☿ | ♃ | ♀ | ♄ | кꙁ | 11 | аі | 11 | |
| ві | ♀ | ♄ | ☉ | ☽ | ♂ | ☿ | ♃ | vк | 12 | ві | 12 | |
| а | ☿ | ♃ | ♀ | ♄ | ☉ | ☽ | ♂ | vп | 14 | гі | 14 | |
| в | ☽ | ♂ | ☿ | ♃ | ♀ | ♄ | ☉ | ѿм | 15 | ді | 15 | |
| г | ♄ | ☉ | ☽ | ♂ | ☿ | ♃ | ♀ | ц | 16 | єі | 16 | |
| д | ♃ | ♀ | ♄ | ☉ | ☽ | ♂ | ☿ | цꙁ | 17 | ѕі | 17 | |
| є | ♂ | ☿ | ♃ | ♀ | ♄ | ☉ | ☽ | ак | 18 | зі | 18 | |
| ѕ | ☉ | ☽ | ♂ | ☿ | ♃ | ♀ | ♄ | ап | 19 | иі | 19 | |
| з | ♀ | ♄ | ☉ | ☽ | ♂ | ☿ | ♃ | ам | 20 | ѳі | 20 | |
| и | ☿ | ♃ | ♀ | ♄ | ☉ | ☽ | ♂ | ас | 21 | к | 21 | |
| ѳ | ☽ | ♂ | ☿ | ♃ | ♀ | ♄ | ☉ | асꙁ | 22 | ка | 22 | |
| і | ♄ | ☉ | ☽ | ♂ | ☿ | ♃ | ♀ | акк | 23 | кв | 23 | 23 |
| аі | ♃ | ♀ | ♄ | ☉ | ☽ | ♂ | ☿ | ап | 23 | кг | 24 | 24 |
| ві | ♂ | ☿ | ♃ | ♀ | ♄ | ☉ | ☽ | vм | 24 | кд | 24 | 24 |

2. Табліца з гадзінамі планет

Такога ж характару з'яўляецца твор „Ключы цара Саламона", які датуецца прыкладна XIV-XV стагоддзямі. Тэксты вядомы на грэчаскай, лацінскай, нямецкай і іншых мовах, але не адрозніваюцца аднастайнасцю. Даюцца парады па розных відах магіі, калі і як выконваць абрады[58]. У тэксце прыводзяцца гадзіны ў адпаведнасці з планетамі, анёламі і арханёламі, якія імі кіруюць, што было важна для магічнай практыкі[59]. Дэманалогія была добра прадстаўлена ў „Запаветах Саламона", які таксама быў вядомы на грэчаскай мове і меў распаўсюджанне ў Еўропе[60]. Пры перакладах аўтары маглі карыстацца дадзенымі тэкстамі. Самі тэксты маглі быць прывезены перакладчыкамі, ці нават захоўвацца ў Кіеве. Вядома, што грэчаскія рукапісы там былі. Мы не выключаем магчымасці, што былі перакладзены і іншыя тэксты Саламона, а ў рукапіс патрапілі толькі асобныя тэксты.

Аўтары перакладу былі знаёмы з падобнымі тэкстамі. Аб гэтым дадаткова сведчыць тэкст з пазначэннем анёлаў планет. Апісанне планетных гадзін у рукапісе больш прыдатнае для зямных спраў, аднак добрыя ці дрэнныя гадзіны можна выбраць для магічных спраў, асабліва, калі ім спрыяюць планеты Сатурн ці Марс. Яны лічыліся важнымі для магіі. Былі вядомы і іншыя тэксты цара Саламона, якія былі звязаны з астралогіяй[61].

Веды пра планетныя гадзіны набылі сваё далейшае распаўсюджанне не толькі ў ВКЛ, але і ў Маскоўскім княстве[62]. У тэксце са збору Ундольскага ёсць падобны тэкст па гадзінах. Кожны раздзел пачынаецца з характарыстыкі планет і далей апісваюцца першыя 7 гадзін дня, але змешчаны яны не ў тым парадку[63].

Дадзеныя тэксты па планетных гадзінах звязаны з тэкстамі пра добрыя і дрэнныя гадзіны. Напрыклад, такі тэкст захоўваўся ў рукапісе

58 A. E. Waite, *The Book of Black Magic*, Boston 2002, p. 67-72.

59 *The Key of Solomon the King (Clavicula Salomonis)*, trans. and ed. S. Liddell MacGregor Mathers [1889], Foreword by R. A. Gilbert, Boston-York Beach 2000.

60 C. C. McCown, *The Testament of Solomon, Edited from Manuscripts at Mount Athos, Bologna, Holkham Hall, Jerusalem, London, Milan, Paris and Vienna*, Leipzig 1922; F. C. Conybeare, *The Testament of Solomon*, „The Jewish Quarterly Review", 1898, vol. 11, no. 1, p. 1-45; S. Johnston, *The Testament of Solomon from Late Antiquity to the Renaissance*, [у:] *The Metamorphosis of Magic from Late Antiquity to the Early Modern Period*, edited by J. N. Bremmer and J. R. Veenstra, Leuven 2002, p. 35-50.

61 Р. Симонов, *Математическая и календарно-астрономическая мысль*, с. 395-413.

62 Р. Симонов, *Об альтернативном восприятии часовой магии в России конца XVII в.*, „Древняя Русь. Вопросы медиевистики", 2017, № 4 (70), с. 58-63.

63 РГБ, Собр. Ундольского, № 1022, л. 52-61.

Кірыла-Белазёрскага манастыра (1450-1470 гады)[64]. У ім паўтараецца цыклічнасць кожныя 7 гадзін, якая ўласціва для тэкстаў звязаных з планетамі гадзін. Прасочваецца і падабенства характарыстык гадзін. На нашу думку два віды тэкстаў былі непасрэдна звязаны. Тэкст пра добрыя і дрэнныя гадзіны мог з'явіцца як інтэрпрэтацыя, без пазначэння планет.

Тэкст „Тых же звездъ моць сицова" (№ 3) паўтараецца два разы, другі раз без назвы і без згадкі пра Марс. Прыведзены звесткі крысныя для прагназавання: Сатурн і Юпітэр вызначае тэндэнцыі на доўгія гады, Марс — на кароткія, Сонца — на сярэднія, а Меркурый, Венера і Месяц — на гадзіны[65]. Такія вызначэнні даюцца ў адпаведнасці з цыклам праходжэння. Так Месяц мае самы кароткі цыкл і яго ўплыў можна адчуваць некалькі гадзін. Выкарыстоўваюцца гэтыя паняцці ў транзітнай прагностыцы астралогіі, а таксама ў натальнай і мунданнай астралогіі. Гэтыя перыяды не маюць дачынення да працягласці жыцця чалавека, як пра гэта было адзначана ў гістарыяграфіі[66].

У тэксце „Мудрость великая бяди без тряда тобе ведомо" (№ 6) прадстаўляе важныя веды для вызначэння кіруючага знака задыяка пры нараджэнні[67]. Так народжаны ў гадзіну Венеры днём мае знак Шалі, а ноччу — Цялец; у гадзіну Меркурыя — днём Блізнец і ноччу Дзева; у гадзіну Сатурна — днём Вадалей і ноччу Казярог; у гадзіну Марса — днём Авен і ноччу Скарпіён; у гадзіну Юпітэра — днём Стралец і ноччу Рыбы. Толькі Сонца і Месяц кіравалі адным знакам, таму для іх не мела гэта значэння. У сучаснай астралогіі гэта амаль не выкарыстоўваецца. Яшчэ даецца характырыстыка знакаў задыяка па колерах і стыхіях. Памылкова Вадалей прылічаны да воднай стыхіі, а Рыбы да паветранай. Павінна быць наадварот.

Наступны тэкст „Осени 12 звезды, што владеют къ 12 частьям человеческим" (№ 8) апавядае, якімі знакамі задыяка кіруюць Сонца, Месяц і планеты[68]. Дадаткова прыводзіцца інфармацыя пра гарманічныя і напружаныя аспекты паміж знакамі задыяка. Іх таксама можна выкарыстоўваць, калі ў гэтых знаках знаходзяцца планеты. У астралогіі да гарманічных аспектаў адносяцца секстыль (30°), трыгон (90°),

64 Н. Тихонравов, *Памятники отреченной русской литературы*, т. II, Москва 1863, с. 382-384; Р. Симонов, *Математическая и календарно-астрономическая мысль*, с. 247-248, 251-253.

65 НББ № 091/276К, арк. 63, 72 адв.

66 Н. Ивашина, Е. Руденко, *Манускрипт № 091/276К,* с. 69.

67 НББ № 091/276К, арк. 67.

68 Тамсама, арк. 73-73 адв.

а да напружаных — квадратура (90°) і апазіцыя (180°). Злучэнне можа быць як гарманічным, так і напружаным у залежнасці ад таго, у якім знаку і якія планеты знаходзяцца. У дадзеным тэксце апісаны секстылі і квадратуры. У секстылях добра спалучаюцца блізкія стыхіі як вада і зямля, паветра і агонь. У квадратурах канфліктуюць агонь і вада, паветра і вада, зямля і паветра, зямля і агонь. Памылка толькі зроблена ў выпадку Вадалей — Стралец. Гэтыя знакі не канфліктныя паміж сабой.

Асобны тэкст пра перыяд звароту Сонца „Солнце обходить тоу 12 на десять зодеи...” (№ 16). У ім адзначаецца, што за год Сонца праходзіць 365 дзён, а 6 гадзін за 4 гады ствараюць дзень для высакоснага года[69]. Па сэнсе і мове ён падобны на тэкст са збору Ундольскага[70].

Тэкст „Поут солнечныи” (№ 17) адзначае, што за год Сонца праходзіць 12 знакаў задыяка[71]. Па сэнсе і мове ён падобны да тэксту са збору Ундольскага XVII стагоддзя[72]. Блізкі да яго тэкст быў вядомы на тэрыторыі Маскоўскага княства яшчэ ў другой палове XV стагоддзя[73]. Пачатак сонечнага цыкла ў знаках ідзе ў Авена з 14 сакавіка і далей у гэтыя даты па чарзе Сонца ўваходзіць у кожны знак задыяка. На той час яшчэ не была праведзена рэформа календара і знакі задыяка пачыналіся амаль з сярэдзіны месяца. Падобныя даты сустракаюцца ў выданні Францыска Скарыны[74].

У тэксце змешчаны падзел знакаў на кардынальныя (Авен, Рак, Шалі, Казярог), фіксаваныя (Скарпіён, Леў, Цялец, Вадалей), мутабельныя (Дзева, Стралец, Блізнец, Рыбы). Інфармацыя пра гэта неабходна для вызначэння, калі трэба даваць лекі і пускаць кроў. Пры знаходжанні Месяца ў кардынальных знаках было добра лекаваць, у мутабельных — сярэдне, а ў фіксаваных — дрэнна. Гэта адпавядала характарыстыкам знакаў. Кардынальныя знакі цалкам мяняюць сітуацыю. Іх абіраюць у электыўнай астралогіі, калі трэба змяніць справу, а ў выпадку лячэння змены патрабаваліся. Мутабельныя знакі даюць пераход з адной хваробы ў другую, таму яны лічыліся сярэднімі. А фіксаваныя проста захоўвалі сітуацыю і не прыводзілі да паляпшэння здароўя. Так як знаходжанне ў адпаведным знаку мела значэнне для Месяца, то падавалася

69 Тамсама, арк. 78 адв.
70 РГБ, Собр. Ундольского, № 1022, л. 39.
71 НББ № 091/276К, арк. 78 адв.-79.
72 РГБ, Собр. Ундольского, № 1022, л. 39-40 об.
73 Р. Симонов, *Математическая и календарно-астрономическая мысль*, с. 351-367.
74 Ю. Лабынцаў, *„Зерцало жытия...”: Из литературного наследия Ф. Скорины*, Мінск 1991, с. 179-205.

інфармацыя як гэта вылічыць. Гэты метад выкарыстоўваўся для знакаў задыяка і адрозніваўся ад метаду, апісанага ў „Шэстакрыле”.

Невялікі тэкст „Седмь сят планеты” („Седм соут планеты”, № 13) падаецца два разы. Па сэнсе і мове ён падобны на тэкст са збору Ундольскага[75]. Даецца падзел планет на добрыя (Юпітэр, Венера), дрэнныя (Сатурн, Марс) і сярэднія (Сонца, Месяц, Меркурый). Яго выкарыстоўвалі для характарыстыкі ўплыву планет на падзеі і людзей. Асобна даецца апісанне ўласцівасцей планет: Сатурн — халодны і сухі, Юпітэр — цёплы і мокры, Марс — цёплы і сухі, Сонца — цёплае і сухое, Венера — цёплая і мокрая, Месяц — студзёны і мокры, Меркурый — ніякі, а на думку некаторых астролагаў сухі[76].

Кароткі тэкст „А коли хочеш ведат каждого человека звездя” (№ 11) звязвае нумералогію і астралогію[77]. Згодна з ім кожная планета мела сваю лічбу: Сонца — 1, Венера — 2, Меркурый — 3, Месяц — 4, Сатурн — 5, Юпітэр — 6, Марс — 7. Методыка выкарыстоўваецца наступная: у імя кожнай літары надаецца лічба, пасля ўсе складаюцца. Напрыклад, калі агульная выходзіць — 15, то яшчэ складаецца 1+5=6. Значыць планета асобы Юпітэр.

*Астралагічныя веды пра свяціла і планеты.* У гэтым раздзеле мы падагулім астралагічныя веды пра свяціла і планеты сабраныя ў рукапісе. Апісанне нябесных цел прадстаўлена згодна з халдэйскім радам.

На тыя часы Сатурн лічыўся вышэйшай планетай і самай павольнай, уплывала на гістарычныя цыклы развіцця разам з Юпітэрам. Цыкл праходу па задыяку — 30 гадоў (29,5 года[78]), а знаходжанне ў адным знаку 2 гады і 182 (2–2,5 года) дні, у адным градусе — 20 дзён ці каля месяца (9-11 дзён). Сам цыкл адлічваўся ад Казярога, як ад кіруючага знака Сатурна. Планета лічылася халоднай і сухой, злой, зямной, мужчынскай, ліхой, шкоднай, лянівай, якая давала смерць, беднасць і хваробы. Знакі задыяка Сатурна — Казярог і Вадалей, колер — чорны, метал — волава і часткова жалеза. Яго гадзіны былі дрэнныя для спраў у нядзелю, панядзелак сераду, чацвер, суботу. У гадзіну Сатурна задаваліся пытанні пра парабкаў, жыдоў, рабоў. Упершыню ў гэтым рукапісе адзначаецца, што Сатурн панаваў над ВКЛ, Ноўгарадам Вялікім і Маскоўскім княствам. Народжаны пад планетай Сатурн меў цяжкі характар, сварлівы,

[75] РГБ, Собр. Ундольского, № 1022, л. 40 об.
[76] НББ, № 091/276К, арк. 77, 79 адв.
[77] Тамсама, акр. 74.
[78] У дужках падаюцца сучасныя разлікі праходу планет. Там, дзе няма ўдакладненняў у дужках, азначае, што лічбы не змяніліся. Праз рыску лічбы прыведзены, калі ў тэкстах падаваліся розныя лічбы.

dwóm po zł[oty]ch cztyry czyni zł[oty]ch oś[ie]m. Patelnia mała iedna. Naczynie browarne, czop ieden, wanna iedna, beczek oś[ie]m, fas iedynaście, kadź dziewięć, cebrów trzy, wiader dwie, doynica[93] jedna, koryt pięć, szafa malowana ze skrzynią wielką. Pszczół pniów szesnaście, gęsi dwadzieścia starych, młodych dwadzieścia sześć. Żupan kitaiowy wyż wyrażony oddał Panu Niewiarowskiemu, dług za obligiem u J[egomości] Pana Zygmunta Łukaszewicza zł[oty]ch dwieście *ad rationem*[94], którego wzięto raz czerwony złoty, drugi raz talar bity, z którego długu J[ej]m[ości] Pani Bułhakowey, podstoliney smoleńskiey matce moiey zł[oty]ch sto, a resztę J[ej]m[ości] Pani Borkowskiey zł[oty]ch sto z prowizyą teyże sumy. J[ej]m[ość] Pannie Annie Karpiównie, siestrze moiey, zakonnicy zakonu ś[więteg]o Franciszka Panien Bernardynek konwentu słonimskiego z miłości moiey braterskiey zapisuję na habit zł[oty]ch sześćdziesiąt z krescencyi[95] moiey wypłaconą ma być w roku teraźn[iejszym] tysiąc sied[e]msetnym dwudziestym dziewiątym. Pannie Rakównie oddać zł[oty]ch dziesięć, Panu Niewiarowskiemu burdasy granatowe oddać y botow parę nowych. U tego regestru podpis ręki aktora tymi słowy Franciszek Karp, który to regestr za podaniem onego przez wyż wyrażoną osobę do akt, iest do Xiąg Grodzkich słonimskich przyięty y wpisany.


**Summary**

**Life and Hardships of a Nobleman, who Owned Just One Village on the Example of Franciszek Karp (1703-1729), the Owner of Iwankowicze in the Slonim County**

The article presents the figure of Franciszek Karp (ca. 1703–1729) the owner of the Iwankowicze estate in the Slonim County.



**Keywords:** Karp family, Iwankowicze, Slonim County in the eighteenth century.



**Змест**

**Жыццё і худоба шляхціца-аднавяскоўца ў першай палове XVIII стагоддзя на прыкладзе Францішка Карпа (каля 1703-1729), землеўладальніка са Слонімскага павета**

У артыкуле прадстаўлена асоба Францішка Карпа (каля 1703-1729), уладальніка маёмасці Іванкавічы Слонімскага павета.



**Ключавыя словы:** род Карпаў, Іванкавічы, Слонімскі павет XVIII ст.



**Sławomir Karp** — magister ekonomii, heraldyk. Autor ponad dwudziestu prac o tematyce historyczno-genealogicznej. Niezwiązany z żadnym ośrodkiem naukowym. Zainteresowania badawcze: heraldyka i genealogia rodzin z Wielkiego Księstwa Litewskiego, zwłaszcza tych mniej znanych.


93 Naczynie, do którego dojono mleko.
94 Na rachunek.
95 Plony uzyskane w gospodarstwie rolnym w ciągu jednego roku.

**Яўген Анішчанка**
(Мінск)

## Картаграфаванне Беларусі ў 1772-1917 гадах

Беларускія землі здавён малявалі на картах пад тапонімамі «Сармація», «Русь», «Палессе», «Літва», «Russia Biancha», «Белая Русь» у залежнасці ад палітычнага падпарадкавання тэрыторыі, светапогляду, эрудыцыі і кваліфікацыі картографаў і іх заказчыкаў. Аналагічны лёс зведала картаграфаванне Беларусі і ў час пераходу яе са складу Рэчы Паспалітай у падначаленне Расійскай імперыі.

### Карты апошніх гадоў існавання Рэчы Паспалітай

На момант свайго першага падзелу ў 1772 годзе землі сучаснай Беларусі ўваходзілі ў склад Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ), якое ў афіцыйным справаводстве на ўсім працягу XVIII стагоддзя называлі „Літоўскай правінцыяй". Мяжу ВКЛ з Расійскай імперыяй рэвізавалі ў 1767 годзе камісары з абодвух бакоў. Вялікі сейм у лістападзе 1791 г. падзяліў ВКЛ на 34 паветы, стварыўшы новымі Завілейскі, Эйшышскі, Случарэцкі, Кобрынскі, Пінска-Зарэчны паветы. Рэалізацыю адміністрацыйнай перабудовы перапыніла інтэрвенцыя Расіі ў 1792 г.

„Літва" разам з „Каронай" стваралі федэратыўную Рэч Паспалітую, якая ў перыяд яе падзелаў 1772, 1793 і 1795 гадоў не мела цэнтралізаванай тапографа-геадэзічнай службы. Яе картаграфаваннем займаліся прыдворныя геаметры караля ў яго Картаграфічным бюро і афіцэры сціплых па колькасці карпусоў кадэтаў, артылерыі і інжынераў.

Іх высілкі ўвасобіў палкоўнік **Герман Караль Пертэс** (1739-1815), які прадставіў у 1770 г. у маштабе каля 1:935 000 «Карту Польшчы...»[1] у складзе 48 лістоў памерам 17,8 х 23,8 см. Карты гравіраваў у Парыжы Антуан Франсуа Тардзье (1757-1822). Сетка праз 1° ад Феро, легенда ўтрымлівае 15 умоўных знакаў: дарог, меж, рэк, пераправаў, селішчаў, лясоў і г.д. У 1809 г. Г. Пертэс выдаў у Парыжы «Гідраграфічную карту

[1] «Carte de la Pologne. Polonia secundum legitimas proiectionis stereographicae regulas et iuxta recentissimas observationis adhibitis MDCCLXX» („Карта Польшчы, паводле праввых нормаў і апошніхназіранняў з выкарыстаннем праекцый").

Польшчы»[2]. Рачную сетку краіны гравіраваў на лісце 65 х 79 см. у маштабе 1:1 700 000 Е. Коллін.

Італьянскі інжынер-гідрогаф **Джаванні Антоніо Барталамеа Рыччы Заноні** (1736-1814) выдаў у 1772 г. у Парыжы пры падтрымцы навагрудскага ваяводы Юзэфа Аляксандра Ябланоўскага і з ужываннем яго вялікага картагафічнага збору «Карту Польшчы...»[3]. У сутнасці гэта першы атлас краіны ў маштабе каля 1:692 000, які складаецца з 24 нумараваных карт фармату 53,0 х 33,5 см. Зборная карта ў маштабе 1:2 760 000 уяўляе адміністрацыйнае дзяленне дзяржавы і найважнейшыя рэкі. Картаграфічная сетка ў 1°, даўгата лічыцца з Парыжа. Колерам вылучаны толькі межы. У легендзе змешчана каля 50 знакаў, большай часткай адносна паселішчаў.

Меней пэўныя ў гэтым шэрагу 4-ліставая «Генеральная новая карта Польшчы і ВКЛ»[4] капітана артылерыі **Барталамеа Фоліно** (1738-1808), выдадзеная ў 1770 г. у маштабе каля 1:1 235 000 у двух экзэмплярах; 16-ліставая «Новая геаграфічная карта Польскага каралеўства, ВКЛ, падзеленых на правінцыі...»[5] Яна Бакаловіча, выдадзеная каралеўскім бібліятэкарам **Янам Якубам Кантарам** у 1770/1771 гг. у маштабе 1:675 000; 25-ліставая «Новая геаграфічная карта Польскага каралеўства і ВКЛ»[6] ваеннага картографа **Тэодара Філіпа Пфау** (1725-1794) 1771/1772 гг. маштабу 1:525 000, памерам 50 х 46 см (з дадаткамі ў маштабе 1:175 000 у 1776-1787 гг.); а таксама выдадзеная ў 1773 г. «Генеральная карта Польшчы» паручніка корпуса пантанёраў **Д. А. Моллера**.

Для складання больш праўдзівай і дэталёвай агульнай карты Рэчы Паспалітай у 1782-1784 гг. праводзілася падрабязнае анкетаванне парафій, у тым ліку напачатку 1788 г. было завершана 12-томнае апісанне

2 «Carte hydrographique de Pologne».

3 «Carte de la Pologne divisée par provinces et palatinats et subdivisée par districts. Construite d’aprés quantité d’Arpentages d’Observations, et de Mesures prises sur les Lieux. Dediée a Son Altesse le Prince Prusse-vindes Joseph Alexandre Jabłonowski Palatin de Nowogrod Chevalier des Ordres du St. Esprit, de l’Aigle blanc et de St. Hubert Aßocié a l’Académie Rle. des Sciences de Paris. Par son trés humble et trés oberßant Serviteur» („Карта Польшчы з часткай на правінцыі, ваяводствы і паветы падзеленай...”).

4 «Carte générale et nouvelle de toutte la Pologne, du Grand Duché de Lithuanie et des pais limitrofes».

5 «Regni Poloniae, Magni Ducatus Lituaniae, provinciarum foedere et vasallagio illis junctarum, et regionum vicinarum nova mappa geographica. Borussiae Principi Friderico Henrico Ludovico, Friderici Regis Fratri Forti, Benigno Musis Amico, humillime dedicata a Joanne Jacobo Kanter bibliopola».

6 «Regni Poloniae, Magni Ducatus Lituaniae Nova Mappa Geographica Concessu Borussorum Regis, C. B. Glassbach sculpsit Berolini 1770».

26 дэканатаў Віленскай дыяцэзіі, якая ахоплівала вялікую частку ВКЛ. Аднак, гэтыя тапаграфічныя вопісы засталіся ў рукапісах і толькі нядаўна пачалася публікацыя іх арыгіналаў. У 1792-1793 гг. намячалася нармальнае (усеагульнае) вымярэнне і размежаванне зямель у дзяржаве сіламі каморнікаў, абраных на сейміках шляхты па ваяводствах і паветах. Яны мелі ўрэгуляваць памежныя спрэчкі і стварыць да мая 1797 г. генеральную карту ВКЛ на аснове межавых планаў, якія таксама не былі выкананы. Увесну 1792 г. афіцэры корпуса інжынераў былі разасланы на ўсходнія ўскраіны краіны для нанясення на маршрутныя карты ў маштабе 1:57 000 дарог, перавозаў, лясоў, балот, вёсак, фальваркаў і мястэчак. Але і іх працу перапыніла раптоўная інтэрвенцыя Расіі.

Адзначаныя мерапрыемствы пераняла Расійская імперыя, у склад якой увайшлі землі сучаснай Беларусі ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай манархамі Расіі, Прусіі і Аўстрыі.

**Адміністрацыйна-тэрытарыяльныя пераўтварэнні Расіі**

Па першым падзеле тэрыторыі, што раней уваходзілі ў склад Полацкага, Віцебскага, Мсціслаўскага і часткі Мінскага ваяводстваў ВКЛ, увайшлі ў склад дзвюх губерняў — Пскоўскай і Магілёўскай.

**Пскоўская губерня** складалася з пяці правінцый: дзвюх вялікарасійскіх — Пскоўскай і Вялікалуцкай, і трох беларускіх — Дзвінскай, якая раней мела назву польскай Ліфляндыі, Полацкай, у склад якой увайшлі часткі Полацкага і Віцебскага ваяводстваў правей ракі Дзвіна і Віцебскай правінцыі. Цэнтрам станавіўся Полацк. У 1775 г. правінцыі Пскоўскай губерні былі падзелены на паветы: Дзвінская — на Дынабургскі, Марыенгаўзенскі і Рэжыцкі; Полацкая — на Невельскі, Полацкі і Себежскі; Віцебская — на Веліжскі, Віцебскі і Гарадоцкі. Полацкая губерня была ўтворана ў 1776 г. з Віцебскай, Дзвінскай і Полацкай правінцый Пскоўскай губерні ў складзе 11 паветаў: Полацкі, Дрысенскі, Себежскі, Невельскі, Дынабургскі, Рэжыцкі, Люцынскі, Віцебскі, Веліжскі, Гарадоцкі, Суражскі. Указам ад 22 сакавіка 1777 г. імператрыца Кацярына II вызначыла новае адміністрацыйна-тэрытарыяльнае ўладкаванне ўсіх адзінаццаці паветаў Полацкай губерні.

У склад **Магілёўскай губерні** спачатку ў 1772 г. увайшлі чатыры правінцыі: Магілёўская, Аршанская, Рагачоўская і Віцебская. Губернскім горадам прызначаўся Магілёў. Магілеўская губерня была раздзелена на 12 уездаў: Бабінавецкі (скасаваны ў 1840 г.), Беліцкі (у 1852 г. пераназваны ў Гомельскі), Клімавіцкі, Капыскі (скасаваны ў 1861 г.), Магілёўскі, Мсціслаўскі, Аршанскі, Рагачоўскі, Сенненскі, Старабыхаўскі (у 1852 г. пераназваны ў Быхаўскі), Чавускі, Чэрыкаўскі. У 1778-1796 гг. губерня разам з Полацкай таксама называлася намесніцтвам.

У 1793 г. у складзе Полацкай губерні з новых далучаннх тэрыторый быў створаны дванаццаты павет — Лепельскі.

Далучаныя ў 1772 г. землі афіцыйна называліся «присоединенными от Польши» і толькі зрэдку беларускімі губернямі без якога-небудзь разгорнутага абгрунтавання гістарычных правоў на іх. Кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі з дапамогай свайго сакратара Фелікса Лойкі аспрэчыў фальшывыя дамаганні прускага і аўстрыйскага двароў (без рускага) і ў 1773 г. апеляваў да еўрапейскіх двароў за абаронай. У некаторых сталіцах неўзабаве з'явіліся карты, якія малявалі маштабы анексіі. Свае прэтэнзіі Расія пры ціску на караля і сейм Рэчы Паспалітай пачынала з 1512 г. да невялікага кавалка пад Кіевам (983 750 дзесяцін), хаця потым анексія ахапіла больш 8 млн. дзес. (каля 8 420 746) зямель, якія былі ў складзе ВКЛ з XII стагоддзя. У 1775 г. дэмаркацыю мяжы першага падзелу на беларускай зямлі рабілі рускія камісары на чале з пскоўскім губернатарам Міхаілам Крачэтнікавым і камісары сейма Рэчы Паспалітай з удзелам паручніка Караля Серакоўскага і сакратара Юльяна Урсына Нямцэвіча. Серакоўскі потым у 1782-1783 гг. кіраваў камісіяй па дэмаркацыі мяжы з Расіяй паміж Крылавам і Лоевам.

Па другім падзеле Рэчы Паспалітай 14 сакавіка 1793 г. паміж Расіяй і Прусіяй, Расія атрымала Мінскую, Валынскую і Падольскую землі, з якіх па ўказе Кацярыны II ад 31 сакавіка 1793 г. былі створаны тры губерні: Мінская, Ізяслаўская і Брацлаўская.

Створаная ў 1793 г. Мінская губерня першапачаткова складалася з 13 паветаў: Бабруйскі, Барысаўскі, Вілейскі, Давыд-Гарадоцкі, Дзісненскі, Докшыцкі, Ігуменскі, Мінскі, Мазырскі, Нясвіжскі, Пінскі, Пастаўскі і Слуцкі. У снежні 1796 г. былі скасаваны Давыд-Гарадоцкі, Докшыцкі, Нясвіжскі, Пастаўскі паветы, у 1797 г. да губерні далучаны з Чарнігаўскай губерні Рэчыцкі павет. Да 1842 г. у Мінскай губ. меліся 10 паветаў: Мінскі, Бабруйскі, Барысаўскі, Ігуменскі, Вілейскі, Дзісненскі, Мазырскі, Пінскі, Рэчыцкі і Слуцкі. 18 снежня 1842 г. паводле ўказа Сената „Аб пераўтварэнні Паўночна-Заходніх губерняў" Дзісненскі і Вілейскі паветы адышлі да Віленскай губ., а да Мінскай быў далучаны Навагрудскі павет Гродзенскай губерні. У складзе дзевяці паветаў (Бабруйскі, Барысаўскі, Ігуменскі, Мінскі, Мазырскі, Навагрудскі, Пінскі, Рэчыцкі і Слуцкі) Мінская губерня праіснавала да 1917 г.

Пры другім падзеле Расія галасна заявіла пра далучэнне зямель, якія «спрадвеку» належалі Расіі, але ніякага аргументаванага твора на гэты конт не прыводзілася. Адным з першых твораў гэтай пары была рукапісная «Генеральная карта восьми областей...»[7]. Гэта карта выканана

[7] «Генеральная карта восьми областей, под скипетр всероссийский в 1793 году

губернскім каморнікам **І. Міронавым**, які паказвае Мінскую губерню ў маштабе 1:1 680 000, яе мястэчкі, а на асобных табліцах — колькасць паселішчаў і насельніцтва абодвух палоў у суседніх Полацкай і Магілёўскай губернях.

У сувязі з падаўленнем паўстання 1794 г. у 1795 г. адбыўся **трэці падзел** Рэчы Паспалітай. На далучанай тэрыторыі рэшткі Вялікага Княства Літоўскага падзяляліся на тры часткі з цэнтрамі ў Вільні, Гродне і Коўне. У склад першай увайшлі паветы: Віленскі, Завілейскі, Ашмянскі, Браслаўскі, Лідскі і Троцкі; да другой — Гродзенскі, Навагрудскі, Слонімскі, Ваўкавыскі і Брэсцкі паветы, а да трэцяй — Ковенскі, Вялікамірскі, Упіцкі і Самагіція. У ліпені 1796 г. тры часткі былі падзелены на **Віленскае** і **Слонімскае** намесніцтвы. У склад Віленскага намесніцтва ўвайшлі 11 паветаў: Віленскі, Завілейскі, Троцкі, Браслаўскі, Ашмянскі, Ковенскі, Панявежскі, Вялікамірскі, Цяльшэўскі, Расонскі і Шавельскі. **Слонімскае намесніцтва** складалася са Слонімскага, Навагрудскага, Гродзенскага, Ваўкавыскага, Брэсцкага, Кобрынскага, Пружанскага і Лідскага паветаў.

Працы па дэмаркацыі новай мяжы з Прусіяй пачаліся ў лютым 1796 г. камісіяй з удзелам прускіх генерал-маёра А. Г. фон Ціле, маёра С. Ф. Штэйна, дарадніка А. Ф. Феттэра; ад Расіі — генерал-маёра графа Н. П. Паніна, калежскага дарадніка А. А. Якаўлева пад кіраваннем князя Н. В. Рэпніна. Завяршылася праца камісіі падпісаннем 2/13 жніўня 1796 г. у Гародні дэмаркацыйнага акта з прыкладаннем да яго «Падрабязнага пазначэння меж», у якім паказваліся месцы ўсталёўкі памежных слупоў. Усе спрэчныя пытанні, злучаныя з апошнім падзелам, былі канчаткова ўрэгуляваны расійска-прускай канвенцыяй пра знішчэнне Рэчы Паспалітай 15/26 студзеня 1797 г. У выніку Расія атрымала агульную мяжу з Аўстрыяй і Прусіяй, да аховы якой прыступіла вольнанаёмная мытная варта.

У такім складзе губерні праіснавалі толькі некалькі месяцаў. Указам ад 12 снежня 1796 г. Магілёўская і Полацкая губерні аб’ядноўваліся ў Беларускую губерню з цэнтрам у Віцебску, а Слонімская і Віленская губерні ўтваралі Літоўскую губерню з 19 уездаў, губернскім горадам якой стала Вільня.

Беларуская губерня з цэнтрам у Віцебску складалася з 16 паветаў: Беліцкага, Веліжскага, Віцебскага, Гарадоцкага, Дынабургскага, Люцынскага, Магілёўскага, Мсціслаўскага, Невельскага, Аршанскага, Полацкага, Рагачоўскага, Себежскага, Сенненскага, Чавускага,

от Польши возвращенных и разделенных на губернии и округи с означением их частей, отделяемых к сопредельным наместничествам».

Чэрыкаўскага. У жніўні 1801 г. губерня была падзелена на Віцебскую і Магілёўскую губерні, а Літоўская губерня зноў падзелена на Віленскую і Слонімскую (з 1802 г. Гарадзенская) губерні.

У склад Гарадзенскай губерні з 1802 г. уваходзілі восем паветаў: Брэсцкі, Ваўкавыскі, Гарадзенскі, Кобрынскі, Лідскі, Навагрудскі, Пружанскі, Слонімскі.

Частка тэрыторыі, якая адышла ў выніку трэцяга падзелу да Прусіі, а па Тыльзіцкім міры 1807 г. перададзена Расійскай імперыі, у 1808 г. атрымала назву Беластоцкай вобласці з цэнтрам у Беластоку. Вобласць складалася з чатырох паветаў: Беластоцкага, Бельскага, Сакольскага і Драгічынскага. У 1842 г. вобласць увайшла ў склад Гродзенскай губерні. Пры гэтым Драгічынскі павет быў аб’яднаны з Бельскім, Лідскі далучаны да Віленскай губ., Навагрудскі — да Мінскай. У выніку ў Гродзенскай губерні засталося дзевяць паветаў, якія праіснавалі да 1917 г. У сувязі са стварэннем Ковенскай губерні ў 1843 г. у складзе Віленскай губерні засталіся сем паветаў: Віленскі, Троцкі, Лідскі, Свянцянскі, Ашмянскі, Вілейскі і Дзісненскі.

Нягледзячы на тое, што ў 1801 г. Беларуская і Літоўская губерні былі скасаваны, але да 1840 г. гэтыя назвы прысутнічалі ў справаводстве і заканадаўчых актах. Уся далучаная да Расійскай імперыі тэрыторыя, якая ўключала беларускія, літоўскія і ўкраінскія землі, у афіцыйным справаводстве называлася Заходні край ці заходнія губерні. У іх склад уваходзілі Віленская, Віцебская, Гродзенская, Ковенская, Мінская, Магілёўская, Кіеўская, Валынская і Падольская губерні. Першыя шэсць губерняў інакш называліся паўночна-заходнімі, а тры ўкраінскія — паўднёва-заходнімі. Акрамя гэтага, у 1863-1870 гг. Віленская, Гродзенская, Ковенская, Віцебская, Мінская і Магілёўская губерні знаходзіліся ў складзе Віленскага генерал-губернатарства. Гэта адміністрацыйная адзінка ў той час атрымала назву „Паўночна-Заходні край”. Пасля скасавання ваеннага становішча і выхаду Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губерняў са складу Віленскага генерал-губернатарства, апошняе да 1912 г. заставалася ў складзе трох губерняў — Віленскай, Гродзенскай і Ковенскай.

### Галоўныя вехі па інкарпарацыі далучанай прасторы

Падзелы і далучэнні ў 1772, 1793 і 1795 гг. адбыліся прыкладна па адным і тым жа сцэнарыі: 1) стварэнне прарасейскай партыі; 2) увод расейскіх войскаў для падтрымкі саюзнікаў і папярэдняе вынішчэнне імі ўзброенага супраціву; 3) легалізацыя анексіі на сейме Рэчы Паспалітай; 4) прысяга насельніцтва захопленых зямель расійскаму імператару.

Масква пры гэтым выступала цэнтрам аб'яднання ўсіх праваслаўных народаў пад скіпетрам рускага цара і вызвалення іх ад польска-каталіцкага ўплыву і прыгнёту. Царскае самадзяржаўе лічыла, што вяртае ад Польшчы «издревле русские по происхождению, нравам и навыкам их жителей области» і імкнулася іх поўнасцю русіфікаваць і беззваротна інкарпараваць з велікарускімі землямі імперыі.

Сродкамі гэтага выступалі — неадкладнае ўвядзенне рускага тэрытарыяльна-адміністрацыйнага дзялення, канфіскацыя і секвестр землеўладанняў апазіцыі; дэпартацыя і ссылка найбольш актыўных супраціўленцаў углыб Расіі; насаджэнне аднастайнай рускай сістэмы кіравання і суда, справаводства, грошай, банкаўскага залогу зямель, рэкрутчыны, рускай сістэмы адукацыі і мовы, прымусовае ўкараненне праваслаўнага веравызнання ўзамен іншых канфесій.

Страчаную айчыну шляхта спрабавала аднавіць як шляхам паўстанняў, так і змовай з акупантамі, якія самі разыгрывалі т.зв. польскую карту ў сваіх вялікадзяржаўных інтарэсах напярэдадні нашэсця французаў у 1812 годзе. Актыўны ўдзел магнацтва і шляхты на баку Напалеона і ў паўстанні 1830-1831 гг. прымусіла самадзяржаўе на рашучыя дзеянні па асіміляцыі Беларусі з карэннай Расіяй. 16 верасня 1831 г. быў створаны спецыяльны „Заходні камітэт", задачаю якога было зраўняць Заходні край ва ўсіх адносінах з унутранымі вялікарускімі губернямі. Дзеля гэтага ў 1831 г. была адменена дзейнасць Статута ВКЛ у Віцебскай і Магілёўскай губернях, а ў 1840 г. — на ўсёй тэрыторыі былога ВКЛ. Замест яго ўводзілася расійскае заканадаўства. Указам ад 18 чэрвеня 1840 г. цар Мікалай I забараніў выкарыстоўваць назвы «Беларусь» і «Літва», «Беларускія губерні» і «Літоўскія губерні». Замест іх уводзілася назва «Северо-Западный край».

Пасля 1831 г. усім дзяржаўным установам і пасадам на землях былога ВКЛ былі дадзены расійскія назвы. Мясцовыя адміністрацыйныя і судовыя ўстановы наводняліся чыноўнікамі з уласна расійскіх губерняў. Скасоўваліся незалежнасць ад адміністрацыі і самастойнасць шляхецкіх выбарных устаноў. Права ўдзелу ў выбарах давалася толькі тым землеўладальнікам, якія не менш дзесяці гадоў былі на дзяржаўнай службе. З 1855 г. у Заходніх губернях усе найбольш адказныя дзяржаўныя пасады замяшчаліся рускімі чыноўнікамі праваслаўнага веравызнання з унутраных рэгіёнаў імперыі. Шляхта, якая не мела доказаў дваранскага стану, пазбаўлялася права валодання маёнткамі з прыгоннымі і пераводзілася ў падатковыя саслоўі.

У 1832 г. улады зачынілі Віленскі ўніверсітэт і ўсе навучальныя ўстановы, арганізаваныя каталіцкімі ордэнамі. Навучанне ў школах цалкам пераводзіцца на рускую мову. З 1836 г. забараняецца выкладанне

польскай мовы ў школах, а ў касцёлах забараняюцца публічныя пропаведзі на польскай мове без папярэдняй цэнзуры. У 1836 г. духавенству неправаслаўнага веравызнання забаранялася набываць ва ўладанне праваслаўных сялян, а ў 1841 г. прайшла канфіскацыя нерухомасці ў каталіцкага духавенства. У лютым 1839 г. усе ўніяты, якія складалі на той час большасць насельніцтва Беларусі, прымусова пераводзіліся ў праваслаўе. Са скасаваннем уніі знік вельмі важны чыннік, які адрозніваў беларусаў ад расіян і палякаў і стрымліваў працэс іх асіміляцыі. Дзяржава садзейнічала вывучэнню этнаграфіі беларусаў з мэтай паказаць тоеснасць іх з рускімі. Карэннае насельніцтва Беларусі абвяшчаецца заходняй часткай адзінага рускага народа. Але гэтыя даследаванні пераконвалі ў своеасаблівасці беларусаў. У выніку сфармавалася рэгіянальная ідэалогія „заходнерусізму", якая злучала сваіх паслядоўнікаў толькі з Расіяй.

Пасля разгрому паўстання 1863 г. Беларусь уступіла ў змрочную паласу рэпрэсій і татальнай русіфікацыі краю пры генерал-губернатарстве Міхаіла Мураўёва. Абшар рускага міра традыцыйна цалкам супадаў са сферамі распаўсюджвання праваслаўнага веравызнання. Для выкаранення ў Заходнім краі пальшчызны Мураўёў раіў стварыць новую Дынабургскую губерню з дамінаваннем тут рускіх, для чаго ўключаў сюды паветы Дынабургскі, Люцынскі, Рэжыцкі, Дрысенскі з Віцебскай губерні, Дзісенскі — з Віленскай, Новааляксандраўскі — з Ковенскай. Урад спрабаваў правесці ў 1911 г. земскую рэформу ў Віцебскай, Мінскай і Магілёўскай губернях. Парадак выбараў па нацыянальных курыях («руская» і «польская») раскалоў беларусаў па рэлігійнай прыкмеце і не дазваляў ім кансалідавацца. Царызм у чарговы раз праігнараваў існаванне беларусаў як тытульнай нацыі.

У канцы 70-х — пачатку 80-х гг. XIX ст. беларускія народнікі, прыхільнікі сацыялістычнай ідэалогіі, упершыню абгрунтавалі існаванне самастойнага беларускага этнасу, незалежнага ад інтарэсаў іншых славян — палякаў і вялікаросаў. У польскім нацыянальным руху дамінавала ідэя яднання ўсіх адвечных этнасаў Беларусі і Літвы, як адзінай гістарычнай «нацыі ліцвінаў пры свабодным і самастойным культурным развіцці кожнага з іх». Аднак сацыялісты ўспрымалі беларускі народ як сялянска-рабочы і адмаўляліся ад супрацоўніцтва, паколькі лічылі, што палякі «не збіраюцца губляць свайго панавання над намі».

Летам 1914 г. распачалася сусветная вайна, якая ўвагнала Беларусь у чарговыя пакуты ад бясконцых рэквізіцый збожжа, коней, жывёлы, рэкрутаў. У 1915 г. фронт падзяліў Беларусь і яе жыхароў на дзве часткі. На тэрыторыі, акупаванай германскімі войскамі, сябры

адной грамадскай плыні марылі ўзнавіць гістарычную ВКЛ у выглядзе канфедэрацыі роўных і аўтаномных народаў у складзе Віленскай, Ковенскай, Гродзенскай, Мінскай, часткі Сувалкскай губерняў і Курляндыі са сталіцай у Вільні. На ўсход ад лініі фронту кіраўнікі беларускага руху думалі пра аўтаномію Беларусі ў этнічных межах рассялення беларусаў, але ў складзе Расійскай дэмакратычнай федэратыўнай рэспублікі. Але ні Часовы ўрад Расіі, ні германскія акупанты не збіраліся прадастаўляць беларусам нават аўтаноміі ні на заходніх межах імперыі, ні на ўсходніх крэсах. Кіраўнікі Саветаў рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў, якія пасля Лютаўскай рэвалюцыі лічыліся альтэрнатыўнай і паралельнай уладай Часоваму ўраду, на Усерасійскай нарадзе Саветаў (29 сакавіка — 16 красавіка 1917 г.) стварылі 13 абласных аб'яднанняў Саветаў і злучылі неакупаваную немцамі частку Віленскай губерні, Мінскую і Магілёўскую губерні ў Заходнюю вобласць з цэнтрам у Мінску. Пасля кастрычніка 1917 г. да іх далучылася Віцебская губерня. Кіраўнікі бальшавіцкай партыі, якія ў кастрычніку 1917 г. захапілі ўладу ад імя Саветаў, таксама вызнавалі вялікадзяржаўныя падыходы да розных нацый былой імперыі. Яны 14 снежня 1917 г. передалі Дзвінскі, Рэжыцкі і Люцынскі паветы з Віцебскай губерні ў склад Ліфляндскай губерні, а 3 сакавіка 1918 г. заключылі з Германіяй Брэсцкі мір без удзелу беларускіх прадстаўнікоў, і зноў падзялілі тэрыторыю Беларусі па лініі Дзвінск-Свянцяны-Ліда-Пружаны-Бярэсце.

### Першыя карты расійскіх тапаграфічных службаў

Новастворaныя ў 1772-1796 гг. адміністрацыйныя адзінкі падлягалі картаграфаванню штатам сваіх чарцёжных з землямерамі.

Восенню 1774 г. землямеры Пскоўскай (Полацкай) губерні выканалі дарожную карту губерні з паказаннем адлегласцей паміж губернскімі і павятовымі цэнтрамі, «знаменитых» урочышчаў, рэк, сёл, перапраў у маштабе 1:420 000, якая затым трапіла ў «Топографическия известия, служащие для полного географического описания Российской империи» (у 4-х тамах, Санкт-Петербург, 1771-1774). З мясцовых чарцёжных 11 жніўня 1777 г. у Сенат паступілі атласы Полацкай і Магілёўскай губерняў у маштабе 1:210 000 у складзе генеральных карт, планаў гарадоў «старого и нового строения», карт уездаў з ведамасцямі аб дваранах і колькасці насельніцтва. Адно з такіх тапаграфічных апісанняў усходнебеларускіх намесніцтваў было зроблена ў сакавіку-ліпені 1784 г. па анкеце з 61 пытання як справаздача мясцовых паліцэйска-адміністрацыйных устаноў перад губернскімі праўленнямі. У 1792 г.

было створана яшчэ адно тапаграфічнае апісанне Полацкай губерні з адміністрацыйнымі картамі ў адказ на праграму Вольнага эканамічнага таварыства ад 1790 г. «Геометрические карты» выконваў каморнік Фёдар Тушар.

Адміністрацыйна-тэрытарыяльныя ўтварэнні на тэрыторыі першага падзелу адлюстраваны на друкаваных адналіістых картах Геаграфічнага дэпартамента Акадэміі Наук, які існаваў з 1762 да 1798 г. У 1765-1786 гг. яго ўзначальвалі нязменныя ад'юнкты **Іван Фаміч Трускот** (1721-1786) і **Якаў Фёдаравіч Шміт** (1723-1786). У прыватнасці ў 1773 г. Я. Ф. Шміт стварыў у маштабе 50 вёрст аднаістыя «Генеральную карту Псковской губернии» ў складзе 5 правінцый, і «Генеральную географическую карту Псковской и Могилевской губерний» у маштабе 20 і 30 вёрст, на якіх губерні паказаны каляровым фонам. Ён жа прадставіў у 1776 г. «Географическую карту Могилевской губернии, на четыре провинции разделенной» у маштабе 20 вёрст з паказам галоўных гарадоў, мястэчак, фарпостаў і застаў, і «Генеральную карту Могилевского наместничества...»[8] у 1777 г. у маштабе 1:504 000. Да прыкладу, Магілёўская губерня прадстаўлена 650 населенымі пунктамі. Вынікі губернскай рэформы 1775 г. згаданыя ад'юнкты Я. Шміт і І. Трускот адбілі ў друкаванай «Генеральной карте Российской империи по новейшим наблюдениям и известиям» у маштабе 1:7 350 000, на «Карте путешествия ея императорского величества в Белорусския наместничества в 1780 году» (маштаб 45 вёрст), недатаваных «Генеральной карте Псковской губернии, разделенной на пять провинций» і «Новой карте наместничеств» з уключэннем Магілёўскага і Полацкага намесніцтваў.

Новастворaныя ўсходнія намесніцтвы ўпершыню інструментальна былі закартаграфаваны падчас генеральнага межавання, якое праводзілася Смаленскай межавой канторай у Магілёўскай губ. (1783-1784 гг.) і Полацкай губ. (1784-1785 гг.) шляхам фіксацыі ў натуры і на генеральных планах уездаў бясспрэчных граніц землеўладанняў (дач) з іх падрабязным эканамічным апісаннем у асобных кнігах (эканамічных заўвагах). Граніцы маёнткаў землямеры вымяралі 10-сажнёвым жалезным ланцугом (21,3 м). Вуглы паваротаў хадавых ліній вымяраліся астралябіяй з дыёптрыяй і компасам. Межавыя планы арыентавалі па мерыдыяне на поўнач ружай вятроў без паправак за нахіл зямной паверхні да гарызонту, у выніку чаго практычна ігнаравалася

[8] «Генеральная карта Могилевского наместничества со означением уездов и показанием почт, границ, форпостов, таможен, застав и протчаго».

сферычнасць зямлі. Гэта адлюстроўвалася ў лінейнай і вуглавой незмыкальнасці контураў знятага палігона, у нестыкаванні граніц сумежных уладанняў і паветаў.

Планы дач складаліся ў маштабе 100 сажняў у цалі (1:8400), якія затым зводзіліся ў генеральныя павятовыя планы ў маштабе 1 вярста ў дзюйме (1:42 000). На аснове іх складаліся атласы губерняў у складзе генеральных карт паветаў у маштабе 1:84 000, планаў павятовых гарадоў (яны паказваліся ў маштабе 50 або 100 сажняў у цалі з праектаванымі забудовамі) з прыкладаннем тэкставых эканамічных заўваг. Усяго на межавых планах і атласах было змешчана і апісана па Полацкай губерні 15 337 населеных пунктаў з 75 715 дварамі і 608 000 жыхарамі абодвух палоў, па Магілёўскай губерні — 5138 паселішчаў з 86 618 дварамі і 627 600 жыхарамі. У 1785-1789 гг. Магілёўска-Полацкая межавая кантора выканала не менш васьмі варыянтаў генеральных планаў і атласаў на Магілёўскае намесніцтва і сямі варыянтаў картаграфічных вынікаў межавання Полацкай губерні. Усе матэрыялы генеральнага межавання засталіся ў рукапісным выглядзе.

Літоўскую губерню ў 1796-1797 гг. картаграфаваў палкоўнік **Барэнвіль** пры ўдзеле васьмі афіцэраў кватармайстраў спачатку ў маштабе 1:56 000, а пазней — 1:112 000.

Падобныя з межавымі атласы, але без інструментальных вымярэнняў, былі выкананы паміж 1797-1807 гг. на Мінскую (змяшчаў 6570 паселішчаў), Віленскую і Беларускую губерні сіламі мясцовых чарцёжных і пры анкетаванні ўсіх падведамасных устаноў. Атлас Гарадзенскай губерні быў зроблены ў 1801-1809 гг., для чаго мясцовых землямераў разаслалі па паветах паправіць яе па апытаннях абывацеляў і па планах уладальнікаў. У красавіку 1807 г. пры віленскай чарцёжнай быў закончаны атлас Віленскай губерні, які ўключаў 4-верставыя планы Браслаўскага, Завілейскага і Ашмянскага паветаў. У 1808 г. у будучым Ваенна-тапаграфічным дэпо капітан М. Ф. Канавалаў выканаў у 5 вёрстах рукапісную карту Беластоцкай вобласці з дэманстрацыяй у колеры рэчак, ручаёў, лясоў, мястэчак, фальваркаў, вёсак, культавых устаноў па канфесіях. У 1809 г. з атрыманых чарнавікоў (брульонаў)[9] тут зрабілі атлас Гродзенскай губерні, з якога ў 1812 г. знялі дзве копіі. Усе яны засталіся ў рукапісе.

У 1810 г. ваенны міністр даў указанне зняць прастору па ўсёй заходняй мяжы імперыі і нанесці на «генеральную в большом размере

[9] Брульон — план зроблены на вока з выкарыстаннем простых інструментаў, напрыклад бусоль, экер і інш.

карту все мостики, каналы, отдельные небольшие кустарники, церкви, каменные и деревянные часовни, мельницы (ветряныя и водяныя), гребли, плотины, небольшие луга, примыкающие к дороге, болотцы, леса и кусты, различая род оных, все дороги и тропы, выходящие на большую дорогу, с показанием, откуда или куда именно оные идут; деревни, названия их, господские дворы, отдельные домики, корчмы, огороды, сараи, города, местечки; границы губернские и уездные и где они проходят через дорогу, также показать стрелкою течение ручьев, рек и означать названия их. Съемка производится на две версты в каждую сторону». Падобныя географа-эканамічныя характарыстыкі прадугледжваліся ў першую чаргу для кватаравання войскаў і забеспячэння іх правіянтам і фуражом у тым ці іншым раёне.

У Гарадзенскай і Менскай губернях для вымярэння адлегласцей ужываліся адометры (лёгкія прыборы для адліку зваротаў кола экіпажа). Рэльеф малявалі па сістэме І. Лемана рыскамі, што надавала планам вытанчанасць і прывабнасць. Буйныя гарады і крэпасці, месцы магчымых пазіцый і лагераў здымаліся ў маштабе 1:8400. На планах інжынернага ведамства гарызанталі сталі наносіць з 1833 г., на іншых жа планах гарадоў малюнак рэльефу гарызанталямі сталі ўжываць з 1848 г.

Спробы перасачынення межавых атласаў Магілёўскай і Полацкай губерняў у маскоўскай межавой канцыляры расцягнуліся амаль на ўсю першую палову XIX ст. і так і не былі здзейснены. Праект генеральнага межавання Віленскай, Гродзенскай і Ковенскай губерняў, Мінскай і неабмежаванай часткі ранейшай Беларускай (Лепельскі павет) распрацоўваўся з 1801 г. ажно ды траўня 1860 г. Праект ахапіў толькі некалькі паветаў Віленскай губерні і яго далейшую рэалізацыю перапыніла скасаванне прыгоннага права ў 1861 г. Лепельскі павет паміж 1802-1816 гг. здымаўся па сямі дыстанцыях каморнікамі ў маштабе 1:21 000 кожная, якія затым зводзіліся ў генеральны план (карту) павета ў маштабе 1:42 000 з прыкладаннем эканамічнага апісання ў чатырох копіях. Усяго на іх было апісана 1168 населеных пунктаў з 6741 дварамі.

Паколькі межавыя здымкі абапіраліся на няўстойлівыя межы ўладанняў і хутка старэлі, то для стварэння трывалай геадэзічнай базы буйнамаштабных карт сталі выконваць трыянгуляцыі. Гэта дзейнасць з 1812 г. засяродзілася ў Ваенна-тапаграфічным дэпо (ВТД), а з 1822 г. — у Корпусе ваенных тапографаў (КВТ), які камплектаваўся афіцэрамі і кантаністамі (выхаванцамі ваенна-сіроцкіх устаноў з рэкруцкіх сем’яў).

**Геадэзічныя і картаграфічныя працы Расіі**

У ходзе трыянгуляцыі будаваліся трыганаметрычныя знакі (сігналы), якія злучаліся ў геаметрычную сетку ў выглядзе некалькіх ланцугоў (радоў) трохвугольнікаў. Знешнімі адзнакамі служылі сігналы вышынёй 8-21 м. Распачыналі трыянгуляцыю з градуснага вызначэння геаграфічных каардынат самой сеткі і рэкагнасцыроўкі здымачнага палігона. Трыганаметрычныя пункты заносілі па прамавугольных сфераідальных каардынатах у праекцыю мерыдыянаў і паралелей па метадзе Гаўса на здымачныя лісты так, каб бок першакласнага трохвугольніка дасягаў 22,5 вярсты. Кожны мензульны ліст або планшэт уяўляў квадрат з бокам у 20 дзесяцін і заключаў 100 квадратных вёрст (114 $км^2$). Заключаную ў гэтых рамках прастору здымалі мензулай (мензула — палявы чарцёжны столік у выглядзе планшэта і штатыва на падстаўцы быў прыдуманы баварскім матэматыкам і астраномам Іоганам Прэторыем каля 1610 г.) у маштабе 1:21 000, а таксама 1:16 800.

Інструментальна (графічнымі засечкамі на мензуле) здымаліся толькі вялікія дарогі, рэкі і межы губерняў. Для візавання на цэлі выкарыстоўваліся лінейкі з дыёптрамі, якія зваліся алідадамі. У 30-е гады XIX ст. выробляецца кіпрэгель, не меўшы яшчэ вертыкальнага круга. Пры здымцы падрабязнасцей часам ужываўся мерны ланцуг, у лясных прасторах — бусоль. Асноўны змест карты здымалі вокам. Рэльеф маляваўся ў рысках (паводле Лемана) з указаннем вуглавой велічыні нахілаў мясцовасці.

Па загадзе начальніка Генеральнага Штаба і адначасова дырэктара ВТД, князя Пятра Міхайлавіча Валконскага (1776-1852), на беларускай зямлі трыганаметрычныя ланцугі цягнулі з Ліфляндыі і Віленскай губерні. Кіраваў адпаведнымі працамі ў Віленскай губерні ў 1815-1822 гг. палкоўнік першага пяхотнага корпуса, обер-кватармайстар **Карл Іванавіч Тэнэр**.

Пад яго кіраўніцтвам з 25 чэрвеня 1823 г. да 2 лістапада 1827 г. пяць афіцэраў-тапографаў і 70 радавых салдат паспяхова завяршылі трыганаметрычныя працы па Гродзенскай губерні. За гэты час было закладзена 35 першакласных і 1268 другакласных трохвугольнікаў, выканана 17 780 трыганаметрычных і 6270 астранамічных назіранняў, актыўны ўдзел у якіх прымаў выхадзец з Беларусі, у наступным генерал-лейтэнант Іосіф Іванавіч Ходзька (1800-1881). Тапаграфічнымі здымкамі Гродзенскай губерні ў 1827-1829 гг. кіраваў барон Платон Іванавіч Ракасоўскі (1800-1869), а ў 1835-1836 гг. выконваліся яны трыма аддзяленнямі тапографаў пад кіраўніцтвам палкоўніка А. І. Якаўлева.

У іх камандзе састаялі 20 унтэр-афіцэраў і 150 салдат гродзенскага гарнізоннага батальёна.

У снежні 1827 г. кіраўніцтва ВТД рашыла распачаць трыянгуляцыю Мінскай губерні без другакласнай сеткі, з дазволам самыя сігналы выставіць толькі на адкрытай мясцовасці для паскарэння прац. Фактычна астранамічныя назіранні не выконваліся. Здымка ў лясных раёнах абапіралася на лініі, вымераныя ўздоўж прасек, галоўных дарог і па рамках лістоў. У адкрытых месцах ужываліся засечкі для вызначэння арыенціраў. Участкі плошчай у 550 км$^2$ здымаліся ў маштабе 1:42 000. Усе дробязі апускаліся, наносіліся толькі важныя аб’екты, а рэльеф маляваўся ў рысках. У канцы 1830 г. Тэнэр адаслаў карту Мінскай губерні з каардынатамі каля 30 тыс. трыганаметрычных кропак, якія складалі квадрат, кожны па 400 кв. вёрст, і азначалі планшэты ваенна-тапаграфічнай здымкі. Паўстанне 1830 г. спыніла працы і палявыя здымкі завяршылі ў 1840 г. ужо пад кіраўніцтвам Я. Е. Роземкампфа.

Трыянгуляцыю Віцебскай губерні распачалі напачатку 1830 г., а рэкагнасцыроўку месцаў рабілі пяць афіцэраў на чале з начальнікам 2-га аддзялення ВТД Б. Ф. Лемам. 20 верасня 1844 г. цар распарадзіўся зняць на працягу шасці год на тапаграфічныя карты Віцебскую, Магілёўскую і Смаленскую губерні разам у маштабе 1:42 000.

Інструментам мелася зняць на плошчу толькі галоўныя дарогі, межы губерняў. Абапал на вярсту ад дарог (1066 м) вызначаліся «все видимыя предметы, которые для ориентирования служить могут, как-то шпили зданий, трубы строений, отдельныя дерева и прочее». Гэтыя кропкі прызначаліся трывалай асновай трыганаметрычнай сеткі. Прамежкі паміж інструментальнымі хадамі і кропкамі запаўняліся на вока. Блізкія адлегласці мералі шагамі, а далёкія ланцугом. Гарады і ваенныя пазіцыі мелася зняць у маштабе 1:21 000. Рамкі лістоў расчэрчвалі кармінам на 400 квадратаў з тым разлікам, што бок кожнага квадрата будзе роўны адной вярсце ў дзюйме. Мензульным лістам прысвойвалі парадкавыя нумары адпаведна працягу здымачных карт Пскоўскай губерні ўжо на беларускай тэрыторыі. Мензульныя лісты (брульоны) напачатку кожнага лютага здавалі ў ВТД. Само ВТД мела скласці выніковую тапаграфічную карту губерні на працягу апошніх трох год здымак у маштабе 1:210 000.

Да карты прыкладалася кароткае статыстычнае апісанне губерні, алфавіт месцаў дыслакацыі войск, карта маршрутаў, карта кватэр рот і эскадронаў у маштабе 20 вёрст. Здымкі былі распачаты 15 мая 1845 г. пятнаццаццю тапографамі пад кіраўніцтвам генерал-маёра Аляксандра Мендэ. Са жніўня 1847 г. яго змяніў палкоўнік Міхаіл Восіпавіч Без-Карніловіч. 3 студзеня 1852 г. ён закончыў апошнія лісты 3-верставой

карты разам са статыстычным апісаннем губерні. Праект тапаграфічнай здымкі Магілёўскай губерні ў маштабе 1:42 000 цар зацвердзіў 16 верасня 1847 г. Начальнікам здымак прызначаўся дырэктар ВТД, генерал-маёр Павел Аляксеевіч Тучкоў, які разлічваў, што ўсю губерню здольна зняць адна рота тапографаў на працягу трох год.

У выніку трыянгуляцыі Віленская губерня плошчай у 57 518 кв. вёрстаў была пакрыта 3135 трохвугольнікамі на 658 лістах (планшэтах) самай падрабязнай карты. 35 386 кв. вёрстаў Гродзенскай губерні былі зняты з 1093 трохвугольнікаў на 524 планшэты. Карта Мінскай губерні на 256 лістах з плошчай у 86 647 кв. вёрстаў была створана на падставе 485 трыганаметрычных пунктаў. Магілёўская губерня ў 41 тыс. км$^2$ картаграфавалася разам са Смаленскай з 1109 трохвугольнікаў. Гэтыя здымкі дазволілі стварыць самыя дасканалыя на той час тапаграфічныя карты. Адначасова ваеннае ведамства Расіі праводзіла статыстычныя апісанні знятых губерняў у выглядзе знакамітых серый пад назвай «Ваенна-статыстычны агляд Расійскай імперыі» (з 1841 г.) або «Матэрыялы для геаграфіі і статыстыкі Расіі» (з 1857 г.).

На падставе 265 пунктаў трыянгуляцыі К. Тэнэр сумесна з акадэмікам і дырэктарам Пулкаўскай абсерваторыі Васіліем Якаўлевічам Струвэ правялі ў 1816-1852 гг. градуснае вымярэнне ўздоўж 25-градуснага мерыдыяна паміж Фугленесам (70° 40’ п. ш.) і Стара-Некрасаўкай (45° 20’ п. ш.) працягласцю 2820 км ад Ледавітага акіяна да вусця р. Дунай і замацавалі вызначэнні трывалымі каменнымі падмуркамі. На тэрыторыі Беларусі захавалася каля 19 слупоў знакамітай Дугі Струвэ. Памылка вымярэнняў Дугі па сучасных вызначэннях дасягае ўсяго 2 см. У 2005 г. было прынята рашэнне аб захаванні 34 наяўных пунктаў Дугі Струвэ ў якасці помніка сусветнага значэння.

Адразу пры завяршэнні трыянгуляцый з сакавіка 1838 г. корпусам грамадзянскіх тапографаў пры Міністэрстве дзяржмаёмасці былі распачаты ацэнкі ўрадлівасці і даходнасці зямель. Мэтай іх дзейнасці ставілася перакласці падушныя падаткі на зямлю, што па сутнасці рыхтавала ўзорны прыклад для паступовага скасавання прыгонніцтва памешчыкамі.

Да важнейшых прац ВТД адносіліся:

**«Атлас Российской Империи для употребления юношества»**, упершыню выдадзены ў 1794 г. (2-е выданне выпраўленае і дапоўненае выйшла ў 1802 г.). Атлас утрымліваў 18 карт фармату 43 х 61 см, з іх адна агульная карта і 17 карт губерняў, намесніцтваў і абласцей. Агульная карта на адным лісце мела маштаб каля 1:14 000 000 і сетку мерыдыянаў і паралелей праз 10°. На ёй паказаны моры, азёры і рэкі, галоўныя населеныя пункты і дарогі. Карты губерняў і намесніцтваў

складзены ў розных маштабах (ад 1:1 050 000 да 1:4 200 000). Змест гэтых карт ідэнтычны агульнай карце, толькі больш населеных пунктаў і балот. У адным з кутоў кожнай карты маецца сімвалічная мастацкая віньетка, якая паказвае заняткі жыхароў. Атлас гравіраваны ў адзін колер з ілюмінацыяй меж ад рукі. Гравіраваная «**Генеральная карта Российской империи с указанием губерний и уездов**» у маштабе каля 1:2 310 000, складзена і выдадзена ў 1799 г. Па карце ўмоўнымі знакамі маляваліся гарады і іншыя буйныя населеныя пункты, крэпасці і ўмацаванні, дарогі галоўныя паштовыя (у дзве лініі) і непаштовыя, рэкі і азёры, межы. На галоўных дарогах былі пазначаны паштовыя станцыі, адлегласці ў вёрстах паміж сумежнымі населенымі пунктамі. Лясы і рэльеф на карце не маляваліся. Карта была складзена ў канічнай праекцыі з сеткай мерыдыянаў і паралелей праз 2°; даўготы паказаны ад мерыдыяна Фэро.

**«Генеральная карта части России, разделенная на губернии и уезды с показанием почтовых дорог и пограничных таможен»** была гравіравана і надрукавана ў 1809 г. і паўторна пасля выпраўленняў — у 1818 г. На карце сетка мерыдыянаў і паралелей нанесена праз 4°. У вугле карты надрукавана табліца з 92 астранамічных пунктаў з іх шыротамі і даўготамі. **«Подробная карта Российской империи и близлежащих зарубежных территорий»** у маштабе 1:840 000 або так званая 100-лістовая карта, складзеная паміж 1801-1815 гг. пад кіраўніцтвам генерала **Карла Іванавіча Опермана**. Сетка мерыдыянаў і паралелей наносілася праз 1° у роўнавялікай псеўдаканічнай праекцыі Р. Бона. Яна абапіралася на астранамічныя пункты (да 80), арыгіналы здымак памежных раёнаў; планы, карты і атласы генеральнага межавання асобных губерняў. Карта падзялялася на 25 частак па 4 лісты ў кожнай, агульная колькасць лістоў разам з дадатковымі дасягала 114. На карту былі нанесены моры, азёры і рэкі; гарады, мястэчкі і іншыя населеныя пункты, дарогі намаляваны па градацыі: паштовая, вялікая непаштовая, сярэдняя, зімовая; лясы, балоты і сенажаці наносіліся без пазначэння контуру. Паказваліся ўзгоркі, адцененыя з поўдня і ўсходу, узвышшы выяўлены рыскамі. Подпісы на карце былі зроблены курсівам, прычым для населеных пунктаў яны размяшчаліся гарызантальна. Карта гравіравана на медных дошках і выдадзена ў адзін колер. Для эфекту лісты ад рукі ілюмінаваліся: кармінам — буйныя гарады, карычневым колерам — падвойныя дарогі, сінім — азёры і рэкі, зялёным — сенажаці, блакітным — балоты, чырвоным колерам — межы губерняў. Лічыцца, што на яе падставе прыкладна ў 1811-1812 гг. у французскім Генеральным дэпо была

створана «Карта Еўрапейскай Расіі, складзеная з 77 частак...»[10], на якіх у памеры 50 х 79 см і ў маштабе 1:500 000 прадстаўлены рэкі, дарогі і населеныя пункты.

«**Карманный Почтовый Атлас всей Российской Империи**» з паказам губерняў і галоўных паштовых дарог складзены, гравіраваны і выдадзены Дэпо ў 1808 г., паўторна выдаваўся ў 1820 г. Ён складаўся з 35 карт губерняў. На картах паказаны населеныя пункты і дарогі паміж імі з подпісамі адлегласцей. Маштабы карт каля 1:3 000 000. «**Географический Атлас Империи Российской, Царства Польского и Великого Княжества Финляндского**» на 83 лістах, складзены вядомым картографам Дэпо **Васіліем Пятровічам Пядышавым** у 1820-1827 гг. З дадаткамі і выпраўленнямі паўторна выдадзены ў 1834 г. Усе подпісы на картах зроблены на рускай і французскай мовах. Маштабы генеральных карт губерняў еўрапейскай часткі Расіі ад 1:840 000 да 1:1 680 000. На картах атласа паказаны гарады і іншыя населеныя пункты, паштовыя дарогі са станцыямі і адлегласцямі паміж імі, рэкі, азёры. Сетка мерыдыянаў і паралелей нанесена праз 1°. Генеральная карта складзена ў маштабе 1:840 000 на шасці лістах. Гэты атлас адрозніваўся строгай аднастайнасцю афармлення карт. Яны ілюмінаваліся ад рукі ў пяць колераў з вылучэннем меж губерняў і паветаў, галоўных дарог і населеных пунктаў.

З 1821 г. і з перапынкамі да 1839 г. у ВТД пад кіраўніцтвам дырэктара КВТ Фёдара Фёдаравіча Шуберта (1789-1865) была складзена «**Специальная карта части Западной России**» у маштабе 1:420 000 (знакамітая дзесяцівёрстка). Памер ліста 75 х 50 см, што адпавядае плошчы 315 х 210 км. Карта мела 57 лістоў з 13 клапанамі і пакрывала прастору ў першую чаргу заходніх губерняў Расіі. У картаграфічную сетку праекцыі Бона занесена 272 астранамічных пунктаў і звыш 2000 пунктаў трыянгуляцый. На лісты карты наносіліся моры, азёры, рэкі з прытокамі, масты, балоты, гарады, мястэчкі, станіцы, сёлы, вёскі і іншыя пункты, асобныя будынкі, манастыры і цэрквы, кірхі, заводы і фабрыкі, рудні, млыны, паштовыя станцыі, корчмы; шляхі зносін (шаша, паштовыя ці гандлёвыя і малыя ці прасёлкавыя дарогі без лясоў і рэльефу). Подпісы на карце зроблены курсівам. Карта гравіравалася на медзі ў адзін колер. Ад рукі на лістах ілюмінаваліся дзяржаўныя, губернскія і павятовыя межы.

[10] «Carte de la Russie Europeene en LXXVII fenilles executee an Depot general de la Guerre».

13 снежня 1843 г. дырэктарам ВТД быў прызначаны генерал-маёр П. А. Тучкоў, які стаў ініцыятарам стварэння «**Военно-топографической карты Западной России**» ў маштабе 1:126 000, вядомай як трохвёрстка з малюнкам рэльефу рыскамі. За ўзор бралася тапаграфічная карта Царства Польскага (1818-1843), якая лічылася адной з лепшых на той час. Складанне карты вялося па клетках з геаграфічнай увязкай па межах паветаў у роўнавялікай праекцыі Бона, у выглядзе прастакутных лістоў. Да 1863 г. было скончана 435 лістоў, а да 1917 г. іх колькасць дасягнула 517. На іх наносілася ўся гідраграфія, контуры лясоў, мясцовыя прадметы і арыенціры, грэблі, масты, асобныя будынкі, цэрквы, могілкі, агароджы, а тыпы селішчаў, накшталт мястэчак, пазаштатных гарадоў, тлумачылі скарочаным надпісам.

«**Карта Европейской части Росссии и Кавказского края**» на 12 лістах у маштабе 1:1 680 000 была складзена ў Дэпо і выдадзена ў 1868 г. Для складання карты была прынята праекцыя Гаўса. На карце былі пазначаны сталічныя, губернскія, павятовыя і іншыя гарады, пасады і мястэчкі; мануфактуры, прамысловыя фабрыкі і заводы; дарожная сетка: чыгункі, шаша, паштовыя, гандлёвыя, прасёлкавыя, зімовыя дарогі, межы губерняў і паветаў, рэкі судаходныя, сплаўныя і іншыя са збудаваннямі на іх. На лістах карты не было лясоў, сенажацей і рэльефу.

З пашырэннем запатрабавання будаўніцтва выявілася неабходнасць больш дакладнага малюнка рэльефу спосабам гарызанталяў. Упершыню такія планы былі складзены для гарадоў Менск і Барысаў у 1833 г. у маштабе 1:2100. Пры гэтым здымка выконвалася нівелірам па характэрных лініях мясцовасці. З канца 1848 г. рэльеф сталі маляваць на здымках усіх гарадоў. Гэты пераход суправаджаўся буйнымі хронаметрычнымі экспедыцыямі па вызначэнні рознасцей геаграфічных даўгот пунктаў. У выніку квадратныя лісты здымкі (планшэты) замяняліся трапецыямі. Картаграфічная праекцыя Мюфлінга была прынята ў якасці асноўнай, апорныя (трыганаметрычныя) пункты наносіліся на планшэты па значэннях геаграфічных шырот і даўгот. Першыя доследы каляровага друку карт у Расіі з'яўляюцца ў 1845 г., а друк карт у некалькі фарбаў з модных гравюр — да 1855 г. З канца 1859 г. для складання арыгіналаў карт сталі ўжываць фатаграфію.

З прычыны вялікай лясістасці тэрыторыі з 1859 г. пачаты былі трыянгуляцыі нівелір-тэадалітнымі хадамі (паліганаметрыяй), ад астрапунктаў па дарогах з адначасовай нівеліроўкай асноўных ліній уздоўж чыгунак. З 1864 г. асноўныя сілы Корпуса тапографаў пачалі выпраўленні шляхам рэкагнасцыроўкі ранейшых здымак. Працы праводзіліся па зацверджанай інструкцыі ў кожнай губерні трыма-чатырма партыямі тапографаў. Ім прадпісвалася наведаць у губернскіх гарадах

межавую канцылярыю, будаўнічую камісію і параўнаць брульоны здымак з наяўнымі там картамі і планамі, зрабіць выманні са спраў аб усіх зменах мясцовасці са спісам населеных месцаў з указаннем іх шырот і даўгот, і колькасці двароў. Калі змены былі значнымі, тады рабілі здымку ў 1-верставым маштабе, прычым здымалі інструментальна толькі паселішчы, вялікія і галоўныя купецкія дарогі, вялікія рэкі, межы губерняў і паветаў. Засечкамі можна было вызначаць іншыя бачныя на мясцовасці прадметы і арыенціры. Усе здымкі ў маштабе 200 і 250 сажняў у цалі перакладалі фатаграфічным спосабам у 1-верставы маштаб (1:42 000). Пры аздабленні брульонаў крэслілі ўжо трапецыямі на аснове апорных пунктаў, змешчаных у каталогу трыганаметрычных і астранамічных пунктаў, які ўключаў 17 240 трыянгуляцыйных (I-III класаў) і астранамічных пунктаў, вызначаных рускімі астраномамі і геадэзістамі да 1860 г. Праца ішла павольна і да 1871 г. было абследавана каля 50% з усіх 18 заходніх губерняў.

У лістападзе 1865 г. пачалося гравіраванне на медзі новай «**Специальной карты Европейкой России»** у дзесяціверставым маштабе (1:420 000) пад рэдакцыяй капітана Генеральнага Штаба **Івана Афанасьевіча Стральбіцкага** (1828-1900) для замены састарэлай карты Ф. Шуберта. 10-верставога маштабу аказалася недастаткова, таму абмежаваліся нанясеннем жылых пунктаў, якія ўключалі больш пяці двароў. На карце таксама адзначалі панскія фальваркі, мызы, заезныя двары, студні пры дарогах, пяскі, балоты, рэльеф, гідраграфію, лясы, дзяржаўныя, губернскія і павятовыя межы, жалезныя, паштовыя і галоўныя прасёлкавыя дарогі. Карту выдалі ў чатыры колеры: контуры і надпісы — чорным, гідраграфію — сінім, лясы — зялёным, рэльеф — карычневым. Для складання карты скарыстана была канічная праекцыя Гаўса. Сечны конус узяты па паралелях 45° і 59°, а сярэдні мерыдыян — 10° на ўсход ад Пулкаўскай абсерваторыі. Колькасць двароў вызначалі па спісах населеных пунктаў, якія складаў Цэнтральны статыстычны камітэт, і па геаграфічным слоўніку Рускага геаграфічнага таварыства. Да 1872 г. было скончана 152 лістоў карты, потым іх лік узрос да 177. Карта адрознівалася паўнатой зместу, дбайнасцю і падрабязнасцю малюнка рэльефу, а таксама лясоў. Яна ўвесь час абнаўлялася і неаднаразова перавыдавалася (апошні раз у 1925-1934 гг.). Стральбіцкі асобна склаў «Исчисление поверхности Российской Империи, в царствование императора Александра II» (1874), дзе ўпершыню даў дакладныя звесткі пра паверхню Расіі, як у цэлым, так і па губернях і паветах, з асобным вылічэннем выспаў і азёр.

Другі перыяд рэкагнасцыровак пачаўся з 1872 г. з мэтай выпраўлення 3-верставой карты Заходняй памежнай прасторы. Рэкагнасцыроўка

пачалася ў Кіеўскім, Варшаўскім і Віленскім ваенных акругах мізэрным штатам (з 9 афіцэраў і 19 класных) тапографаў. Трыянгуляцыі ўздоўж Заходняй памежнай паласы ў 1871-1917 гг. вяліся па рэках Нёмане і Бабры, у Палессі. Ланцугі трыянгуляцый I-га класа пракладаліся паміж пунктамі трыянгуляцый Тэнэра ці прылягалі да іх. На іх аснове будаваліся шырокія сеткі згушчэння II-га і III-га класаў. На ўсіх працах вымяраліся зенітныя адлегласці для вылічэння вышынь, пункты сетак I-га класа злучаліся з пунктамі геаметрычных нівеліровак. Геаметрычнае нівеліраванне тэадалітам выконвалася з 1871 г. уздоўж ліній чыгунак Масква-Смаленск-Віцебск, Віцебск-Дынабург (Даўгаўпілс), Дынабург-Рыга, Пецярбург-Варшава. Уся нівелірная сетка складалася з 47 ліній, злучаных у восем замкнёных палігонаў, прычым сярэднія хібы вышынь вагаліся ад В±1,7 мм да В±5,6 мм.

У 1877-1878 гг. пачаліся здымкі Заходняй памежнай прасторы ў маштабе 1:21 000, а для гарадоў — 1:8400. У 1907 г. перайшлі да вярставога маштабу 1:420 000, што дазволіла ўдвая павялічыць плошчы здымак пры скарачэнні выдаткаў. Для выдання арыгіналаў здымак ужываўся метад геліягравюры і фотаальграфіі (друк з медных і алюмініевых дошак у чатыры колеры). Да 1894 г. было выдадзена 1780 лістоў 1-верставой карты Заходняй памежнай прасторы. Рэдактарам яе быў вядомы ваенны геадэзіст **Мікалай Дзмітрэвіч Артамонаў**. Карта складзена з выкарыстаннем праекцыі Гаўса. На ёй маляваліся чыгункі і шаша, паштовыя, а таксама некаторыя прасёлкавыя і зімовыя дарогі. Населеныя пункты наносіліся амаль цалкам з лікам двароў звыш 50 (часам і менш) і з указаннем адлегласцей паміж пунктамі. Контуры на ёй друкаваліся чорнай фарбай, а гарызанталі — карычневай. Перасек гарызанталяў на карце ўсталёўваўся ў 10 сажняў (21 м) па вышыні. Прамежкавыя гарызанталі для нахілаў да 5° круцізны праводзіліся праз 4 м, а паўгарызанталі пункцірам паказвалі дробныя вяршыні, лагчыны і іншыя дэталі рэльефу. Рыскі выкарыстоўваліся толькі для малюнка курганоў і абрываў. У якасці арыгіналаў выкарыстоўваліся інструментальныя здымкі губерняў, 3-верставая карта, планы і карты генеральнага межавання, матэрыялы экспедыцыі Рускага геаграфічнага таварыства, замежныя карты і іншыя крыніцы. У наступныя гады, аж да 1919 г., карта сістэматычна выпраўлялася і дапаўнялася новымі звесткамі. Да пачатку Першай сусветнай вайны здымкамі аднаверставога(1:42 000) і двухверставога (1:84 000) маштабаў была пакрыта прастора ўздоўж заходняй мяжы Расіі да лініі Петраград-Пскоў-Мінск-Адэса.

**«Стратегическая карта Средней Европы»** ў маштабе 1:1 680 000 была пачата яшчэ ў 1869 г. Пад кіраўніцтвам М. Д. Артамонава ўсе яе 12 лістоў былі скончаны да 1886 г. у праекцыі Гаўса. Матэрыяламі для

яе служыла 10-верставая карта і шэраг замежных карт. На карце маюцца буйныя гарады і населеныя пункты, усе жалезныя, шашэйныя і вялікія дарогі. Нанесены крэпасці і ўмацаваныя пункты, рэкі і раўчукі, каналы, азёры, балоты, лясы і горы. Карта літаграфавана на 12 камянях і выдадзена ў чатыры фарбы: контуры і надпісы — чорным, воды — блакітным, лясы — зялёным, рэльеф — карычневым (растушоўка). Карта неаднаразова выпраўлялася і дапаўнялася. Яна адказвала свайму прызначэнню і служыла аж да 1919 г.

У 1914 г. была выдадзена 2-верставая сакрэтная карта Заходняй памежнай прасторы на 200 лістах (у тым ліку Мінская губерня). Рэльеф на ёй маляваўся гарызанталямі, праведзенымі праз 2 і 4 сажні. Карта вылучаецца вялікай дакладнасцю і дэталёвасцю, друкавалася ў два колеры (рэльеф — карычневым) і лічылася найбольш прыгожай рускай тапаграфічнай картай. Падчас Першай сусветнай вайны было перавыдана больш 500 лістоў аднаверставой карты. Пасля нанясення новых чыгунак і іншых выпраўленняў, да канца вайны было перавыдана 820 лістоў 2-верставой карты, з іх 185 лістоў «часовага» выдання з-за спешных прац ваеннага часу. На аснове выпраўлення было падрыхтавана для друку 459 лістоў 3-верставой карты.

Здымкамі на геадэзічнай аснове корпусам ваенных тапографаў з 1822 г. да кастрычніка 1917 г. у розным маштабе была пакрыта амаль уся абжытая тэрыторыя еўрапейскай часткі Расіі на плошчу 7 425 319 км$^2$, а паўінструментальна і вокам — на плошчы 506 247 км$^2$.

### Тэматычнае картаграфаванне Беларусі

У 1832 г. Галоўным кіраваннем шляхоў зносін быў выдадзены «**Гидрографический атлас Российской империи».** У яго ўвайшлі генеральныя карты маштабаў 20 і 10 вёрст, падрабязныя карты маштабу 2 вёрсты і планы ў маштабе 100 сажняў і буйней.

«**Дорожная карта Европейской России**» ў маштабе 1:1 050 000 выдавалася ў 1864-1867 гг. пад назвай маршрутнай і служыла на працягу амаль дваццаці гадоў. Яна ўтрымлівала даныя пра шляхі зносін, неабходныя для разлікаў па перасоўваннях войскаў. Выдавалася яна літаграфіяй на камянях у тры фарбы: чорнай — контуры і подпісы, сіняй — азёры, зялёнай — межы. Карта мела істотныя недахопы з-за нераўнамернай загрузкі лістоў мясцовымі прадметамі і дарогамі.

Да ранніх узораў геалагічных карт адносіцца «Петрографическая карта Белостокской области, Гродненской и части Виленской губернии» **Г. Вансовіча** 1825 г. Упершыню рэльеф Беларусі цалкам патрапіў у 1862 г. на «Опыт гипсометричной карты части Еўропейской России

и Кавказа» ў маштабе 1:2 100 000, якую выканала Дэпо ваенных карт пад кіраваннем **Івана Фёдаравіча Бларамберга** (1800-1878). Рэльеф на ёй паказаны ізогіпсамі ў футах трыма пасавымі шкаламі: 1) да вышыні 1000, 2) ад 1000 да 10 000; 3) вышэй 2000.

Напярэдадні 1889 г. вядомы географ і геадэзіст **Аляксей Андрэевіч Ціла** (1839-1900) выдаў «**Гипсометрическую карту Европейской России**» ў маштабе 1:2 520 000, якая абапіралася на 51 385 вышынных адзнак і мноства барометрных вылічэнняў. Рэльеф намаляваны гарызанталямі праз 10 саж. (21,336 м). Ніжнія прыступкі вышынь да 200 саж. праз 20 саж. размалёўваліся зялёнай фарбай, а вышыні больш 200 саж. афарбоўваліся праз 50 саж. адценнямі карычневага колеру. Карта выканана на аснове адмысловай карты І. П. Стральбіцкага і трохверставой карты. Гэта карта была перавыдана ў 1896 г. пад назвай «Гипсометрическая карта западной части Европейской России» ў сувязі з прылеглымі часткамі Нямеччыны, Аўстра-Вугоршчыны і Румыніі маштабу 1:1 680 000 з дэманстрацыяй трох пасавых шкал перасеку рэльефу: 1) да 60 саж., 2) ад 60 да 200 саж. і 3) вышэй 200 сажняў.

У 1894 г. Лясным ведамствам пад кіраўніцтвам А. А. Ціла была арганізавана экспедыцыя па вывучэнні вытокаў галоўных рэк Еўрапейскай Расіі, якая дала шырокі матэрыял па рэльефе і гідраграфіі (у прыватнасці, па азёрах). У 1911-1914 гг. «Гипсометрическую карту всей Европейской России» распрацаваў знакаміты даследчык **Юлій Міхайлавіч Шакальскі** (1856-1940) у маштабе 1:12 600 000 для энцыклапедычнага слоўніка Бракгаўза і атласа асветы. Вынікі інтэнсіўных геалагічных даследаванняў знайшлі выраз у «**Геологической карте Европейской России**» **Александра Пятровича Карпінскага** (1893) і 10-верставой (1:420 000) геалагічнай карце Еўрапейскай Расіі. Да 1917 г. было выдана 20 лістоў гэтай карты з усіх 170.

Картаграфаванне лясоў пачынаецца з «Генерального атласа, сочиненного из имеющихся при Адмиралтейской чертежной разных годов описей всякого рода лесам, 1792 года» у складзе 52 дробнамаштабных карт па губернях. Адной з найболей ранніх рукапісных карт лясоў з'яўляецца «Карта для обозрения состояния лесов и лесной промышленности в [Европейской] России», складзеная ў 1840-1841 гг. Міністэрствам дзяржаўных маёмасцей. У 1842 г. было складзена дзве карты; першая з іх уяўляе сабою карту лясоў, на іншай былі пазначаны кліматычныя палосы і панавальныя глебы ў Еўрапейскай Расіі.

Акадэмік, ганаровы член Горы-Горацкага земляробчага інстытута **Канстанцін Сцяпанавіч Весялоўскі** (1819-1901) у 1855 г. склаў першую зборную «Почвенную карту Европейской России», на якой паказаў восем тыпаў глеб у маштабе 1:1 840 000. Карта дапаўнялася

і перавыдавалася ў 1953, 1957 і 1969 гг. На аналагічнай карце маштабу 1:2 520 000 пад рэдакцыяй Васілія Іванавіча Часлаўскага 1879 г. паказана 32 тыпы глеб. Дэпартамент земляробства і сельскай прамысловасці ў 1879 і 1901 г. выдаў «Почвенную карту Европейской России» маштаба 1:2 520 000 з тлумачальным тэкстам знакамітага рускага географа і глебазнаўца **Васілія Васільевіча Дакучаева** (1846-1903). Гэта карта перавыдавалася пасля 1882 г. для характарыстыкі 39 тыпаў глеб губерняў у 10-верставым маштабе.

Заходняя экспедыцыя па асушванні балот пад кіраўніцтвам **Іосіфа Іпалітавіча Жылінскага** да 1899 г. правяла дэталёвую нівеліроўку паверхні тэрыторыі Палесся, зрабіла першыя спробы геамарфалагічнага картаграфавання тэрыторыі. «Генеральная географическая карта реки Днепра от вершины до города Херсона...» маштабу 1:1 050 000 (63 х 98 см) засталася ў рукапісе. У 1846 г. на 12 лістах (60 х 43 см) была выдана «Гидрографическая карта Европейской Росии» маштабу 1:1 680 000. У 1886 г. у Санкт-Пецярбургу выйшлі шэраг карт Дняпра па матэрыялах Дняпроўскай вышукальніцкай партыі пад кіраўніцтвам **Палікарпава** — 50-верставая карта на трох лістах (50 х 70 см) і паменшаныя планы ў маштабе 1:53 350 на 14 лістах (52 х 70 см), і па матэрыялах абследаванняў 1881-1883 гг. дэталёвыя планы ў маштабе 1:21 340 на 23 лістах. У 1888 г. А. А. Ціла выдаў «Карту длины и впадения рек Европейской Росии» ў 5 лістах (61 х 83) у маштабе 1:2 520 000.

У 1897 г. выйшла праца **А. А. Цілы** «Атлас распределения атмосферных осадков на речных бассейнах Европейской России», а ў 1900 г. — «Климатический атлас Российской империи», у якім ахарактарызаваны важнейшыя кліматычныя элементы на тэрыторыі Беларусі на падставе абагульнення назіранняў каля ста метэастанцый I, II і III разраду.

Паштовыя карты выдаваліся з канца XVIII ст. як каморнікамі пры губернскіх чарцёжных, так і Паштовым дэпартаментам па матэрыялах з месцаў. Іх галоўным зместам былі дарогі рознага тыпу, паштовыя станцыі і адлегласці паміж імі. Яны вядомыя як аднalістыя, так і ў выглядзе атласаў Расійскай імперыі 1793, 1808, 1809, 1827, 1829, 1831, 1837, 1843 гг. і асобных губерняў.

У 1842 г. Міністэрства фінансаў выдала каляровую «**Карту промышленности Европейской России**...»[11] у маштабе 1:2 940 000. Выпраўленае і дапоўненае выданне выйшла ў 1853 г. Карта

[11] «Карта промышленности Европейской России с показанием фабрик, заводов и промыслов, мануфактур, главнейших ярмарок, водяных и сухопутных сообщений, портов, маяков, таможен, главнейших пристаней, карантинов и пр.».

перавыдавалася ў 1848, 1851, 1860 гг. Дэпартамент сельскай гаспадаркі ў 1851 г. выпусціў «**Хозяйственно-статистический атлас Европейской России**» ў складзе 14 карт з дэманстрацыяй вытворчасці збожжавых, тэхнічных культур, відаў жывёлагадоўлі і хлебнага гандлю. Інфармацыя перадавалася картаграмамі ў разрэзе губерняў і паветаў. Атлас перавыдаваўся ў 1852, 1857 і 1869 гг. Апошняе выданне было цалкам абноўлена статыстыкам І. І. Вільсанам, які дапоўніў карты шырокім тэкставым і статыстычным матэрыялам у выглядзе асобнага тома.

Тройчы ў 1869, 1870, 1873 гг. выдаваўся «Статистический атлас главных отраслей фабрично-заводской промышленности Европейской России» са спісам фабрык і заводаў, які склаў статыстык **Дзмітрый Аркадзьевіч Ціміразеў** па афіцыйных даных. У атласе змешчана 12 галіновых карт Еўрапейскай Расіі маштабу 1:7 350 000 і дзве рэгіянальныя карты. Інфармацыя прадстаўлена ў выглядзе картаграм па губернях, і значкамі ў адпаведнасці з аб'ёмамі вытворчасці прадукцыі. Цэнтральны статыстычны камітэт на чале з кіраўніком Рускага геаграфічнага таварыства **Пятром Пятровічам Сямёнавым-Цян-Шанскім** (1827-1914) у 1872 г. выдаў агульнаэканамічную «Карту важных отраслей производства Европейской России...»[12] маштабу 1:2 520 000. Яна шматкроць уключалася затым у навучальныя атласы Аляксея Афінагенавіча Ільіна. Начальнік статыстычнага аддзялення канцылярыі Міністэрства гандлю і прамысловасці **Веніямін Пятровіч Сямёнаў-Цян-Шанскі** (1870-1942) у 1911 г. падрыхтаваў «Торгово-промышленную карту Европейской России» маштабу 1:1 680 000 на 9 лістах. Яна паказвала раёны і развіццё прамысловых і сельскагаспадарчых вытворчасцей да шматтомнага выдання «Торговля в Европейской России по районам в 1900 году». У 1914 г. Дэпартаментам земляробства быў выдадзены ў выглядзе картаграм атлас «Сельскохозяйственный промысел в России».

У 1851 г. у выдавецтве генерала **Аляксея Афінагенавіча Ільіна** (1834-1889) з'яўляецца «Подробный атлас Российской Империи с планами главных городов», у якім змешчаны ў 20-верставым маштабе карты Віленскай, Віцебскай, Гродзенскай, Мінскай і Магілёўскай губерняў. У тым жа выдавецтве ў 1880 г. створана «Карта европейской

[12] «Карта важных отраслей производства Европейской России, а именно: земледелия, лесоводства, животноводства, разведение табака, сахарной свеклы, льна, пеньки, винограда, марены, шелководства, распространение полезных ископаемых и распределения торговых и промышленных пунктов».

России...»[13]. Яе склалі ў колеры рэдактар Цэнтральнага статыстычнага камітэта **А. В. Дуброўскі** і картограф А. Н. Пятроўскі ў маштабе 1:16 800 000 памерам 60 x 71 см. Важным дасягненнем картаграфіі стаў выдадзены ў 1905 г. (2-е выданне 1909) «**Большой всемирный настольный атлас Маркса**», які ўтрымліваў звыш 200 карт рознай тэматыкі на 55 аркушах і паказальнік 130 тысяч геаграфічных назваў. Беларусь дэманструецца тут на чатырох аркушах «Карты Европейской России на 16 листах» у маштабе 1:2 000 000. Вялікай падзеяй стала выданне ў 1916 г. у Вене прафесарам геаграфіі **Эўгеніюшам Ромерам** (1871-1954) з дапамогай розных супрацоўнікаў комплекснага «Геаграфа-статыстычнага атласа Польшчы» на трох мовах (польскай, нямецкай, французскай), у якім змешчаны 65 карт (32,3 x 35 см) пераважна ў маштабе 1:5 000 000. Аўтары прадставілі ў межах 1772-1815 гг. звесткі па прыродзе, адміністрацыйнай будове, гісторыі, насельніцтве, яго рассяленні, веравызнанні, адукацыі, занятках у сельскай гаспадарцы, прамысловасці і транспарце. Гістарычную карту ў маштабе 1:6 000 000 выканаў Владыслаў Сямковіч. Атлас перавыдаваўся некалькі разоў і ў 1918 г. стаў афіцыйным дакументам Версальскай канферэнцыі па вызначэнні меж Польскай дзяржавы.

Даныя пра насельніцтва ў 1851 г. уяўляе карта «Степень населенности губерний и областей Европейской России», падрыхтаванай у складзе шырокага атласа Гаспадарчага дэпартамента Міністэрства ўнутраных спраў пад кіраўніцтвам **Мікалая Аляксеевіча Мілюціна**. Гэту тэму пазней развіваюць генеральныя карты населенасці Расійскай імперыі палкоўніка Генштаба, начальніка архіва ВТД **Аляксандра Вікенцьевіча Ракінта** (1815-1907) 1860 г. і архітэктара Эрнста Густававіча Шуберскага 1862 г. Воласці Віцебскай губерні з іх колькасцю і шчыльнасцю насельніцтва трапілі на карту, выдадзеную ў 1890 г. Цэнтральным статыстычным камітэтам. «Карта густоты населения...»[14] Віцебскай губерні па даных першага агульнага перапісу Расійскай імперыі 1897 г. таго ж ЦСК суправаджалася дыяграмамі адукаванасці яе жыхароў.

Першым, хто зрабіў спробу вызначыць абшар беларускага этнасу паводле моўнага крытэрыю, быў вядомы чэшскі этнограф **Павел Іозэф Шафарык** (1795-1861). Ім у 1842 г. была складзена карта «Славянскія

[13] «Карта европейской России с показанием процента учившихся девочекъ въ сельских училищах к населению учебнаго возраста (отъ 7 до 14 лет включ.) по уездамъ, по сведеніям за 20-ое марта 1880 года».

[14] «Карта густоты населения с процентом грамотных Витебской губернии по данным первой всеобщей переписи 1897 года», Санкт-Петербург 1897.

землі»[15], паводле якой беларусы займалі Мінскую, Магілёўскую, большую частку Віцебскай, Гродзенскай і часткова Віленскую губерні. На поўначы мяжа рассялення беларусаў уключала Невельскі, Веліжскі, Себежскі паветы, на ўсходзе, поўдні і паўночным захадзе яна пралягала па былых рубяжах Вялікага Княства Літоўскага.

Рускі географ, статыстык, акадэмік **Пётр Іванавіч Кёпен** (1793-1864) у 1851 г. выдаў першую «Этнографическую карту Европейской России» маштабу 1:3 150 000, паказаўшы колерам арэалы рассялення 38 народнасцей і этнічных груп, у тым ліку беларусаў. Ён абапіраўся на прыходскія спісы, складзеныя ў 1857 г. святарамі. Гэтыя спісы захапілі ў беларускую этнічную прастору частку Чарнігаўскай (Суражскі і часткова Гараднянскі, Мглінскі і Навазыбкаўскі паветы) і палову Смаленскай губерняў. Карта паўторана ў 1853 і 1855 гг. з тлумачэннямі. У 1864 г. убачыў святло буйнафарматны (415 х 615 мм) «Атлас народонаселения Западно-Русского края по вероисповеданию», складзены ў 1862-1864 гг. этнографам і падпалкоўнікам **Аляксандрам Фёдаравічам Рыціхам** (1831-1914). У атласе прадстаўлены адна агульная карта і 9 карт губерняў (Магілёўская, Віцебская, Мінская, Віленская, Гарадзенская, Ковенская, Кіеўская, Падольская і Валынская). Кожная з губернскіх карт складаецца з каляровага малюнка мясцовасці і статыстычных падлікаў жыхароў праваслаўнага, каталіцкага і лютэранскага веравызнанняў па кожным прыходзе. Гэты ўнікальны атлас у маштабе 1:630 000 выкананы з веданнем справы пад кіраўніцтвам сапраўднага стацкага дарадніка Пампея Мікалаевіча Бацюшкава (1811-1892), які служыў віцэ-дырэктарам Дэпартамента духоўных спраў замежных веравызнанняў пры Міністэрстве ўнутраных спраў, а ў 1865-1867 гг. кіраваў пабудовай больш дзвюх тысяч праваслаўных цэркваў у Заходнім краі і насаджэннем такім шляхам рускай справы. Аўтары ўключылі ў «Рускую вобласць» Люцынскі, Рэжыцкі, Дынабургскі, Дрысенскі паветы Віцебскай губерні, Новааляксандраўскі, Вількамірскі і Ковенскі — у Ковенскай губерні, Дзісенскі, Вілейскі, Ашмянскі, Троцкі, Віленскі, Лідскі — з Віленскай губерні, Навагрудскі — з Мінскай губерні, Слонімскі, Гродзенскі, Ваўкавыскі, Сакольскі, Беластоцкі і Бельскі паветы — з Гродзенскай губерні.

Член Рускага геаграфічнага таварыства **Родрыг Фёдаравіч Эркерт** (1821-1900), спецыяльна для афіцыйнага выдання па этнаграфічным апісанні народаў Расійскай імперыі выдаў у 1862 г. для свайго атласа

[15] «Slovanský zeměvid».

«Этнаграфічную карту Расійскай імперы»[16], а ў наступным — «Этнаграфічны атлас правінцый...»[17]. Ён традыцыйна лічыў веру рашаючым крытэрыем вызначэння народнасцей, адносіў беларусаў да веткі рускага народа, а таму арэал рассялення рускіх ахопліваў межамі Магілёўскай, Віцебскай (без трох латышскіх паветаў) губерняў да р. Бярэзіны, Віленскай, Гродзенскай губерняў і Новааляксандраўскага, Вількамірскага і Ковенскага паветаў Ковенскай губерні. Ён падзяляў беларусаў на сапраўдных, заходніх (чорнарусаў) і падляшан (апалячаных). У сваім «Этнографическом атласе западнорусских губерний и соседних областей», 1864 года выдання, ён прадставіў у маштабе 1:500 000 на асобных лістах памерам 40 х 31 см каляровыя карты яўрэяў, палякаў, рускіх, латышоў, літоўцаў сярод іншых адзінаццаці народнасцей.

Рассяленне беларусаў з розным ступенню дэталёвасці прадстаўлялі шматлікія дробнамаштабныя карты, выдадзеныя ў Расіі і іншых дзяржавах, напрыклад, «Этнографическая карта Российской империи» немца **Генрыха Кіперта** (Берлін, 1862; Санкт-Петербург, 1864), «Карта России и племен, населяющих ее» **Церабянёва** (Москва, 1866), «Карта славянского мира» галоўнага архівіста г. Прагі **Карэля Яроміра Эрбена** (Прага, 1868), «Этнографическая карта славянских народов» **Казіміра Делямара** (Парыж 1868), «Этнографическая карта славянских народностей» капітана Генштаба **Міхаіла Фёдаравіча Мірковіча** (Санкт-Петербург, 1867). З мэтай дакладнага аддзялення рускага народа ад іншых плямёнаў у 1911 г. выдадзена была «Этнографическая карта западного славянства и Западной Руси» філолага і акадэміка **Цімафея Дзмітрыевіча Фларынскага** (1854-1919) у маштабе 1:680 000 і памерам 90 х 111 см. Уплыў А. Рыціха прасочваецца на «Карце народаў Расіі»[18] **Рыхарда Андрэ**, выдадзенай у Лейпцыгу ў 1881 г., і на прымітыўнай «Этнаграфічнай карце Еўропы»[19] **Ж. Гейзендорфера**, выдадзенай на французскай мове ў Парыжы ў 1885 г., якія паказваюць зонай рассялення беларусаў Вільню, Заходняе Палессе і Браншчыну. У 1893 г. Прускі аддзел дзяржаўнай картаграфіі пачаў выдаваць «Карту Сярэдняй Еўропы»[20] ў маштабе 1:300 000 у шмат колераў, з прадстаўленнем

[16] «Carte éthnografique de l'Empire de Russie, par R. von Erkert», Kiepert, Berlin 1862.

[17] «Atlas ethnographique des provinces habitées en totalité ou en partie par des Polonais, par R. d'Erkert», St. Pétersbourg, 1863 («Этнографический атлас провинций, где проживают полностью или частично поляки»).

[18] «Volkerkarte von Russland».

[19] «Carte Ethnographique de L'Europe".

[20] «Ubersichtskarte von Mitteleuropa".

заходніх губерняў. Выданне карты працягвалася да 1945 г. Тэрыторыя пражывання беларусаў была пазначана на нямецкамоўнай «Этнаграфічнай карце Еўропы»[21], выдадзенай у 1855 г. у маштабе 1:6 000 000 і памерам 42 x 31,5 см **Генрыхам Бергхаўзам.**

Вынікі перапісу 1897 г. паслужылі падставай для **Пола Макса Гары Лангханса** (1867-1952) выдаць у 1906 г. карты «Немцы ў Расіі і руская рэвалюцыя»[22] (маштаб 1:3 700 000, памер 68 x 57 см), затым у 1914 г. «Моўную карту Рускай Польшчы пасля першай рускай рэвалюцыі»[23] (маштаб 1:1 200 000, памер 49 x 57 см) і ў 1915 г. «Этнаграфічныя ўмовы ў Прыбалтыцы і Літве»[24] (маштаб 1:2 800 000, памер 26,5 x 30 см). У 1916 г. у Коўне на нямецкай мове выйшла праца «Размеркаванне народаў у Заходняй Расіі»[25], паказваючая на 20 картах у выглядзе картаграм склад нацыянальнасцей у Латвіі, Літве, Польшчы, Беларусі, частцы Украіны). Геаграфічны інстытут у Берне ў 1918 г. выдаў «Этнаграфічную карту Еўропы»[26], якую ў фармаце 87x107 см стварыў загадчык рады нацыянальнасцей бібліятэкі Лазанны **Юозас Габрыс**. Уся тэрыторыя Беларусі на ёй афарбавана колерам засялення выключна беларусамі.

У 1872 г. у сёмым томе «Трудов этнографическо-статистической экспедиции в западнорусский край» Паўднёва-заходнім аддзелам Рускага геаграфічнага таварыства пад кіраўніцтвам украінскага этнографа, географа і фальклярыста **Паўла Платонавіча Чубінскага** (1839-1884), была змешчана «Карта южнорусских наречий и говоров», якая ў якасці этнічнай прасторы ўкраінцаў у Гродзенскай губерні ахоплівае Брэсцкі і Кобрынскі паветы, значную частку Пружанскага, кавалак Слонімскага і Бельскага, а ў Мінскай губерні — Пінскі і большасць Мазырскага паветаў (памер 68 x75 см, маштаб — 1:2 520 000). Такое ж самае дзяленне этнасаў сустракаецца ў «Подробном атласе Российской империи» генерала **А. Ільіна**, на «Этнографической карте Европы» 1871 г. і «Этнографической карте европейской России». Гэты ж генерал у 1884 г. выдаў «Этнографическую карту русского народа в Европейской России и Австрии с показанием племенных его подразделений на великороссов, малороссов и белоруссов». Арэал гэтых трох этнасаў пазначаны адным карычневым колерам. Берасцейшчына, Піншчына і Старадубаўшчына адрэзаны тут таксама да ўкраінскіх этнічных зямель.

21 «Uberlicht von Europa mit Ethnograph».
22 «Das deutschtum in russland und die russische revolution».
23 «Sprachenkarte von russich polen nach der ersten russischen volkszalkung».
24 «Die etnographischen verhaltnisse im batland und in litauen».
25 «Völker-Verteilung in West-Russland».
26 «Carte ethnographique de l'Europe: echelle moyenne». Маштаб 1:500 000 000.

Член ЦСК **Уладзімір Аленіцын** (1846-1910) у 1884 г. выпусціў у картаграфічным таварыстве А. Ільіна «Карту Юго-Западных губерний Европейской России с показанием процента еврейского населения в черте еврейской оседлости по уездам» (маштаб 1:4 200 000). У 1892 г. Рускае педагагічнае таварыства ў Львове выпусціла карту «Русь-Украина и Белая Русь» у маштабе 1:3 700 000 (58 x 74 см), складзеную студэнтамі Львоўскага ўніверсітэта **М. Кімаковічам** і Л. Ражанскім. Яны выдзелілі 13 этнасаў. Першым этнічныя межы пражывання беларусаў з іх гаворкай на сваёй «Этнографической карте белорусского племени" 1903 г. звязаў выдатны мовазнаўца **Яўхім Фёдаравіч Карскі** (1860-1931). У граніцы «белорусской области» ён уключыў цалкам Магілёўскую губерню, большую частку Гродзенскай з Беластокам (без Бельска, Брэста, Кобрына, Пружан), Мінскую губерню (без Пінска і паўднёвай часткі Мазырскага павета), Віцебскую губерню без паўночна-заходняга кута з Люцынам, Рэжыцай і Дзвінскам, Віленскую губерню без яе заходняй часткі, большую частку Смаленскай губерні без Вяземскага, Сычаўскага, Гжацкага і Юхноўскага паветаў, кавалак Чарнігаўскай з яе пяццю паўночнымі паветамі (Суражскім, Мглінскім, Старадубскім, Навазыбкаўскім, Гараднянскім) і часткай Ноўгарад-Северскага, паўднёвы кавалак Сейненскага павета Сувалкскай губерні, поўдзень Новаалександраўскага павета Ковенскай, поўдзень Іллукстскага павета Курляндскай, паўднёвыя часткі Апочаскага, Вялікалукскага і Тарапецкага паветаў Пскоўскай, поўдзень Асташкаўскага, захад Ржэўскага паветаў Цвярской і захад Бранскага і Трубчэўскага паветаў Арлоўскай губерняў. Карта была вядома венскаму выдаўцу **Артуру Хаберландту** і Густаву Фрэйтагу, якія ў 1915 г. у Вене надрукавалі „Карту народаў Еўропы"[27], праўда з памылкамі.

У 1914 г. члены імператарскай АН і РГТ **І. П. Паддубны**, Мікалай Мікалаевіч Дурнаво, Мікалай Мікалаевіч Сакалоў, Дзмітрый Мікалаевіч Ушакоў выдалі ў маштабе 50 вёрстаў «Диалектологическую карту русского языка в Европе» фарматам 100,5 x 83,7 см, на якой абазначылі сферы гаворак або дыялектаў рускай мовы (вяліка-, мала- і беларускай), прычым у абшар беларускага прыслоўя яны аднеслі Смаленскую, большую частку Бранскай, Калужскай, поўдня Пскоўскай і паўночнага захаду Цвярской губерняў. Гэта супадае з данымі «Военно-статистичестического сборника» 1871 г. аб тым, што беларусы ўяўлялі ветку русскага народа і акрамя традыцыйных Заходнерускіх губерняў (Віцебскай, Магілёўскай, Мінскай і Гродзенскай) насялялі

[27] „Volkerkarte von Europa".

часткі Віленскай, Ковенскай, Валынскай, Падольскай, Чарнігаўскай, Арлоўскай, Херсонскай, Пензенскай і цалкам Смаленскай губерняў.

Напачатку XIX ст. з'яўляюцца палітычныя атласы для шырокага круга чытачоў у выглядзе атласаў свету і Расійскай імперыі ў выкананні Ф. Пазнякова, А. Максімовіча, С. І. Бараноўскага. У 1828, 1829, 1839 гг. тройчы выдаваўся з дадаткамі «Географический атлас Российской империи, Царства Польского и Великого княжества Финляндского [...] на 70 листах с генеральной картой...», складзены ў 1820-1827 гг. **В. П. Пядышавым**. «Историческая карта Российской империи» маштабу 1:16 800, складзеная ў 1793 г., паказвае пашырэнне Расійскай імперыі ад панавання Пятра І. Тэрытарыяльную экспансію імперыі ўяўляюць «Хронологические и генеалогические таблицы» да розных карт па гісторыі» (1809), «Атлас исторический, хронологический и географический Российского государства» (1829-1831), «Атлас географический, исторический и хронологический Российского государства» (1845), «Планы и карты в военной истории походов россиян в XVIII столетии. Часть І», выдадзеныя ВТД у 1819 г.

У 1827 г. пабачыў свет «Исторический атлас Польши» **Станіслава Плятэра** (1784-1851) у складзе дзесяці карт маштабу 1:600 000 памерам 35,7 х 26,7 см з малюнкам падзей перыяду 1625-1812 гг. Карты суправаджае тэкставы матэрыял. Плятэр праз год прадставіў гістарычны атлас войнаў у Польшчы ў XVII і XVIII стст., у якім на 10 лістах змясціў 20 планаў бітваў з тлумачэннямі. Пазней ён жа склаў яшчэ 12 гістарычных карт на перыяд ад 1136 да 1830 г. Карты засталіся ў рукапісным выглядзе.

Выдатны гісторык і выкладчык Віленскага ўніверсітэта **Іаахім Лялевель** (1786-1861) у 1828 г. выдаў у Варшаве «**Атлас истории и географии древностей**» у складзе 12 лістоў з 22 гістарычнымі картамі і «Атлас да дзеяў польскіх»[28], складзены з дванаццаці карт, які ў 1844 г. быў выдадзены як дадатак да яго працы і які да 1863 г. вытрымаў 11 выданняў. Карты І. Лялевеля выкарыстоўвала ў гістарычным атласе Польшчы (Варшава, 1831) Рэгіна Кажанёўская (1793-1874). У 1831 г. Аўгуст Дуфур (1798-1865) і гісторык, географ, выдаўца, архіварыус **Леанард Ходзька** (1800-1871) распрацавалі гістарычную карту Польшчы перыяду І-га падзелу ў маштабе 1:2 850 000 (53,5 х 41,8 см). У тым жа годзе яны выпусцілі ў Парыжы атлас сучаснай гісторыі Польшчы.

[28] «Atlas historyczny do dziejów polskich».

[29] «Atlas Containing Ten Maps of Poland Exibiting the Political Changes That Country Has Experienced During the Last Sixty Years, From 1772 to the Present Time».

У Лондане ў 1837 г. з'яўляецца гістарычны атлас Польшчы[29] эмігрантаў **Яна Марціна Бансемера** (1802-1840) і Пятра Фалькенгагена-Залеўскага (1809-1883) у выглядзе 10 каляровых карт памерам 43 х 44 см і маштабам 1:2 900 000, сярод якіх маюцца выявы абшараў Рэчы Паспалітай у 1772, 1793, 1795 гг. У 1859 г. **Кастусь Тышкевіч** (1806-1868) прадставіў у Варшаве рукапісны археалагічны атлас, які складаецца з 14 карт (34,1 х 48 см). У 1850 г. у Парыжы з'явіўся «Атлас старажытнай Польшчы» А. Дуфура, які складаўся з 12 тэматычных каляровых карт (51 х 75 см). Польскі гісторык **Фелікс Вратноўскі** (1803-1871), вучань І. Лялевеля, змясціў у 1862 г. у Парыжы ў складзе Атласа старажытнай Польшчы «Карту моў і рэлігій»[30] на плошчы 88 х 65 см і ў маштабе 1:2 000 000. Некалькі выданняў вытрымала «Этнаграфічна-статыстычная карта рассялення палякаў на абшары даўняй Рэчы Паспалітай»[31], якую ў 1909 г. зрабіў для сваёй навуковай працы **Эдвард Чыньскі** ў маштабе 1:3 200 000 і памерам 37 х 34 см. Яму ж належыць і карта этнаграфічнай мяжы паміж палякамі, беларусамі і ўкраінцамі ў Бельскім павеце[32] памерам 18 х 28 см і ў маштабе 1:840 000. Пасля Чыньскага этнічную Польшчу паступова пачалі аддзяляць ад гістарычнай, без усходніх крэсаў, за якімі прызнавалася права на дзяржаўнае самавызначэнне.

У 1859 г. у Парыжы выходзіць «Карта даўняй Польшчы з прылеглымі ваколіцамі суседніх краін паводле новых матэрыялаў»[33] у выкананні эмігранта **Войцеха Хржаноўскага** (1793-1861) у маштабе 1:1 300 000, на 59 лістах памерам 51 х 66 см. На яе 15 аркушах паказвалася наваколле Дынабурга, Вільні, Мінска, Магілёва, Мсціслаўя, Бабруйска, Пінска і інш.

Кракаў стаў месцам выдання ў 1895 г. **Янам Бабірэцкім** (1855-1902) у маштабе 1:3 000 000 і памерам 63 х 58 см агульнай карты «Польша ў 1771 г.» з дэманстрацыяй падзелаў 1772, 1793, 1795, 1815 гг.[34] Яна прадставіла тэрыторыю Рэчы Паспалітай у класічным складзе правінцый,

30 «Atlas de l'ancienne Pologne pour sevir a l'etude de la geographie naturelle et historique des pays compris entre la mer Baltique et la mer noire».

31 «Etnograficzno-statystyczna karta rozsiedlenia ludności polskiej na terytorium dawnej Rzeczypospolitej i krajów ościennych».

32 «Mapa granicy etnograficznej polsko-litewskiej w gub. Suwalskiej i polsko-biało i mało-ruskiej w pow. Bielskim gub. Grodzieńskiej».

33 «Karta dawnéj Polski z przyległemi okolicami krajów sąsiednich według nowszych materyałów».

34 «Mapa Rzeczypospolitej Polskiej z przydaniem kart orientacyjnych trzech podziałów, Ks. Warszawskiego i okręgu Wolnego Miasta Krakowa».

у тым ліку Літоўская правінцыя (ВКЛ) складзена з Белай Русі (Віцебскага, Полацкага, Мсціслаўскага, Мінскага і Смаленскага ваяводстваў), Чорнай Русі (Навагрудскага ваяводства, Мазырскага і Рэчыцкага паветаў) і паса зямлі па р. Прыпяці пад назвай Палессе. Насуперак пастановам сеймікаў ВКЛ XVIII стагоддзя, усе ваяводствы ВКЛ паказаны не ў сваіх межах, а ў традыцыях XVI ст. Карта ў далейшым перавыдавалася чатыры разы.

У 1904 г. польскі гісторык **Аляксандр Ябланоўскі** (1829-1913) выдаў пры падтрымцы Ваенна-геаграфічнага інстытута ў Вене «Исторический атлас русских земель Речи Посполитой Польши» (Варшава, Вена, 1889-1904). Атлас прадставіў межы і цэнтры ваяводстваў, зямель, паветаў і валасцей на 16 лістах карт (60 x 74,5 см) і двух лістах табліц. **Бенедыкт Гертц** у 1905 г. выпусціў у выдавецтве «Літоўскага кур'ера» на лісце памерам 87 x 97см палітыка-адміністрацыйную «Карту шести губерний Литвы и Белой Руси»[35] у маштабе 1:840 000, якая змяшчала населеныя пункты паводле кнігі Н. Роўбы «Павадыр па Літве і Беларусі», пад якой падразумяваліся Мінская, Віцебская і Магілеўская губерні. Бібліятэкар музея ў Раперсвілі **Станіслаў Зялінскі** ў 1913 г. распрацаваў «Храналагічны і алфавітычны спіс бітваў і сутычак 1863-1864 гг.» з адпаведнай рукапіснай картай-схемай на тэрыторыі «Літвы і Русі» ў маштабе 20 км, выдадзенай у Львове. Вядомы польскі картограф і выдавец **Юзэф Міхал Базэвіч** (1867-1929) у 1911 г. выпусціў «Карту Літвы і Русі», на якой паказаў тагачасныя губернскія межы, чатыры тыпы дарог з паштовымі станцыямі, значныя пасяленні ў маштабе 20 вёрстаў[36]. Яму ж належыць і „Атлас Польшчы ў межах 1770 г.". Знакамітым пецярбургскім літографам **І. Кадушкіным** у 1915 г. створана памерам 255 x 255 мм у маштабе 40 вёрстаў «Карта Мінскай губерні», на якой выяўлены лясы, балоты, павятовыя межы і прадстаўлены таблічныя даныя па плошчы паветаў і колькасці іх жыхароў. Аўстрыйскі навуковец **Карл Пеўкер** (1859-1940) прадставіў у 1914 г. у Вене «Генеральную карту Западной России и сопредельных с Веной и Будапештом стран», на якой у маштабе 1:500 000 паказаны тагачасны адміністрацыйны падзел і гідраграфія мясцовасці.

У другой палове XIX ст. у Расіі выдаюцца агульнагеаграфічныя комплексныя навучальныя атласы: напрыклад, «Географический атлас»

[35] «Mapa sześciu gubernij Litwy i Białej Rusi».

[36] «Mapa Litwy i Rusi (Litwa, Białoruś, Podole, Wołyń, Ukraina) na podstawie najnowszych źródeł opracowana».

К. Мікешына (1869), «Краткий учебный географический атлас всех частей света для народных училищ» А. А. Ільіна (1877), а таксама «Учебный атлас всеобщей географии» Юльяна Іванавіча Сімашкі (1821-1893), «Учебный атлас общей географии» Андрэя Леанардавіча Лінберга (1837-1904), «Учебный географический атлас» Эдуарда Юльевіча Петры (1854-1899), «Учебный атлас Российской империи» Якава Кузняцова, якія вар'іраваліся па тэматыцы, тэрытарыяльным ахопе, прызначэнню для розных навучальных устаноў і памерах тлумачальных тэкстаў. У 1896 г. выпушчана «Иллюстрированная карта Европейской России» **М. А. Паўлавай** у маштабе 1:2 500 000 (5 лістоў, 126 х 76 см), на якой намаляваны прамысловасць, сельская гаспадарка, народныя промыслы, этнаграфія, помнікі культуры розных губерняў. Аналагічнымі па ўтрыманні і афармленні былі «Настенная карта Европейской России с изображением народных промыслов» **Мікалая Мікалаевіча Шыпава** маштабу 1:5 000 000 (Херсон, 1901; 92 х 85 см, перавыдана ў 1903, 1905 і 1913 гг.), «Наглядная карта Европейской России» **М. І. Тамасіка** маштабу 1:2 100 000 (Варшава, 1903; 4 лісты, 106 х 172 і 24 х 16 см), аздобленая малюнкамі штодзённага жыцця, агульнанаглядная карта «Западный край», якую ў 1905 г. прадставіла выдавецтва «Асвета» ў маштабе 1:3 700 000 і памерам 210 х 265 см. У 1829 г. выйшаў «Учебный атлас древней и новой России» **Івана Фёдаравіча Ейнерлінга** з паказальнікам 6050 назваў на картах памерам 14 х 11 см. У 1840 г. ён жа выдаў на 29 лістах «Общий учебный атлас древней, средних веков и новой географии В. Левассера». Праз тры гады выданне дапоўнілі палітыка-адміністрацыйнымі картамі на 87 лістах. Чатыры выданні (1843, 1845, 1850, 1861) вытрымаў гістарычны атлас свету для гімназій прафесара рускай мовы Хельсінкскага ўніверсітэта **Сцяпана Іванавіча Бараноўскага** (1817-1890). Гісторыю Беларусі з імперскіх пазіцый адлюстроўваюць навучальныя гістарычныя атласы Расіі гісторыка **Мікалая Іванавіча Паўлішчава** (1801-1879), у выданнях 1845, 1873 гг.; **Мікалая Мікалаевіча Торнау** — 14 выданняў з 1894 па 1916 г.; **Ягора Ягоравіча Замыслоўскага** (1841-1896) — выданне 1865, 1869, 1887 гг.; **Аляксандра Васільевіча Дабракова** (1841-1908) — 14 выданняў з 1868 па 1916 г. для настаўніцкіх і царкоўна-прыхадскіх вучэльняў.

**Summary**

**Mapping of Belarus in 1772-1917**

The paper contains an introduction for The Historical Atlas of Belarus which has not been published yet. The text is based on the archival and published maps which were created for the territory of Belarus between the Commonwealth's s partitions(1772–1793–1795) and the Revolution 1917. The review covers basically products of the Russian school of cartographers.

**Keywords:** cartographic materials, Belarus, the Commonwealth, Russian school of cartography.

**Streszczenie**

**Kartografowanie Białorusi w latach 1772-1917**

Artykuł przedstawia treść *Wprowadzenia* do niewydanego jeszcze *Historycznego atlasu Białorusi*. Tekst oparty został na charakterystyce archiwalnych lub publikowanych materiałów kartograficznych, wytworzonych dla terytorium Białorusi w okresie od rozbiorów Rzeczypospolitej (lata 1772-1793-1795) do rewolucji 1917 roku. Przegląd map obejmuje w zasadzie prace rosyjskiej szkoły kartografii.

**Słowa kluczowe:** materiały kartograficzne, Białoruś, Rzeczpospolita, rosyjska szkoła kartografii.

**Jauhien Aniszczenko** — docent w Katedrze Zdrowia Publicznego i Opieki Zdrowotnej Białoruskiego Państwowego Uniwersytetu Medycznego w Mińsku. Zainteresowania badawcze: procesy społeczno-polityczne na Białorusi w XVIII-XIX w., w tym związane z rozbiorami Rzeczypospolitej. Autor ponad 480 publikacji, m.in. w czasopismach „Беларускі гістарычны часопіс", „Полымя" oraz 40 książek.

**Сяргей Токць**
(Гродна)

# Холад, голад і зараза: кліматычныя катаклізмы і эпідэміі ў Беларусі ў 40-50-ыя гады XIX стагоддзя

Страх перад голадам і эпідэміямі спадарожнічаў чалавецтву на працягу ўсёй гісторыі. Звычайна прычынамі гэтых няшчасцяў выступалі войны і кліматычныя катаклізмы. У выніку прамысловай рэвалюцыі і ўдасканалення сельскагаспадарчых тэхналогій найбольш развітыя краіны свету станавіліся ўсё больш устойлівымі перад такімі пагрозамі ў мірны час. Развіццё транспартных сетак дазваляла хутка даставіць харчаванне туды, дзе здарыўся неўраджай. Апошняя магутная хваля голаду, не звязаная з ваеннымі падзеямі, пракацілася па Заходняй Еўропе ў сярэдзіне XIX ст. Адной з галоўных непасрэдных прычын быў катастрафічны неўраджай бульбы, якая з'яўлялася на той час асноўным прадуктам харчавання для бяднейшага насельніцтва кантынента. Завезеная з Паўночнай Амерыкі хвароба гэтай расліны *Phytophthora infestans* бязлітасна нішчыла плёны. Найбольш жахлівых памераў дасягнуў т.зв. „Вялікі голад” у Ірландыі, дзе ў выніку мацнейшых неўраджаяў бульбы ў 1844-1849 гадах памерлі ад голаду і выкліканых яго наступствамі эпідэмій больш за 1 мільён чалавек (насельніцтва Ірландыі напярэдадні гэтай катастрофы складала болей 8 млн. жыхароў). Яшчэ больш за мільён ірландцаў эмігравалі за акіян, пераважна ў Злучаныя Штаты Амерыкі. Зялёная выспа ў выніку „Вялікага голаду” змянілася да непазнавальнасці[1].

Значна менш вядома пра выпадкі масавага голаду ў той час на ўсходзе еўрапейскага кантынента. У Галіцыі, якая ўваходзіла ў склад Аўстрыйскай імперыі Габсбургаў, адначасова з ірландскім здарыўся свой „вялікі голад”. За чатыры гады ў гэтай правінцыі (налічвала каля 5 млн. насельніцтва) памерлі ад голаду і выкліканых ім эпідэмій больш за 500 тыс. жыхароў, пераважна сялян. Даходзіла да выпадкаў канібалізму. А галоўнай прычынай зноў жа з'яўлялася тая ж хвароба бульбы, якая і ў Ірландыі была асноўным прадуктам харчавання сярод бедных

[1] S. Grzybowski, *Historia Irlandii*, Wrocław 2003; P. Hamera, *Wielki Głód w Irlandii 1845-1852 w świetle prasy angielskiej*, Kraków 2016.

сялян[2]. Адначасова з голадам выбухнуў і сацыяльны канфлікт. У выніку т.зв. „галіцыйскай разні” ў 1846 г. польскія сяляне забілі некалькі тысяч польскіх жа шляхцічаў. Моцны дэмаграфічны спад назіраўся ў тыя гады таксама ў Каралеўстве Польскім, якое ўваходзіла ў склад Расійскай імперыі.

Голад і эпідэміі рэгулярна наведвалі ў XIX ст. і Беларусь. У айчыннай гістарыяграфіі няма спецыяльных прац, прысвечаных гэтаму пытанню. Яно нават не закранаецца ў абагульняючых калектыўных працах беларускіх гісторыкаў, прысвечаных дадзенаму перыяду, такіх, як *Гісторыя сялянства Беларусі*[3], ці найноўшая на сённяшні дзень праца *Сацыяльна-эканамічнае развіццё Беларусі ў XIX стагоддзі*[4]. Пытанне скарачэння колькасці сялянскага насельніцтва ў Заходняй Беларусі і Літве ў палове XIX ст. разгледжана ў фундаментальнай манаграфіі Мікалая Улашчыка „Предпосылки крестьянской реформы 1861 года в Литве и Западной Белоруссии”[5]. На грунце аналізу даных тагачаснай дэмаграфічнай статыстыкі Улашчык прыйшоў да высновы, што „с наступлением периода разложения феодально-крепостнической системы процент крепостного населения начал сокращаться, и одновременно это сокращение явилось важнейшим показателем наступления периода кризиса системы”[6]. Галоўнай высновай Улашчыка адносна жыцця перадрэформеннага сялянства стала наступная: „Крестьянское хозяйство перед реформой явно шло к упадку. Показателем этого было как явное сокращение (абсолютное и относительное) крестьянских посевов и сборов, так и, в особенности, уменьшение числа крепостных. Если да середины 40-х гг. крепостное население увеличивалось, то с этого времени рост прекратился, так как в положении крестьян произошли большие перемены в сторону ухудшения (сокращение участков и рост повинностей) [...]. Основной причиной упадка крестьянского хозяйства можно считать не столько уменьшение крестьянских участков, сколько рост повинностей”[7]. Такім чынам, прычынай скарачэння

[2] J. Szewczuk, *Kronika klęsk elementarnych w Galicji w latach 1772-1848*, Lwów 1939; K. Zamorski, *Transformacja demograficzna w Galicji na tle przemian ludnościowych innych obszarów Europy Środkowej w drugiej połowie XIX i na początku XX wieku*, Kraków 1991.

[3] *Гісторыя сялянства Беларусі*, т. 1: *Гісторыя сялянства Беларусі ад старажытнасці да 1861 г.*, Мінск 1997.

[4] *Сацыяльна-эканамічане развіццё Беларусі (канец XVIII — пачатак XX ст.)*, Мінск 2020.

[5] Н. Н. Улащик, *Предпосылки крестьянской реформы 1861г. в Литве и Западной Белоруссии*, Минск 1965.

[6] Тамсама, с. 56-57.

[7] Тамсама, с. 383.

колькасці насельніцтва даследчык лічыў сацыяльна-эканамічныя фактары, а ў першую чаргу — узмацненне эксплуатацыі сялянства з боку землеўладальнікаў, а на прыродныя фактары і эпідэміі ўвагу не звяртаў. І гэты падыход трывала замацаваўся ў айчыннай гістарыяграфіі. У пятым томе апошняй шматтомнай *Гісторыі Беларусі* прыводзяцца даныя, што насельніцтва Беларусі з 1851 па 1858 г. скарацілася з 3 млн. 479,0 тыс. да 3 млн. 398,0 тыс. чалавек, у той час як з 1833 г. па 1851 г. быў зафіксаваны рост на 28,9%[8]. Аўтары тома ўвогуле не звярнулі ўвагі на гэты факт.

**Дэмаграфічныя правалы і неўраджайныя гады**

Дэмаграфічны крызіс сярэдзіны XIX ст. з асаблівай сілай ударыў па Гродзенскай губерні. Паводле даных 8-й рэвізіі 1834 года ападаткаванае насельніцтва гэтай губерні (у абсалютнай большасці сяляне і мяшчане) налічвала 751 668 чалавек. Паводле 9-й рэвізіі (1851 г.) яго колькасць узрасла да 787 983, што азначала хаця б і не вялікі (каля 5% за 17 гадоў), але ўсё ж рост. А паводле 10-й рэвізіі 1859 года ападаткаванае насельніцтва губерні склала 704 285 чалавек, альбо зменшылася ў параўнанні з 1851 годам на 83 698 (на 10,6%)[9]. Такім чынам, дэмаграфічныя страты ў 1850-ыя гады выглядаюць не нашмат меншымі, чым у Ірландыі ад „Вялікага голаду", калі, канешне, не ўлічваць лічбаў міграцыі.

Статыстычныя даныя адносна дэмаграфічных паказчыкаў Гродзенскай губерні за перыяд 1843-1857 гадоў сведчаць, што з пятнаццаці гадоў у шасці смяротнасць перавышала нараджальнасць (табліца 1). Першы дэмаграфічны спад адбыўся ў 1846-1848 гадах. Так, у 1848 годзе ў губерні памерлі 38 255 чалавек (4,2% ад агульнага ліку ўсяго насельніцтва). Але ўжо ў 1849 годзе смяротнасць зменшылася і амаль вярнулася да нормы. Наступны дэмаграфічны спад, значна мацнейшы за першы, адбыўся ў 1854-1855 гадах. У 1854 годзе памерлі 42 209 чалавек (5,7% ад ліку ўсяго насельніцтва), а ў 1855 годзе — 49 499 (6%)[10]. Найгоршым стаў тады 1855 год, калі ў сярэднім на 1000 нараджэнняў прыйшлося 2230 смярцей, а колькасць памерлых амаль у два з паловай раза перавысіла мінімальны паказчык смярцей, зафіксаваны ў 1857

[8] *Гісторыя Беларусі*, т. 4: *Беларусь у складзе Расійскай імперыі (канец XVIII — пачатак XX ст.)*, Мінск 2007, с. 58.

[9] П. Бобровский, *Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба: Гродненская губерния*, Санкт-Петербург 1863, ч. 1, с. 544.

[10] Тамсама, с. 583.

годзе. Такія высокія паказчыкі смяротнасці ў гэтыя гады, паводле тагачаснага даследчыка Гродзеншчыны Паўла Баброўскага, адбыліся з прычыны халеры, тыфознай гарачкі, ліхаманкі і неўраджаяў[11].

**Табліца 1.** Паказчыкі дэмаграфічнага развіцця Гродзенскай губерні за 1843-1857 гады

| Гады | Колькась нараджэнняў | Колькасць смярцей | На 1000 народжаных памерла |
|---|---|---|---|
| 1843 | 31 361 | 25 234 | 804 |
| 1844 | 35 200 | 21 523 | 611 |
| 1845 | 32 543 | 30 401 | 935 |
| 1846 | 29 857 | 34 505 | 1161 |
| 1847 | 33 188 | 33 272 | 1011 |
| 1848 | 33 093 | 38 255 | 1156 |
| 1849 | 36 500 | 29 394 | 805 |
| 1850 | 35 435 | 33 900 | 957 |
| 1851 | 40 636 | 29 157 | 718 |
| 1852 | 33 075 | 27 226 | 823 |
| 1853 | 31 758 | 28 754 | 905 |
| 1854 | 26 591 | 49 209 | 1850 |
| 1855 | 22 192 | 49 499 | 2230 |
| 1856 | 26 968 | 28 340 | 1183 |
| 1857 | 31 975 | 20 836 | 652 |

**Крыніца:** П. Бобровский, *Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба: Гродненская губерния*, Санкт-Петербург 1863, ч. 1, Приложения, № 56.

Даследчык Мінскай губерні Іларыён Зяленскі ў сваёй працы прыводзіць даныя дэмаграфічнай статыстыкі па гэтай губерні за 1849-1857 гады (табл. 2). З гэтых даных вынікае, што ў 1850 і 1851 гадах назіраўся нізкі паказчык смяротнасці і даволі высокія паказчыкі дэмаграфічнага росту. Заўважнае павышэнне паказчыка смяротнасці адбылося ў 1852 годзе, але дадатныя паказчыкі росту захаваліся. А ў 1854 годзе дэмаграфічная сітуацыя нават палепшылася. І толькі ў 1855 і 1856 гадах колькасць смярцей у Мінскай губерні перавысіла колькасць народзінаў. Такім чынам, паводле прыведзеных Зяленскім даных, дэмаграфічная

11 Тамсама.

сітуацыя на Міншчыне ў першай палове 1850-ых гадоў выглядала ў цэлым трохі лепшай, чым у Гродзенскай губерні.

**Табліца 2.** Паказчыкі дэмаграфічнага развіцця Мінскай губерні за 1849-1857 гады

| Гады | Колькась нараджэнняў | Колькасць смярцей | Дэмаграфічны прырост |
|---|---|---|---|
| 1849 | 43 324 | 37 427 | +5897 |
| 1850 | 39 375 | 28 327 | 11048 |
| 1851 | 36 102 | 28 331 | +7771 |
| 1852 | 39 700 | 35 250 | +4450 |
| 1853 | 39 468 | 35 250 | +4218 |
| 1854 | 38 462 | 30 025 | +8437 |
| 1855 | 35 552 | 43 687 | -8135 |
| 1856 | 35 603 | 36 329 | -726 |
| 1857 | 37 004 | 35 205 | +1799 |

**Крыніца:** И. Зеленский, *Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба: Минская губерния*, Санкт-Петербург 1863, ч. 1, с. 456.

У даследаванні Віленскай губерні Антона Карэвы прыводзяцца даныя дэмаграфічнай статыстыкі за 1844-1858 гады (табл. 3). Паводле гэтых даных найгоршымі ў дэмаграфічных адносінах былі на Віленшчыне 1846 і 1847 гады, калі колькасць смярцей перавышала колькасць народзін. Паводле паказчыка смяротнасці рэкордным стаў 1846 год. З 1848 года дэмаграфічная сітуацыя ў губерні выпраўляецца, а найвышэйшы паказчык прыросту насельніцтва быў зафіксаваны ў 1852 годзе, пасля чаго зноў назіраецца пагаршэнне. Складаным стаў на Віленшчыне 1856 год, калі колькасць смярцей зраўнялася з колькасцю народзін. У 1858 годзе сітуацыя фактычна вяртаецца да нормы. Такім чынам, з гэтых лічбаў вынікае, што асабліва цяжкімі для жыхароў Віленскай губерні былі 1846-1847 гады, а ў 1850-ыя дэмаграфічны крызіс праявіўся тут слабей.

**Табліца 3.** Паказчыкі дэмаграфічнага развіцця Віленскай губерні за 1844-1858 гады

| Гады | Колькась нараджэнняў | Колькасць смярцей | Дэмаграфічны прырост |
|---|---|---|---|
| 1844 | 34 580 | 20 050 | 14330 |
| 1845 | 36 163 | 20 460 | +15703 |
| 1846 | 30 711 | 35 970 | -5259 |
| 1847 | 25 547 | 31 577 | -6030 |
| 1848 | 31 794 | 26 826 | +4968 |
| 1849 | 32 761 | 25 701 | +7060 |
| 1850 | 32 761 | 21 749 | +11012 |
| 1851 | 40 103 | 20 004 | +20009 |
| 1852 | 49 624 | 24 028 | +25596 |
| 1853 | 31 652 | 28 318 | +3334 |
| 1854 | 35 634 | 26 838 | +8796 |
| 1855 | 26 416 | 25 416 | +1000 |
| 1856 | 33 514 | 33 513 | +1 |
| 1857 | 30 259 | 29 894 | +365 |
| 1858 | 36 843 | 22 355 | +14488 |

**Крыніца:** А. Корева, *Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами Генерального штаба: Виленская губерния*, Санкт-Петербург 1863, ч. 1, с. 340-341.

Наколькі ўспышкі смяротнасці і дэмаграфічныя спады карэляваліся з неўраджаямі і выкліканым імі голадам? Даныя пра велічыню сабранага сялянамі ўраджаю (зерневых і бульбы) штогод збіралі і захоўвалі губернскія камісіі народнага харчавання. Але ці адпавядалі гэтыя даныя рэчаіснасці? Павел Баброўскі, які карыстаўся імі ў сваім даследаванні, сцвярджаў, што даныя пра сабраны ўраджай заўсёды заніжаліся сялянамі[12]. Тым не менш, гэтыя даныя ўсё ж адлюстроўвалі дынаміку ўраджайнасці ў разглядаемы адрэзак часу. Статыстыка ўраджаяў па Гродзенскай губерні з 1843 па 1857 год выразна сведчыць пра карэляцыю неўраджаяў з дэмаграфічнымі паказчыкамі (табл. 4). Амаль заўсёды на наступны год пасля моцнага неўраджаю назіраўся рост смяротнасці і зніжэнне колькасці нараджэнняў па губерні.

Паводле даных камісіі народнага харчавання самы нізкі ўраджай зерневых быў сабраны ў Гродзенскай губерні ў 1845 годзе. Якраз у гэты год здарыўся і першы неўраджай бульбы ў Ірландыі, выклікаsuccessfully

[12] Тамсама, ч. 2, с. 46.

надзвычай сырым надвор'ем і завезенай з Паўночнай Амерыкі хваробай гэтай расліны *Phytophthora infestans*. На Гродзеншчыне бульба ў тым годзе якраз урадзіла надзвычай добра, што, напэўна, у нейкай ступені ратавала агульную сітуацыю. Праўда, адзін з чыноўнікаў заўважыў, што яна была незвычайна вадзяністай і хутка псавалася, што было прыкметай *Phytophthora infestans*. Але пра гэтую хваробу бульбы не ведалі тады і ў самой Ірландыі. Ды і гэтая расліна не адыгрывала яшчэ такой вялікай ролі ў харчаванні беларускіх сялян, як у ірландцаў, а значная частка ўраджаю выкарыстоўвалася для прадукцыі гарэлкі на панскіх гарэльнях.

У наступным 1846 годзе атрымаліся слабыя ўраджаі і зерневых, і бульбы. У выніку ў 1846-1848 гадах у губерні назіраліся адмоўныя паказчыкі дэмаграфічнага развіцця. Прычым у 1847 годзе ураджай быў сабраны добры, але відавочным стала пашырэнне бульбяной хваробы. Напрыклад, маршалак шляхты Беластоцкага павета пісаў у Гродна 15 жніўня:

> В настоящее время замечательнее всего, что картофеля в многих местах целыми пашнями портится, а именно: зелень преждевременно усыхает и чернеет, а под корением пополам сгнившие, а остальные здоровые, еще картофеля имеют черные пятна и тоже приходят к порче. По тщательным замечаниям сведущих людей, подобное состояние картофеля происходит от болезни, точно такой же самой, каковая, как известно из газет, в прошедших летах существовала в заграничных краях[13].

Неўраджайным выдаўся 1847 г. і ў Мінскай губерні. Прычым камісія народнага харчавання сцвярджала, што „как в минувшие два неурожайные годы владельцы имений и вообще все сословия поселян истощили собственные хлебные и денежные запасы, то неурожай в нынешнем году по Минской губернии чувствительнее прошлогодняго"[14].

У 1848 г. у Гродзенскай губерні атрымаўся ўвогуле найлепшы ўраджай за ўвесь перыяд з 1843 па 1857 год. Але ў той год яшчэ сказваліся наступствы катастрафічнага 1845 года, паколькі ўслед за голадам прыйшлі эпідэміі заразных хвароб, якія не знікалі аўтаматычна разам з паляпшэннем ураджайнасці. Адной з галоўных прычын росту смяротнасці стала халера. Паводле афіцыйных звестак, якія прыводзіць

[13] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей: НГАБ) у Гродне, ф. 12, воп. 1, спр. 614, арк. 99.
[14] Тамсама, арк. 175-175 адв.

у сваёй працы Павел Баброўскі, гэтая заразная хвароба забрала ў 1848 годзе ў Гродзенскай губерні жыцці 3937 чалавек, што склала болей 10% ад усіх памерлых[15].

**Табліца 4.** Пасевы і зборы зерневых і бульбы ў Гродзенскай губерні за 1843-1857 гады

| Год | Пасеяна (у чвэрцях[16]) | | | Сабрана (у чвэрцях) | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Азімыя | Яравыя | Бульба | Азімыя | Яравыя | Бульба |
| 1843 | 338 905 | 277 679 | 232 544 | 131 2525 | 983 374 | 1173094 |
| 1844 | Няма звестак | | | | | |
| 1845 | 361 833 | 297 942 | 240 941 | 706 025 | 623 612 | 1296889 |
| 1846 | 356 862 | 277829 | 240 171 | 1 046 929 | 670 223 | 886388 |
| 1847 | 397 855 | 312 209 | 242 039 | 1 629 158 | 952 325 | 702801 |
| 1848 | 445 462 | 347 461 | 261 405 | 1 916 393 | 1 167 988 | 1264494 |
| 1849 | 407 077 | 305 733 | 234 401 | 1 618 598 | 986 579 | 1096943 |
| 1850 | 426 849 | 330 891 | 250 171 | 1 312 191 | 836 650 | 1248423 |
| 1851 | 436 394 | 335 881 | 254 761 | 1 191 387 | 448 994 | 751011 |
| 1852 | 430 959 | 340 254 | 225 885 | 1 562 361 | 936 996 | 937849 |
| 1853 | 413 446 | 311 869 | 225 383 | 897 371 | 668 879 | 347250 |
| 1854 | 402 168 | 287 970 | 179 970 | 1 039 899 | 876 050 | 638982 |
| К.н.п. | 435 451 | 304 132 | 190 424 | 1 124 839 | 864 627 | 687704 |
| 1855 | 410 365 | 283 113 | 187 373 | 944 080 | 696 075 | 593174 |
| К.н.п. | 410 365 | 283 113 | 187375 | 944 080 | 696 075 | 598174 |
| 1856 | 412 076 | 287 786 | 194 633 | 136 5920 | 807 620 | 973806 |
| 1857 | 413 868 | 264 862 | 209 388 | 1 475 844 | 767 035 | 916985 |

**Крыніца:** П. Бобровский, *Материалы для географии и статистики России*, ч. 2, Приложения, с. 5, № 3.

Наступным неўраджайным годам на Гродзеншчыне выдаўся 1851 год, калі назіраўся найгоршы збор яравых культур у губерні за перыяд з 1843 па 1857 год. Таксама вельмі дрэнна ўрадзіла бульба. Кобрынскі маршалак шляхты пісаў 18 кастрычніка 1851 г. у камісію народнага харчавання: „В 1851 г. картофель почти везде совершенно пропал, а где удержался, не возвращал даже и посева, а то в большей части

[15] П. Бобровский, *Материалы для географии и статистики России*, ч. 1, Приложения, с. 80.

[16] Чвэрць (рус. четверть) — мера сыпучых матэрыялаў, роўная аб’ёму 209,9 л.

гнилой и испорченный, так что может быть негодный к употреблению в пищу и на посев”[17]. Падобныя ацэнкі падае і ваўкавыскі маршалак Юзаф Талочка: „В настоящем году поводом беспрерывных холодов и дождей картофель росла весьма мала, а посему размер оной совершенно ничтожный и обнаруживается гниль. На низменных местах сбор картофеля был совсем скудный, так что не возвратился посев”[18]. І гродзенскі маршалак Ляхніцкі сцвярджаў, што на бульбе з’явіліся „какие то болезненные пятна и замечается, что некоторые [...] подвергаются уже гниению”[19]. З гэтых ацэнак вынікае, што хвароба бульбы пашыралася на Гарадзеншчыне, хаця яе ўплыў на агульную сітуацыяю з харчаваннем не быў крытычным. А вось у Віленскай губерні, паводле афіцыйных даных, ураджай зерневых і бульбы ў 1851 годзе выглядаў добрым (табл. 5).

**Табліца 5.** Пасевы і зборы зерневых і бульбы ў гаспадарках прыватнаўласніцкіх сялян Віленскай губерні за 1850-1858 гады

| **Год** | **Пасеяна (у чвэрцях)** | | | **Сабрана (у чвэрцях)** | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | **Азімыя** | **Яравыя** | **Бульба** | **Азімыя** | **Яравыя** | **Бульба** |
| 1850 | 172 000 | 184 000 | 101 000 | 528 000 | 437 000 | 309000 |
| 1851 | 178 000 | 189 000 | 96 000 | 592 000 | 472 000 | 365000 |
| 1852 | 176 500 | 191 000 | 105 800 | 459 560 | 368 000 | 283000 |
| 1853 | 172 000 | 176 500 | 83 400 | 205 900 | 341 700 | 147800 |
| 1854 | 159 900 | 193 400 | 94 200 | 318 500 | 331 000 | 219300 |
| 1855 | 163 600 | 184 300 | 89 300 | 231 820 | 390 200 | 232950 |
| 1856 | 168 100 | 189 100 | 90 700 | 506 900 | 537 400 | 319700 |
| 1857 | 141 300 | 163 800 | 99 300 | 472 000 | 440 000 | 311900 |
| 1858 | 154 100 | 171 500 | 100 200 | 468 600 | 188 300 | 252470 |

**Крыніца:** А. Корева, *Материалы для географии и статистики*, с. 445.

Неўраджай 1851 года ў Гродзенскай губерні не прывёў да голаду і росту смяротнасці ў наступным 1852 годзе, паколькі хапіла запасаў зерня ў запасных хлебных магазінах, а ўраджай наступнага 1852 года аказаўся даволі добрым. Больш таго, памешчыкі рэзка павялічылі аб’ёмы продажу зерня за мяжу, чаму спрыялі высокія кошты на балтыйскіх рынках. Усе спадзяваліся, што наступныя гады будуць ураджайнымі,

17 НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 5, спр. 1009, арк. 12.
18 Тамсама, арк. 10.
19 Тамсама, арк. 2.

і спяшаліся адрабіць фінансавыя страты мінулых неўраджайных гадоў. Да гродзенскага губернатара Хрыстафора Ховена з паветаў даходзілі звесткі пра масавае раскраданне памешчыкамі запасаў з сялянскіх хлебных магазінаў для продажу.

А ў 1853 годзе быў сабраны вельмі дрэнны ўраджай зерневых і найгоршы бульбы ў Гродзенскай губерні за 15 год, што выклікала моцны голад і магутны выбух эпідэмічных захворванняў у наступным 1854 годзе, які, на няшчасце, таксама аказаўся вельмі неўраджайным. У Віленскай губерні ў 1853 годзе ураджай азімага жыта і бульбы аказаўся катастрафічна нізкі. Тое ж самае можна сказаць і адносна Мінскай губерні. У 1854 годзе ў Гродзенскай і Віленскай губернях ураджаі былі слабыя, але ўсё ж лепшыя, чым у папярэднім годзе. У Мінскай жа губерні яравыя і бульба ўвогуле ўрадзілі ў 1854 годзе нядрэнна (табл. 6).

**Табліца 6.** Пасевы і зборы зерневых і бульбы ў Мінскай губерні за 1852-1857 гады

| **Год** | **Пасеяна (у чвэрцях)** | | | **Сабрана (у чвэрцях)** | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | **Азімыя** | **Яравыя** | **Бульба** | **Азімыя** | **Яравыя** | **Бульба** |
| 1852 | 394 725 | 480 219 | 357 388 | 1 163 072 | 1 232 727 | 998577 |
| 1853 | 401 563 | 503 380 | 306 767 | 760 076 | 1 019 804 | 836125 |
| 1854 | 414 362 | 487 672 | 315 170 | 1 048 034 | 1 461 309 | 1079343 |
| 1855 | 414 358 | 478 998 | 334 286 | 742 592 | 1 220 420 | 1325558 |
| 1856 | 356 360 | 426 508 | 286 308 | 1 309 528 | 1 287 798 | 1422375 |
| 1857 | 415 013 | 487 724 | 320 205 | 1 527 118 | 1 568 366 | 1369292 |

**Крыніца:** И. Зеленский, *Материалы для географии и статистики*, ч. 1, с. 362.

Ураджай 1855 года ў Гродзенскай губерні амаль паўтарыў антырэкорд 1853 года, што рабіла сітуацыю на Гродзеншчыне зусім катастрафічнай. Губерню ахапіў самы моцны ў XIX стагоддзі голад, якому, як заўсёды ў такім выпадку, спадарожнічалі эпідэміі заразных захворванняў. У Віленскай губерні вельмі дрэнна ўрадзіла азімае жыта, слабыя былі ўраджаі яравых і бульбы. У Мінскай губерні дрэнна ўрадзілі азімыя і яравыя пасевы, але ўраджай бульбы быў адносна нядрэнны.

### Кліматычныя катаклізмы

Такім чынам, моцныя неўраджаі зерневых і бульбы ўвесь час пераследавалі беларускіх земляробаў у 1840-1850-ыя гады, што стала прычынай голаду, выбуху эпідэмічных захворванняў і ў выніку — дэмаграфічнага спаду. А вось што ў сваю чаргу выступала прычынай

гэтых неўраджаяў? Адказ на гэтае пытанне, на нашу думку, адназначны — кліматычныя катаклізмы.

Увогуле сучаснікі адзначалі, што кліматычныя варункі ў 1830-ыя гады пачалі пагаршацца ў параўнанні з папярэднімі гадамі. У Гродзенскай губерні неўраджаі здараліся ў 1841 і 1842 гадах. Але сапраўдныя праблемы для земляробаў Беларусі распачаліся з лета 1844 года. Як занатавала гродзенская камісія народнага харчавання ў лістападзе таго года, вясной усё выглядала няблага, хаця з паловы красавіка і да паловы мая ўсталявалася халоднае надвор'е з моцным ветрам. У сярэдзіне мая надышло цёплае надвор'е з дажджамі, і ў земляробаў з'явілася надзея на добры ўраджай. Але, „начавшиеся с первых чисел июня и продолжавшиеся до поздней осени почти ежедневные проливные дожди совершенно воспрепятствовали урожаю в нынешнем году хлебов”[20]. Ад бясконцых дажджоў азімы хлеб „лег и подвергся порче [...] множество сена осталось нескошенным”[21].

Пра моцныя і халодныя дажджы на працягу ўсяго лета гаварылася і ў заключэнні віленскай камісіі народнага харчавання: „[...] существовавшие в течение целого лета, в особенности же до июля месяца, постоянные и проливные дожди [...] во время уборки хлеба непереставали проливные дожди с сильными и холодными ветрами”[22]. Аўтар статыстычнага даследавання Віленскай губерні Антон Карэва пісаў, што 1844 год асабліва запомніўся яе жыхарам бесперапыннымі дажджамі, „в продолжение которых реки, выступив из берегов, заносили поля и луга песком и разрушали строения, стоявшие по берегам”[23].

Найгоршым было тое, што дажджы фактычна знішчылі пасевы азімага жыта, а гэта прадракала вялікія цяжкасці ўжо на наступны 1845 год. Віленскі генерал-губернатар Фёдар Міркові у сувязі з гэтым 19 снежня 1844 года прапанаваў абмежаваць вытворчасць гарэлкі ў Віленскай, Гродзенскай і Ковенскай губернях, каб пазбегнуць магчымага голаду, але губернскія камісіі народнага харчавання выступілі супраць гэтай меры, паколькі памешчыцкім гаспадаркам вельмі „нужна бурда, а тем более на вино идет картофель”[24].

У дадатак да ўсяго зіма 1844/1845 года аказалася вельмі марознай, а вясной здарылася моцная засуха. Паліцэйскі чыноўнік Пружанскага павета Гродзенскай губерні Грудзінскі пісаў, што за 25 гадоў службы

[20] НГАБ у Гродне, ф. 12, воп. 3, спр. 74, арк. 2.
[21] Тамсама.
[22] Тамсама, арк. 46 адв.-47.
[23] А. Корева, *Материалы для географии и статистики*, с. 235.
[24] НГАБ у Гродне, ф. 12, воп. 3, спр. 74, арк. 20 адв.

не бачыў такога неўраджаю: „Урожай же нынешнего года не можно сравнивать в половине с прошлогодним [...] крестьяне не могут даже обсеять своих полей [...] ропот на неурожай и ужас голода почти везде от крестьян и евреев слышен"[25]. Палата дзяржаўных маёмасцей Гродзенскай губерні 29 чэрвеня 1845 года пісала губернатару, што „те только из хозяев могут надеяться на несколько лучшую жатву, у которых поля засеяны зерном от урожая 1843 года". Паводле чыноўнікаў палаты яравому хлебу вельмі зашкодзіла працяглая засуха, і толькі з 14 чэрвеня распачаліся дажджы, якія „оживили прозябение хлебов, а также огородных овощей и картофеля, одна надежда хозяев на яровой посев и картофель, которые, по видимому, оказываются не безнадежными"[26]. У выніку ў 1845 г. у Гродзенскай губерні сабралі самы нізкі ўраджай зерневых за перыяд з 1843 па 1857 год.

Якраз у 1845 годзе здарыўся мацнейшы неўраджай бульбы ў Ірландыі. Праўда, бульба ў Беларусі ў тым годзе ўрадзіла добра, што, напэўна, выратавала агульную сітуацыю. Маршалак шляхты Бельскага павета пісаў: „[...] лишь картофель от дождей в августе поправился и может охранить земледельцев от ужасных последствий голода"[27]. І сапраўды, у 1845 годзе быў сабраны найлепшы ўраджай бульбы ў Гродзенскай губерні за 1843-1857 гады. Але маршалкі шляхты звярталі ўвагу на той факт, што яна хутка пачала псавацца. А галоўным было тое, што бульба не адыгрывала такой ролі ў харчаванні беларускіх сялян, як у тых жа ірландцаў, і ў значнай частцы пераганялася ў гарэлку.

Драматычная сітуацыя склалася ў 1845 годзе таксама ў Мінскай губерні. На пасяджэнні камісіі народнага харчавання 4 чэрвеня 1845 года прагназаваўся неўраджай зерневых і магчымы голад „по случаю неурожая хлеба в Минской губернии в минувшем году, истощения настоящего продовольствия и посева всех запасов от прежних лет и ненадежных видов нового урожая по причине весьма ограниченного обсеменения, худо обработанных от дождливой погоды и залива водою полей, употребления к тому тощего зерна и недостатка рабочего скота, падежем коего в прошедшую зиму помещики и крестьяне доведены до затруднительного положения"[28].

У канцы 1840-х гадоў сітуацыя палепшылася, але ўжо ўраджай 1851 года зноў аказаўся вельмі няўдалым. І зноў жа галоўнай прычынай сталі бясконцыя дажджы і сырасць. Асабліва пацярпелі жыхары Гродзенскай

[25] Тамсама, спр. 83, арк. 105-105 адв.
[26] Тамсама, арк. 40 адв.
[27] Тамсама, арк. 129.
[28] Тамсама, арк. 6.

і Віцебскай губерняў. У заключэнні гродзенскай камісіі народнага харчавання ад 16 жніўня 1851 года адзначалася, што пасля сыходу з палёў снегу ўзыходы азімага жыта аказаліся даволі добрымі, „но по случаю существовавших с начала весны холодов и ночных приморозков приостановились в росте". З надыходам цёплага надвор'я пасевы жыта і травы пачалі хутка расці, але зноў надышоў холад з дажджамі, якія працягваліся да 21 мая. У канцы мая прыйшло цяпло, і пасевы аднавілі свой рост, „но, наступившие опять с первых чисел июня по 8 число июля холода при ежедневных почти проливных дождях, много препятствовали произрастению яровых хлебов и трав, а также цвету ржи и мешали уборке сена, которая по случаю залития лугов водою не могла производится"[29]. Бульба ў многіх месцах пачала гнісці ад макраты, яравыя пасевы ў нізкіх месцах прыйшлося перасяваць. З 16 ліпеня добрае надвор'е аднавілася і распачалася ўборка ўраджаю, які аказаўся даволі больш-менш удалым толькі на ўзвышаных месцах. У дадатак дрэнна ўрадзіла бульба. Гродзенская каміссія занатавала ў заключэнні ад 15 лістапада 1851 г.: „по причине мокроты и урожай картофеля чрезвычайно скуден, так что в некоторых имениях едва возвратился посев онаго, к тому же он по причине существующей от нескольких лет болезни во многих местах подвергся гнилости, чем жители лишаются весьма важного пособия в продовольствии"[30].

У заключэнні віцебскай камісіі ад 9 кастрычніка 1851 года гаварылася, што на пачатку вясны ўзыходы жыта былі някепскія, але „с первых чисел апреля, когда земля не успела еще освободиться от весенней влаги, настала холодная погода с проливными дождями, продолжавшимися постоянно более двух месяцев, и по временам утренними морозами, отчего произрастание остановилось [...] на низменных почвах хлеба пропали [...] собраны одни лишь сорные травы". Зямля настолькі набрыняла вільгаццю, што немагчыма было пасеяць яравыя культуры. „К довершению сего несчастия", як адзначыла камісія, у жніўні здарыліся яшчэ начныя маразы, „чрез что зерно совершенно истощилось и потеряло надлежащий вид и качество". Таксама сапасавалася бульба, а капуста была „истреблена червями". У выніку на сялянскіх палетках нават не вярнулася пасеянае зерне[31].

У заключэнні віленскай камісіі ад 15 жніўня 1851 года сцвярджалася, што земляробы не чакаюць добрага ўраджаю з прычыны бесперапынных дажджоў, якія ідуць ад пачатку вясны. Калі надвор'е

29 НГАБ у Гродне, ф. 12, воп. 1, спр. 956, арк. 135.
30 Тамсама, арк. 258 адв.
31 Тамсама, акр. 227.

не выправіцца, канстатавалася ў заключэнні, дык жыхароў губерні „непременно постигнет голод”[32]. У заключэнні ад 31 кастрычніка гэтая ж камісія пісала пра дрэнны ўраджай бульбы, якая падлягае гніенню[33]. На бесперапынныя дажджы, якія „совершенно испортили созревающие озимые и восходившие яровые посевы до того, что теперь и самая хорошая погода не может уже поправить урожаев”, наракаў і маршалак ковенскага павета суседняй Ковенскай губерні[34].

Дажджы нанеслі шкоду і ў Мінскай губерні. У Пінскім павеце ў верасні здарылася „необыкновенное наводнение, от чего были залиты сенокосы и посеянный яровой хлеб”[35]. Апроч таго, маршалак гэтага павета паведаміў, што „картофель [...] по случаю существуемой болезни, почти во многих местах совсем пропал, и к новому посеву принуждены будут жители стараться о новые семена”[36].

Ураджай 1852 года быў нядрэнным ва ўсіх беларускіх губернях, што давала надзею на выхад са шматгадовага крызісу. Але ў наступным 1853 годзе, як вышэй адзначалася, здарылася сапраўдная катастрофа. На пасяджэннях камісій народнага харчавання беларускіх губерняў гаварылася пра крайне неспрыяльныя ўмовы надвор’я. На пасяджэнні мінскай камісіі народнага харчавання ад 8 ліпеня 1853 года было занатавана: „Продолжительная в прошедшем 1852 г. сырая осень и непостоянство зимы, в течение коей несколько раз была большая оттепель, превращающаяся в совершенное бесснежье и сильные морозы, тоже поздние весенние холода и сырая погода, имели гибельное влияние на произрастание озимого хлеба и на посевы и всходы ярового, но с наступлением в мае теплой погоды с благотворными дождями, произрастание ярового хлеба, огородных овощей и трав несколько исправилось”[37].

На пасяджэнні віленскай камісіі ад 10 жніўня 1853 года таксама гаварылася пра маласнежную пераменлівую зіму і халодную вясну: „[...] после непродолжительной осени зима [была] не постоянная, с редкими снегами, которые скоро исчезали от бывших оттепелей, в конце же зимы морозы были сильны, до половины апреля месяца снег находился в довольно значительном количестве с частыми и почти постоянными приморозками, с того же времени хотя поля очистились от снегов, но существовавший зимний ветер с холодными сперва дождями и градом,

32 Тамсама, арк. 150.
33 Тамсама, арк. 252.
34 Тамсама, арк. 138.
35 Тамсама, арк. 270.
36 Тамсама, арк. 267.
37 НГАБ у Гродне, ф. 12, воп. 1, спр. 1032, арк. 12.

продолжавшимися до первых чисел мая, приостановили рост озимого хлеба [...] яровые же посевы совершены были поздно, по случаю дождей, всходы которых сперва были изрядны, но по причине последовавшей засухи продолжавшейся в мае и в начале июня месяца стали желтеть и рост был приостановлен"[38]. Але потым надвор'е на Віленшчыне палепшылася, і ў выніку камісія прадбачыла пасрэдны ўраджай азімага ў панскіх фальварках, „улучшенных хозяйством", але на ўласна сялянскіх палетках прагназаваны ураджай быў „так скуден, что можно считать в трех частях пропавшим, а потому нет надежды, чтобы собранным зерном можно было обеспечить продовольствие и обсеменить осенью поля"[39].

Найгоршай выглядала сітуацыя ў 1853 годзе ў Гродзенскай губерні. На пасяджэнні камісіі народнага харчавання 14 верасня сельскагаспадарчы год быў апісаны так:

> [...] по случаю непостоянной прошедшей зимы и частых в течение оных оттепелей, за тем с начала весны сильных холодов и залития водою низменных мест, а в последствии с половины мая месяца да первых чисел июня засухи, озимые и яровые хлеба, равно как и травы, приостановлены были в росте, а по низменным местам от наводнения совершенно пропали. Однако ж с наступлением в последствии более благоприятствующей произрастанию погоды на возвышенных местах хлеба и травы значительно исправились, и ожидалось посредственного оных урожая, ежели бы погода благоприятствовала уборке. Но с первой половины июня почти постоянно существовала ненастная погода с сильными ветрами, не благоприятствующими цвету ржи, а в многих местах с сильными бурями и градом [...] ненастная погода постоянно не благоприятствовала уборке хлебов и сена[40].

Пра сілу прыродных катаклізмаў сведчыць той факт, што ў маёнтку Рось Ваўкавыскага павета ўладальніка Несялоўскага градам было забіта 15 авечак. Найбольш трагічная сітуацыя складвалася ў Кобрынскім павеце. Тамтэйшы маршалак шляхты паведаміў, што „от проходящих почти ежедневно проливных дождей уборка хлебов и сена приостановилась, а собранный озимый хлеб мокры в соломе, подвергается гнилости, зерно онаго черное, малое и неспособное к обсеменению

38 Тамсама, арк. 124.
39 Тамсама.
40 Тамсама, арк. 145.

полей, которых по причине залития водой не только нельзя засевать, но даже пахать под озимый посев”[41].

Вельмі драматычная карціна земляробчага года паўстае ў справаздачы гродзенскай палаты дзяржаўных маёмасцей ад 15 кастрычніка 1853 г.:

> Настоящий год в отношении народного продовольствия должно отнести к одному из самых гибельных неурожайных лет сряду продолжавшихся с 1844 г., особенно приняв во внимание то, что с того времени хозяева все свои запасы истощили до последняго, между тем нынешняя жатва по случаю постигшаго с половины лета беспрерывнаго ненастья далека не оправдала надежд земледельца: озимый хлеб оказался скудным и маловесным, яровой во множестве погиб на корню, картофель поражен болезнью и весь портится, травы от залития водою так же большей частью остались нескошенными, самыя огородные овощи представляют недостаток; одним словом во всех частях земледельческое хозяйство пришло до крайности[42].

Мінская камісія народнага харчавання на пасяджэнні 31 кастрычніка 1853 года прызнала ўраджай зерневых, бульбы і гародніны ў губерні „скудным”[43]. Камісія адзначыла, што лугі былі залітыя вадой, а „картофель, важное подспорье в продовольствии, тоже от неблагоприятной погоды родился весьма плохо и злокачественный, так что большей частью подвергся уже гнилости”[44]. Члены камісіі палічылі, што сабраныя плёны „не вполне достаточны для обеспечения в продовольствии жителей до новой жатвы”[45]. Пра дрэнны ўраджай азімага гаварылася ў справаздачы віцебскай камісіі народнага харачавання, затое там „огородные овощи родились хорошо”. З улікам запасаў у хлебных магазінах камісія палічыла, што „недостатка в продовольствии не имеется”[46].

У наступным 1854 годзе сітуацыя з надвор’ем у Гродзенскай губерні амаль паўтарылася і, у дадатак, была абцяжарана наступствамі папярэдняга года. Маршалак шляхты Пружанскага павета Швыкоўскі пісаў: „По причине бывшаго от проливных дождей прошлого 1853 года наводнения все болотные и грунтовые луга, быв залиты водою,

41 Тамсама.
42 НГАБ у Гродне, ф. 12, воп. 1, спр. 1059, арк. 170 адв.
43 Тамсама, арк. 187.
44 Тамсама, арк. 187 адв.
45 Тамсама, арк. 189.
46 Тамсама, акр. 183-арк 184 адв.

остались нескошенными, посевы же хлебов произведены были едва в половине, и по большей части хозяева обсеменяли пашни, пресыщенные водою, при чем употреблены были семена с прошлогодняго, совершенного скуднаго урожая худого качества”[47]. Летам 1854 года ізноў пачаліся бясконцыя халодныя дажджы. Ураджай аказаўся трохі лепшым, чым мінулагодні, але сяляне не мелі ўжо сіл, каб належным чынам яго сабраць, паколькі, паводле звестак павятовых маршалкаў, пакутавалі ад недаядання і эпідэмічных захворванняў — халеры, тыфу, ліхаманкі і інш.

Той жа маршалак Швыкоўскі пісаў у палове жніўня: „По деревням между крестьянами существуют разные болезни, как то: горячки, лихорадки, понос и тому подобные при всех со стороны владельцев стараниях и издержках лечение не приносит вожделенных результатов, ибо болезни очень продолжительны, и смертность от оных изнурительная и необыкновенна — обстоятельства эти весьма замедляют уборку хлебов и сена”[48].

Іншыя павятовыя маршалкі таксама заявілі пра дрэнныя ўраджаі ў сваіх паветах, прычынай чаму ў першую чаргу называлі халодныя дажджы. Беластоцкі маршалак, напрыклад, так апісаў прычыны неўраджаю: «По причине бывшей мокроты в течение прошлого 1853 г. невозможно было хорошо приготовить земли к посеву, отчего озимый хлеб поздно засеян, а во многих низменных местах решительно не сеян; на весну сего года продолжительные холода по вскрытию льдов не дозволили успешному произрастанию [...]. От сильных дождей случившихся в исходе июня и в начале июля месяца все болотные луга были залиты водою [...] и потому болотное сено совершенно пропало”[49]. З паведамленняў павятовых маршалкаў вынікала, што насельніцтву губерні ізноў пагражае вострый недахоп харчавання, а ў выніку — голад.

Лепш сітуацыя з надвор’ем і ўраджаем выглядала ў 1854 годзе ў Мінскай губерні. У заключнай за 1854 год пастанове камісіі народнага харчавання адзначалася, што ў цэлым ураджай у гэтым годзе лепшы, чым у мінулым[50]. Гэта, „хотя и не вполне обеспечивает продовольствие жителей губернии до нового урожая”, але, як палічылі члены камісіі, дзякуючы скарачэнню прадукцыі гарэлкі, агародніне, рыбным ловам, лясным заробкам, сплавам па рэках і г.д., жыхары Міншчыны змогуць пратрымацца „без особых пособий Правительства”[51]. Такім чынам,

[47] НГАБ у Гродне, ф. 12, воп. 1, спр. 1097, арк. 269.
[48] Тамсама, арк. 269 адв.
[49] Тамсама, арк. 272 адв.
[50] Тамсама, арк. 268.

у цэлым сітуацыя ў Мінскай губерні не выглядала так драматычна, як у Гродзенскай, і тамтэйшая камісія народнага харчавання не бачыла прычын для ўзнікнення голаду. Праблемы з надвор'ем у Мінскай губерні распачаліся ў канцы вясны: „[...] первых чисел мая проливные дожди с тучами и нередко градом, а более всего холод, продолжавшийся немалое время, сделали весьма вредное влияние на произростание хлебов и трав, сверх того сырость земли препятствовала засеву в полном количестве яровых посевов и огородов, наконец за сим последовали постоянные жары, и в самом отцвете озимого хлеба сильные ветры и парные ночи до того его испортили, что оный был стеблем весьма благовидный, зерном сделался мелкий легковесный, и даже во многих местах оказалась одна солома без зерна. Яровой же хлеб, поздно отсеянный почти пропал, картофель мало родился и [...] начал подвергаться гнилости — только огородные произрастения и травы родили довольно изобильно”[52]. Такім чынам, можна заключыць, што ўмовы надвор'я за 1854 год у Мінскай губерні былі больш лагодныя, чым у Гродзенскай, і не нанеслі так вялікіх страт сельскай гаспадарцы.

У заключэнні камісіі народнага харчавання Віцебскай губерні за 1854 год таксама гаварылася пра недастатковы ўраджай з прычыны празмерных дажджоў і засухі: „Начавшиеся с начала весны умеренные и теплые дожди столь благоприятствующие вообще всему произрастанию и подававшие большую надежду на хороший урожай, впоследствии излишеством и продолжительностью своею много повредили благополучному отцветанию озимого и посевам ярового хлеба, наступившие затем внезапные жары постоянною и продолжительною засухою воспрепятствовали постоянному и полному развитию зерен, преждевременно привели оные к созрению, отчего урожай и умолот вообще оказались неудовлетворительными и не соответствующими тем надеждам, какие подавала весна”[53]. Такім чынам, на Віцебшчыне да працяглых веснавых дажджоў дадалася яшчэ працяглая летняя засуха.

У заключэнні віленскай камісіі ад 30 кастрычніка 1854 года гаварылася: „С начала весны всходы подавали надежду на изобильный урожай, но впоследствии наступили холода и проходили с градом и бурями проливные дожди, а после при самом расцвете хлеба начались сильные жары, воспрепятствовавшие развитию зерна, и потому озимые посевы оказались неудовлетворительными от жары, яровые

[51] Тамсама, арк. 268 адв.
[52] Тамсама, арк. 263.
[53] Тамсама, арк. 257.

созрели преждевременно”[54]. Тым не менш камісія прызнала ўраджай 1854 года „посредственным”. Хаця недахоп зерня складаў 570 228 чвэрцяў, паводле меркавання камісіі, „губерния в текущем году может быть обеспечена продовольствием собственными средствами”[55].

Такім чынам, на ўсёй тэрыторыі Беларусі ў 1854 годзе адзначаліся неспрыяльныя прыродныя ўмовы, найперш холодная вясна і дажджы, якія прывялі да неўраджаю. Але найгоршай выглядала сітуацыя ў Гродзенскай губерні. А наступны 1855 год выдаўся для земляробаў Гродзеншчыны яшчэ горшым. У даследаванні Паўла Баброўскага было змешчана даволі падрабязнае апісанне кліматычных варункаў у Гродзенскай губерні за той год:

> Зима продолжительная, сильные морозы; выпало непомерное количество снега; снег, выпавший еще в начале ноября 1854 г. на замерзшую землю, оставался до апреля. От этого озимые хлеба выпрели.
>
> Весна. Холодная, пасмурная, сырая и действовала поэтому во вред озимого хлеба. Ясные теплые дни со второй половины мая помогли развитию яровых растений; но многие низменные поля были до того напитаны водою, что остались незасеянными.
>
> Лето. Первая половина теплая с частыми проливным дождем и градом. Хотя лето благоприятствовало развитию яровых хлебов и огородных овощей, но черви, появившиеся во множестве, истребили особенно горох, лен, капусту и фрукты. Вторая половина прохладная, пасмурная и сырая. Плохие урожаи: ярового получено едва 1/3 часть обыкновенных сборов. Картофель получен гнилой и испорченный. Огородные овощи, испорченные червями, оказались в малом количестве. Чувствовался большой недостаток хлеба, ибо запасы прежних годов, тоже неурожайных, повывелись. Неслыханная дороговизна.
>
> Осень сначала теплая, умеренно влажная, ясная. Озимые всходы благоприятные. В конце ноября легкие изморози, а в начале ноября установилась зима, так что во второй половине ноября реки замерзли и установился санный путь”[56].

Такім чынам — ізноў працяглыя дажды і холад вясной і летам. Апісанне Баброўскага адпавядае звесткам камісіі народнага харчавання, якімі ён, безумоўна, карыстаўся. У пастанове гэтай камісіі ад 15

[54] Тамсама, арк. 241.
[55] Тамсама, арк. 241 адв.
[56] П. Бобровский, *Материалы для географии и статистики России*, ч. 1, Приложения, с. 65.

лістапада 1855 года сельскагаспадарчы год быў ахарактарызаваны такім чынам: „[...] по всем уездам Гродненской губернии хотя осенью 1854 г. озимые посевы подавали некоторую надежду, если не на хороший, то по крайней мере посредственный урожай, но после продолжительной зимы, при чрезвычайно глубоких снегах, покрывавших немерзлую и влажную землю, слишком мокрой с продолжительными холодами весны и неблагоприятствующей погоды летом, при существовании, кроме того, в Гродненской губернии эпидемической болезни холеры, лишившей многие места рабочих сил, посевы озимого и ярового хлебов, а также картофеля [...] принесли самый незначительный урожай”[57]. Пружанскі маршалак Швыкоўскі пісаў у камісію народнага харчавання 13 лістапада, што, хаця восень 1854 года была цёплай і яснай, і азімае жыта ўзышло даволі добра, але „зима была слишком холодная, продолжительная и снежная, отчего за открытием весны всходы озимого хлеба в некоторых местах исчезли, в прочих же под влиянием благоприятствующего воздуха озимые посевы и луга начали произрастать благополучно, но за сим настали то дожди, то холодный и сильный, наиболее северный ветер, то опять знойный жар, и подобная температура попеременно продолжалась всю весну и лето, по случаю чего от наводнений ранние весенние посевы вымокли, прочие же произведены в пашне худо и слишком поздно обработанной и пресыщенной водою”[58]. І ўсё ж, як сцвярджаў Швыкоўскі, жыта па большай частцы ўзышло і была надзея на ўраджай, „но когда пришло время выполнения самих зерен настала жаркая погода, при коей колосья с зернами начали преждевременно посыхать, лишаясь питательных качеств и как среди того не переставали проходить проливные дожди, по этому [...] солома у ржи протухла и на корма, ниже для крыши сделалась негодною [...] яровые хлеба поросли низко, редко, неколосисто и совершенно ничтожно”. У дадатак да ўсяго ў павеце з’явілася саранча. Маршалак Швыкоўскі пісаў 2 чэрвеня ў Гродна пра яе з’яўленне на азімым жыце ў маёнтках Хойнікі і Паўлавічы. Тэрмінова былі сабраны каля 2 тысяч сялян з суседніх маёнткаў, якія здолелі хутка сабраць і знішчыць небяспечных насякомых[59].

Беластоцкі маршалак Саковіч таксама падаў сумны вобраз вынікаў працы ратаяў у сваім павеце:

57 НГАБ у Гродне, ф. 12, воп. 1, спр. 1131, арк. 7.
58 Тамсама, арк. 1.
59 Тамсама, арк. 33 адв.

В первых числах ноября [1854 г. — С. Т.] упал на землю незамерзшую большой снег, который, постоянно падая целую зиму, пролежал до весны, от чего три части посевов озимаго хлеба пропало посредством испарения под снегом. С наступлением весны первоначально холод, а в последствии проливные дожди, продолжавшиеся до самой жатвы, имели пагубное влияние на произрастание всех плодов. Следствием сего озимый и яровой хлеб, равно картофель и огородные овощи по низменным местам совершенно не родились, а на более возвышенных местах уборка всех произрастений показалась весьма скудною от сильных дождей, проходивших в течение целой весны и части лета, все болотные луга были залиты водою[60].

Саковіч таксама адзначыў, што „с наступлением жатвы уборка озимаго и ярового хлеба и сена весьма была затруднительна и несвоевременна по причине свирепствовавшей холеры и тифозной горячки почти по всем деревням уезда"[61]. Усе маршалкі шляхты Гродзенскай губерні цвердзілі, што сабранага ўраджаю не хопіць на харчаванне і прадракалі вялікі голад, калі не прыняць надзвычайных дзеянняў.

Для сялян суседніх беларускіх губерняў 1855 год выдаўся таксама крайне няўдалым. На пасяджэнні мінскай камісіі народнага харчавання 6 кастрычніка 1855 года была дадзена такая ацэнка: „[...] всходы озимаго хлеба были почти вообще изрядны от благоприятствующей тому погоды, продолжавшейся до ноября месяца. За сим снег покрыл землю немерзлую и влажную от проливных чрез некоторое время дождей. Это и продолжительная до шести месяцев зима при глубоких снегах были причиною, что озимые посевы подверглись разным чувствительным повреждениям, как то: во многих местах, особенно на удобренной и хорошей почве, озимый хлеб испарился, а по низменным местностям, около рек и болот, особенно по Пинскому, Мозырскому и Речицкому уездам вымок от весенних разливов и застоев воды, так что с наступлением весны сего 1855 года немалая часть полей озимаго хлеба обсемена была яровым посевами [...] с мая месяца во время отцвета хлебов наступившие сильные ветры, потом жары и парные ночи повредили хлеб до того, что оный преждевременно созрел, зерно сделалось тощим, неполновесным и многие колосья остались без зерна [...]. Наконец от существующей с июня месяца по настоящее время в Минской губернии эпидемической на людей болезни холеры и свирепствующей во многих

60 Тамсама, арк. 2.
61 Тамсама.

местах с особым ожесточением, также от кровавого поноса и других разного рода болезней, жители, лишась рабочих сил, не могли своевременно собрать с полей созрелого хлеба, высыпавшегося от простоя"[62].

На пасяджэнні віленскай камісіі народнага харчавання ад 16 кастрычніка 1855 года таксама адзначалася, што палеткі вельмі позна „вскрылись от снегов", і да пачатку мая панавала надзвычай халоднае надвор'е, а ўжо пад час красавання жыта распачаліся „частые проливные дожди"[63]. У выніку гэтага азімыя пасевы „удовлетворительные в осень 1854 г., были повреждены от выпавших в ноябре в большом количестве снегов на незамерзлую землю, а после вскрытия полей от снегов едва в половине марта сего года и продолжавшихся холодов до первых чисел мая — оказались почти совершенно пропавшими"[64].

У заключэнні віцебскай камісіі ад 21 кастрычніка 1855 года таксама чытаем пра надзвычай глыбокія снягі мінулай зімой, а потым „проливные весенние дожди с холодами до последних чисел мая [...] впоследствии сухая с сильными жарами погода до половины августа"[65]. Ад гэтага зерневыя выспелі на Віцебшчыне заўчасна, а „картофель по примеру прежних лет подвергся болезни"[66].

У выніку ўраджай 1855 года на беларускіх землях выдаўся вельмі кепскім і амаль паўтарыў антырэкорд 1853 года. Ізноў прычынай былі кліматычныя ўмовы — надзвычай працяглая і снежная зіма, халодная сырая вясна, летнія дажджы, якія чаргаваліся з засухай. На дрэннае надвор'е накладалася знясіленне людзей і працоўнай жывёлы, а таксама дрэнная якасць пасяўнога зерня з папярэдніх неўраджаяў. У гадавой справаздачы гродзенскай губернскай камісіі народнага харчавання чытаем: „[...] хотя осенью 1854 г. озимые посевы подавали некоторую надежду, если не на хороший, то по крайней мере посредственный урожай, но после продолжительной зимы, при чрезвычайно глубоких снегах, покрывавших немерзлую и влажную землю, слишком мокрой с продолжительными холодами весны и неблагоприятствующей погоды летом, при существовании, кроме того, в Гродненской губернии эпидемической болезни холеры, лишившей многие места рабочих сил, посевы озимого и ярового хлебов, а также картофеля [...] принесли самый незначительный урожай"[67].

62 НГАБ у Гродне, ф. 12, воп. 1, спр. 1125, арк. 250.
63 Тамсама, арк. 238-238 адв.
64 Тамсама, арк. 239.
65 Тамсама, арк. 276.
66 Тамсама.
67 НГАБ у Гродне, ф. 12, воп. 1, спр. 1131, арк. 7.

На шчасце ў 1856 годзе надвор'е аказалася лепшым, чым у папярэднія гады. Пружанскі маршалак у Гродзенскай губерні Швыкоўскі падаў найбольш дэталёвае апісанне кліматычных умоў за гэты год: „Осень 1855 года была теплая и ясная, и потому в течение ея озимый хлеб был посеян благополучно и взошел довольно хорошо, зима же была слишком холодная, продолжительная и снежная, отчего за открытием весны всходы озимаго хлеба в некоторых местах исчезли [...] потом улучшилось [...] за сим настали то дожди, то колючий северный ветер, а иногда знойная жара, и подобная температура попеременно продолжалась всю весну и в начале лета. Впоследствии погода более благоприятствовала и хлеб произрастал более надежно"[68]. Палата ж дзяржаўных маёмасцей Гродзенскай губерні ў гадавой справаздачы ад 27 кастрычніка 1856 года так ахарактарызавала сітуацыю дзяржаўных сялян: „Ранние оттепели еще в феврале месяце согнали снег и обнажили землю, обещая близкое наступление весны, но в марте месяце продолжавшиеся сильные морозы нанесли большой вред прозябению, так что множество фруктовых деревьев померзло, а при вскрытии весны засеянные поля далеко не представляли собой тех надежд, какие подавали осенью, к тому же дождливая и холодная весна была причиною, что и яровые посевы были неудачны, особенно произведенные на низменных полях. Урожай картофеля один обеспечил несколько поселянина"[69].

Мінская камісія народнага харчавання на пасяджэнні 24 кастрычніка 1856 года адзначыла, што азімыя пасевы былі вельмі добрымі „от благоприятствующей погоды", але моцныя ветры на пачатку вясны і „чувствительный холод до мая месяца, потом в мае месяце засуха много сделали вредного влияния". Пазней грэчка і агуркі былі знішчаны ў жніўні „сильными морозами", а бульба сапсавалася[70]. Але ў цэлым сітуацыя з'яўлялася нашмат лепшай, чым годам раней, і пагроза голаду адступіла.

У заключэнні віленскай камісіі ад 27 кастрычніка 1856 года сцвярджалася, што азімыя пасевы, якія ўвосень 1855 года выглядалі задавальняюча, „от сильных морозов, особенно на возвышенных местах, были повреждены". Потым пасевы значна пацярпелі ў другой палове красавіка і ў маі „от непостоянной температуры, частых дождей и холода", але „впоследствии вновь исправились". Хаця ўборка зерневых з прычыны частых дажджоў праходзіла складана, але ўраджай атрымаўся

[68] НГАБ у Гродне, ф. 12, воп. 1, спр. 1152, арк. 177.
[69] Тамсама, арк. 145 адв.
[70] Тамсама, арк. 170.

задавальняючым. Ураджай бульбы мог быць значна лепшым, „если бы не подвергался гниению”. У выніку камісія прызнала ўраджай „настоящего, как озимого, так и ярового хлеба [...] удовлетворительным местным потребностям”[71].

Такім чынам, надвор’е ў 1856 годзе шмат у чым нагадвала папярэдні год. Але лета было больш спрыяльным для земляробаў, не такім дажджлівым, як папярэднія, што і выратавала ўраджай. Наступны 1857 год таксама не быў ідэальны для сельскай гаспадаркі, але ўсё ж больш спрыяльны, чым папярэднія. І ў канцы 1850-ых сітуацыя паступова працягвала выпраўляцца.

Такім чынам, можна зрабіць выснову, што галоўнай прычынай бед беларускіх земляробаў у тыя гады былі празмерныя ападкі, якім часта таварышаваў незвычайны холад. Таму сяляне празвалі гэтыя неўраджайныя гады „мокрымі”. Такое надвор’е станавілася прычынай неўраджаяў і голаду, і ў дадатак яшчэ было вельмі неспрыяльным для здароўя аслабленых хранічным недаяданнем людзей.

### Голад і хваробы

Дрэннае дажджлівае надвор’е і неўраджай у 1844-1845 гадах хутка аказвалі адмоўны ўплыў на стан здароўя насельніцтва. Найбольш поўныя звесткі на гэтую тэму прыводзіць у сваім даследаванні Гродзенскай губерні Павел Баброўскі. Паводле даных гродзенскай урачэбнай управы, летам 1845 года сярод сялянскіх дзяцей губерні лютавала дызентэрыя, прычынай якой сталі, як сцвярджалі медыкі, „скудная пища, хлеб из недозрелой ржи, незрелые ягоды и особенно грибы”[72]. Да ўрачоў з дызентэрыяй афіцыйна звярнуліся 5922 асобы. Натуральна, што гэта была толькі вяршыня айсберга.

У 1846 годзе зноў выдалася надзвычай сырое надворье. Як гаварылася ў справаздачы той жа гродзенскай урачэбнай управы, „особенное расположение атмосферы весною” садзейнічала пашырэнню тыфу, адзёру і дызентэрыі сярод насельніцтва. Тыф лютаваў са студзеня па красавік, а летам распаўсюдзілася дызентэрыя, „унесшая в могилу множество жертв”[73].

У 1846 годзе ў Гродзенскай губерні дрэнна ўрадзілі як збожжавыя, так і бульба. Голад і хваробы, як звычайна ў такім выпадку, пашырыліся

71 Тамсама, арк. 167-167 адв.
72 П. Бобровский, *Материалы для географии и статистики России*, ч. 1, Приложения, с. 79.
73 Тамсама.

вясной наступнага 1847 года. Вясной і ўвосень распаўсюдзілася ліхаманка, ад якой у губерні памерлі 147, а захварэлі 14 893 чалавек. Забіралі жыцці людзей таксама тыф, адзёр і дызентэрыя[74].

На шчасце, у 1847 годзе ўраджай зерневых, асабліва жыта, атрымаўся добры, хаця бульба зноў неўрадзіла. Але аб'явілася новая бяда. Летам 1848 года з поўдня Расійскай імперыі прыйшла халера. Аслабленае голадам насельніцтва ўяўляла сабой лёгкую ахвяру для гэтай страшнай хваробы. 17 ліпеня халера была зафіксавана ў мястэчку Моталь Кобрынскага павета, а 17 жніўня яна ўжо аб'явілася ў мястэчку Азёры пад Гроднам. Халера лютавала спачатку ў гарадах і мястэчках, і ў меншай ступені ў вёсках. Яе ахвярамі ставала пераважна яўрэйская бедната. Для барацьбы з халерай ва ўсіх гарадах і многіх мястэчках былі створаны часовыя лазарэты, прычым асобныя для хрысціян і іудзеяў. Зрэшты, гэтыя лазарэты прызначаліся для тых, хто не меў адпаведных умоў для лячэння дома — гэта значыцца для бяднейшага насельніцтва. У некаторых гарадах утвараліся часовыя камітэты, якія складаліся з мясцовых лекараў, фельчараў і цырульнікаў. З ліку самых паважаных мяшчан выбіраліся дэпутаты, абавязкам якіх было сачыць за чысцінёй і гігіенай у хатах. Галоўным сродкам прафілактыкі прызнавалася адмова ад нястраўнай і сырой ежы, а таксама „содержание желудка в тепле и устранение простуды".

Увогуле лекары актыўна эксперыментавалі з метадамі лячэння. Праславіўся нейкі лекар з вёскі Дубна Гродзенскага павета, які націраў хворых сумессю з воцату, піва і гарэлкі. Паводле звестак урачэбнай управы, да лекараў звярнуліся ў 1848 годзе 15 737 хворых на халеру, з ліку якіх памерлі 3037, ці 23%. У справаздачы пра барацьбу з халерай гаварылася, што халера „по большей части скорее развивалась и преимущественно была жестока там, где города и деревни лежали в местах низких и топких, при болотах и нечистых прудах, тем более, если поселяне жили тесно и неопрятно"[75]. Прычым са з'яўленнем халеры „все прочие болезни утихли". Першыя хворыя на халеру паміралі на працягу некалькіх гадзін, але з часам хвароба набывала больш працяглы характар працякання. Лекары заўважылі, што ахвярамі эпідэміі ставалі пераважна асобы сярэдняга ўзросту, і ў многіх выпадках яна развівалася „просто от продолжительного влияния холодного и сырого воздуха"[76]. Але галоўным хваробатворчым чыннікам былі прызнаны

[74] Тамсама.
[75] НГАБ у Гродне, ф. 9, воп. 1, спр. 6, арк. 218.
[76] Тамсама.

растройствы сістэмы стрававання. Акрамя халеры ў 1848 годзе ў Гродзенскай губерні яшчэ лютаваў тыф, які „особенно поражал людей нежного телосложения”, а таксама ліхаманка і дызентэрыя.

Ураджай 1848 года аказаўся ў Гродзенскай губерні надзвычай удалым. Але ліхаманка, дызентэрыя і тыф працягваліся ў тым годзе і на працягу ўсяго наступнага 1849 г., хаця і не прынеслі „значительной смертности”. Халера зноў выявілася ў студзені 1849 года, а потым яшчэ ў кастрычніку, але цяпер ахвяр было значна менш, чым годам раней. Усяго за 1849 год захварэлі на халеру ў Гродзенскай губерні 688 чалавек, а з іх ліку памерлі 209[77]. У 1850 годзе сітуацыя з хваробамі і смяротнасцю фактычна вярнулася да нормы. У выніку неўраджаяў і голаду, выкліканых надзвычай вільготным і халодным надвор’ем, на працягу 1846-1848 гадоў колькасць памерлых на Гродзеншчыне перавышала колькасць народжаных. У 1848 г. у губерні памерлі 38 255 чалавек (4,2% ад усяго насельніцтва), што амаль удвая перавышала звычайныя лічбы. Але ўжо ў 1849 годзе смяротнасць рэзка знізілася. Халера з’явілася таксама і ў Віленскай губерні. У 1849 годзе тут, паводле афіцыйных даных, захварэлі 211 чалавек, з іх ліку памерлі 74[78].

Неспрыяльнае надвор’е і голад, як можна меркаваць паводле статыстычных даных, выклікалі дэмаграфічны спад у Віленскай і Гродзенскай губернях (па Мінскай не маем даных). Але ўсё ж другая палова 1840-х гадоў не стала такой трагічнай для мясцовага насельніцтва, як у Ірландыі, ці ў адносна блізкай Галіцыі? Хвароба бульбы, якая знішчыла плёны ў тых краінах, да Беларусі напэўна дайшла трохі пазней. А галоўнае, што сама бульба яшчэ не стала асноўным прадуктам харчавання насельніцтва. У значнай частцы яе пераганялі на панскіх броварах у гарэлку. Спрацавала і сістэма абароны ад голаду, якая функцыянавала ў Расійскай імперыі. Першай лініяй гэтай абароны былі запасныя хлебныя магазіны, якія звычайна ўтвараліся ў маёнтках памешчыкаў, і куды сяляне кожны год „ссыпалі” пэўныя аб’ёмы збожжа. Скарыстаць з гэтых магазінаў можна было толькі ў выніку моцнага неўраджаю і толькі з дазволу міністэрства ўнутраных спраў. За гэтым павінны былі сачыць маршалкі шляхты і абраныя памешчыкамі адмысловыя дэпутаты.

Другой лініяй абароны былі запасныя грашовыя капіталы. Жыхары губерні плацілі асобны грашовы збор на выпадак голаду. Гэтыя грошы

[77] П. Бобровский, *Материалы для географии и статистики России*, ч. 1, Приложения, с. 81.

[78] А. Корева, *Материалы для географии и статистики*, с. 694.

часткай захоўваліся ў мясцовых казначэйствах, а часткай — у Пецярбургу ў Ахоўнай (*Сохранной*) казне. На гэтыя грошы ў крайнім выпадку і зноў жа толькі з дазволу міністра ўнутраных спраў прадугледжвалася закупка збожжа для галадаючых сялян. У цяжкія 1845-1848 гады ў цэлым хапіла збожжа з запасных магазінаў, хаця грашовая дапамога таксама аказвалася. Але мясцовыя памешчыкі панеслі вялізныя фінансавыя страты і пагразлі ў пазыках. Усе спадзяваліся на ўраджайныя гады і прагнулі хутчэй вярнуць страчанае. Хутка раслі аб'ёмы продажу збожжа за мяжу, а таксама прадукцыя гарэлкі. Але аказалася, што неўраджай і голад 1845-1847 гадоў быў на Гродзеншчыне толькі ўступам для куды больш цяжкіх выпрабаванняў, якія чакалі яе жыхароў у 1850-ыя гады.

Пачатак 1850-х гадоў выглядаў на Беларусі ў эпідэміялагічных адносінах даволі спакойным. У 1851 годзе ў Гродзенскай губерні перыядычна з'яўляліся тыф, адзёр і дызентэрыя, але ў цэлым „болезней было меньше, и смертность была незначительная"[79]. У выніку неўраджаю 1851 года і сырога надвор'я ў 1852 годзе з'явіліся „многие болезни, зависящие от состояния атмосферы, в особенности сильно действовали эпидемии: грипп, тиф, лихорадка, понос, корь, вариолонд[80] и холера"[81]. У Гродзенскім павеце вясной 1852 года распачалася эпідэмія адзёру. Халера з'явілася ў канцы ліпеня ў Берасцейскім і Бельскім паветах, адкуль пачала пашырацца па ўсёй губерні. 1 лістапада яна аб'явілася ў губернскім Гродне. Усяго за год у губерні захварэлі 3821 чалавек, з іх памерлі 1332 (35%)[82]. Як адзначыў Павел Баброўскі, „холера поражала преимущественно низший класс"[83]. У Гродзенскім і Пружанскім паветах увесь 1852 год лютаваў тыф.

Ва ўмовах незвычайна сырога надвор'я ў 1853 годзе эпідэмія халеры ўзмацнілася. За год да лекараў з гэтай хваробай у Гродзенскай губерні звярнуліся 7256 чалавек, з ліку якіх памерлі 2608 (36%)[84]. Паводле даных мінскага губернатара ад 31 снежня 1853 года ў Мінскай губерні за 1853 год на халеру захварэлі 5881 чалавек, з ліку якіх памерлі 2044

79 П. Бобровский, *Материалы для географии и статистики России*, ч. 1, Приложения, с. 81.

80 Падманная воспа.

81 П. Бобровский, *Материалы для географии и статистики России*, ч. 1, Приложения, с. 81.

82 Тамсама.

83 Тамсама.

84 Тамсама.

(34,8%)[85]. У Віленскай губерні ў 1853 годзе пашырыліся халера і тыф. На гэтыя хваробы захварэлі 3353 чалавек, з якіх 897 (27,3%) памерлі[86].

У 1854 годзе на тэрыторыі Беларусі і Літвы надвор’е заставалася вельмі неспрыяльныям. Асабліва зашкодзіла землябробам халодная вясна. Найгоршай выглядала сітуацыя ў Гродзенскай губерні. У выніку ў 1854 годзе маштабы эпідэмій і смяротнасць дасягнулі ў гэтай губерні сапраўды катастрафічных памераў. Статыстычныя даныя ўрачэбнай управы за гэты год, на жаль, не захаваліся, таму дэталі нам невядомыя. Але колькасць памерлых дасягнула амаль 50 тысяч чалавек. Можна меркаваць, што ахвярамі эпідэмій стала больш за 20 тысяч чалавек. Несумненна, што былі шматлікія выпадкі і непасрэднай смерці ад голаду, але такія выпадкі хаваліся ўладамі і памешчыкамі.

У наступным 1855 годзе на халеру ў Гродзенскай губерні захварэлі, паводле афіцыйных звестак, 14 857 чалавек, з іх памерлі 5357, ці 11% ад усіх памерлых за гэты год у губерні. Усяго ж за 1848-1857 гады ў гэтай губерні памерлі ад халеры 12 031 чалавек, ці 3,6% ад усіх памерлых. Але гэта была толькі вяршыня айсберга, паколькі да лекараў звярталіся практычна толькі шляхта і гараджане, а колькасці хворых сярод сялян фактычна ніхто не лічыў. Павел Баброўскі так апісвае працэс пашырэння халеры і іншых заразных захворванняў сярод насельніцтва Гродзеншчыны ў тыя галодныя гады: „[...] у народа вышли все запасы, он употребляет несозревшие плоды, ест зелень без соли и круп; по недостатку хлеба является водянка, народ становится слабым и истощенным [...]. Холера 1848, 1852-1855 гг. не обращала внимания ни на возраст, ни на пол и положение в свете. Лихорадки заменяются горячками, развивается тиф со своими синими пятнами, предвестниками смерти [...]. Засуха сушит хлеб и кормовые травы; дожди препятствуют сбору хлеба; обнаруживается неурожай — предвестник (1845 и 1855 гг.) дороговизны, лишений, разных болезней и страданий и новых могил [...]”[87].

Ад пачатку 1855 года халера пачала спарадычна аб’яўляцца ў розных месцах губерні, а ў чэрвені набыла характар эпідэміі ў Гродзенскім, Бельскім і Ваўкавыскім паветах. З другой паловы ліпеня халера разышлася па ўсёй губерні, „наиболее поражая людей низшаго класса и евреев”[88]. Свайго піку эпідэмія дасягнула ў жніўні, калі сяляне павінны былі цяжка працаваць на жніве. Маршалак Слонімскага павета

[85] НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 28, спр. 423, арк. 456.

[86] А. Корева, *Материалы для географии и статистики*, с. 695.

[87] П. Бобровский, *Материалы для географии и статистики России*, ч. 1, с. 364.

[88] Тамсама, ч. 1, Приложения, с. 82.

пісаў, што „при свирепствовании еще в сем году во время самой уборки хлебов весьма сильной холеры, следствием которой из некоторых деревень, в особенности расположенных по низменным местам при берегах реки Щары, крестьяне, бросив хозяйства, разбежались и, кроме того, падеж рогатого скота много воспрепятствовал своевременному сбору с полей, помещичьи крестьяне решительно не будут не токмо в состоянии уплатить подлежащие с них подати, но даже прокормить себя в течение двух первых месяцев осени”[89]. У верасні хвароба аслабіла сваю смяротную хватку ў Гродне і іншых гарадах, потым у мястэчках, але на вёсцы працягвала лютаваць да кастрычніка. Прычым хвароба дзейнічала вельмі хутка — часта смерць надыходзіла ўсяго праз некалькі гадзін ад першых яе праяваў, і не дапамагалі ніякія лекі. Усяго да лекараў за 1855 год у Гродзенскай губерні звярнуліся 14 537 захварэўшых на халеру, а з іх ліку памерлі 5357 (36%)[90].

Апроч халеры ў 1855 годзе лютавалі тыф, ліхаманка і дызентэрыя. Высокая смяротнасць назіралася ад тыфу. Павел Баброўскі ў сваім даследаванні Гродзенскай губерні так ахарактарызаваў 1855 год: „Этот год ознаменовался страшным неурожаем, за ним последовал голод, от которого люди пухли”[91]. Паводле ацэнкі даследчыка ў 1855 годзе, „когда вследствие неурожаев, продолжавшихся несколько лет сряду, истощились все запасы и народ испытывал крайнюю нужду, врачебными пособиями в городских и военно-временных больницах, а также у частных врачей, пользовались 50 796 больных, в том числе 16 тысяч холерных”[92]. Прычым у гэтай лічбе не ўлічваліся вайскоўцы, якія лячыліся ў вайсковых шпіталях і лазарэтах, а таксама „все больные из простонародья, которые или по предубеждению, или по невозможности и бедности, не прибегали к врачам”[93].

За дапамогай да афіцыйнай медыцыны звярталіся прадстаўнікі вышэйшых і сярэдніх станаў грамадства, а таксама практычна ўсё яўрэйскае насельніцтва. У суме гэта складала па губерні каля 200 тысяч чалавек. Да гэтай лічбы можна дадаць яшчэ самых заможных сялян, якім „удается обратиться к медику”. На падставе гэтых лічбаў Павел Баброўскі прыйшоў да высновы, што ў 1855 годзе ад заразных хвароб пакутаваў прыкладна адзін з чатырох жыхароў губерні, якія належалі

89 НГАБ у Гродне, ф. 12, воп. 1, спр. 1125, арк. 3.

90 П. Бобровский, *Материалы для географии и статистики России*, ч. 1, Приложения, с. 82.

91 Тамсама.

92 Тамсама, ч. 1, с. 365.

93 Тамсама.

да вышэйшых і сярэдніх класаў, прычым з ліку захварэўшых памерлі каля 11%.

Натуральна, што сапраўдныя маштабы пашырэння эпідэмічных захворванняў сярод сялянскага насельніцтва не знаходзілі адлюстравання ў афіцыйнай статыстыцы. Пра гэта Павел Баброўскі напісаў: „До каких же размеров болезненность доходит в низшем классе — у крестьян и вообще у людей, которые всего сильнее ощущают недостаток, нужду и даже голод в неурожайные годы! Должно быть эта цифра слишком велика, если в 1855 году смерть похитила из массы населения 49 209 людей обоих полов или 6%”[94]. На падставе афіцыйных даных губернскай урачэбнай управы Бабpоўскі падлічыў, што ў 1855 годзе ў Гродзенскай губерні перахварэла на халеру, тыф і іншыя заразныя хваробы каля 500 тысяч жыхароў, альбо „болезнь постигла пятерых из каждых восьми здоровых”[95]. Сярод хворых на халеру, якія звярталіся да лекараў, памерлі 37%, а хворых на тыф — 17%. Паказчыкі смяротнасці сярод сялян ніхто нават не падлічваў: „Такова была картина 1855 года, когда во многих деревнях находили вымершими от голода целые семейства, и народ находился в каком-то страшном оцепенении [...]”. Прычым, як адзначыў гэты даследчык, „смертность не выходила из обыкновенных пределов в старческом и младенческом возрастах и похищала преимущественно взрослых людей, всего более необходимых для народного благосостояния”[96].

Эпідэміі лютавалі і ў астатніх беларускіх губернях. Паводле даных дзяржаўных улад на 21 верасня 1855 года ў Мінскай губерні было зафіксавана 25 202 хворых на халеру, з якіх 9109 (36,1%) чалавек памерлі. Акрамя таго, „от других болезней, кровавого поноса, горячек и т.п. болело 2690 и из них умерло 493 души”[97]. Таксама на Міншчыне адзначаўся вялікі падзеж працоўнай жывёлы. У Віленскай губерні, паводле даных Антона Карэвы, у 1855 годзе захварэлі на халеру і тыф 6035 чалавек, з ліку якіх памерлі 29,9%. Сярод памерлых 34% забрала халера, 20,9% — тыф, 17,7% — дызентэрыя[98].

Тут трэба нагадаць, што ў гэты час Расійская імперыя вяла знясільваючую і безнадзейную Крымскую вайну. На дапамогу ад імперскага цэнтра беларускія губерні ў часе бедства разлічаваць не маглі. Сістэма

94 Тамсама.
95 Тамсама.
96 Тамсама, с. 366.
97 НГАБ у Гродне, ф. 12, воп. 1, спр. 1125, арк. 250.
98 А. Корева, *Материалы для географии и статистики*, с. 695.

запасных хлебных магазінаў і харчовых грашовых капіталаў не вытрымала. У Гродзенскай губерні хлебныя магазіны былі апустошаны ўжо ў 1852 годзе пасля папярэдняга неўраджаю.

Інфармацыя пра памеры голаду і эпідэміі набыла ў гэты час для дзяржаўных улад канфідэнцыяльны характар. У гадавых справаздачах дзяржаўных устаноў, на падставе якіх губернатар рыхтаваў выніковую справаздачу на імя імператара, пра голад і хваробы амаль нічога не гаварылася. Напрыклад, гродзенская ўрачэбная ўправа падавала дакладныя лічбы пра колькасць здохлых ад хвароб хатніх жывёл, але там нічога не гаварылася пра памерлых ад голаду, халеры і тыфу людзей. У раздзеле „Эпідэмічныя захвараванні" ўзгадвалася толькі пра поспехі ў барацьбе з венерычнымі захворваннямі[99].

Губернскія ўлады фактычна абмяжоўваліся патрабаваннямі да памешчыкаў карміць сялян, у якіх не было хлеба. Была прынята норма выдаваць гарнец зерня (прыкладна 2,8 л) на тыдзень на аднаго чалавека. І тое, гэтая норма выдавалася толькі ў выпадку выканання паншчыны. Памешчыкі ж у большасці пагразлі ў пазыках. Асноўны прыбытак ім прыносіў продаж зерня за мяжу, які амаль спыніўся ва ўмовах голаду. Таксама моцна зменшылася прадукцыя гарэлкі.

Трэці запар моцны неўраджай 1855 года прадракаў сапраўды жахлівую катастрофу ў Гродзенскай губерні. І вясной 1856 года пачынаюць спраўджвацца самыя змрочныя прагнозы. Віленскі генерал-губернатар Уладзімір Назімаў занатаваў 10 красавіка:

> При проезде моем чрез Гродненскую губернию я заметил везде по дороге множество разного сословия людей, которые собственно от голода приостанавливают проезжающих, прося милостыню для покупки хлеба, коего они с давнего времени не употребляли. По личном удостоверении моем, я к сожалению убедился, что кроме бедных свободного состояния людей и помещичьи крестьяне во многих встречающихся по дороге деревнях, претерпевая такой же недостаток, питаются или хлебом, совершенно похожим на навоз, или во многих местах, не имея и такого хлеба, какою то похлебкою из сушенных трав с самою незначительною примесью муки из ячменя. Почти все крестьяне оказались похудалыми от недостатка здоровой пищи, многие с опухшими лицами и другие в совершенном истощении сил валяясь по избам, являли признаки болезней, развивающихся в них от голода и нездоровой пищи[100].

[99] НГАБ у Гродне, ф. 1, воп. 28, спр. 708, арк. 85.
[100] НГАБ у Гродне, ф. 12, воп. 1, спр. 1125, арк. 211 адв.-212.

На шчасце, у сакавіку 1856 года скончылася Крымская вайна. Урад пастанавіў вывесці з Гродзенскай губерні, якая аказалася ў найбольш складаным становішчы, частку размешчаных там войскаў. Запасы сухароў з вайсковых інтэнданцкіх складоў пачалі распрадаваць памешчыкам па адносна даступных цэнах. Гэта дапамагло ўратаваць насельніцтва тых мясцовасцей, дзе сітуацыя была найгоршая. Па-другое, напэўна сярод жыхароў губерні ўжо выпрацаваўся так званы калектыўны імунітэт да эпідэмічных захворванняў, а самыя слабыя і хваравітыя ўжо памерлі ў папярэднія гады. Таксама рэзка зменшылася нараджальнасць, і ў сялянскіх, і бяднейшых мяшчанскіх сем'ях было цяпер адносна менш немаўлятак, чым звычайна, што павышала працаздольнасць і біялагічную ўстойлівасць гэтых сямей. Істотную ролю, напэўна, адыграў і той факт, што ўмовы надвор'я былі лепшымі, чым у папярэднія гады — макрата і сырасць зменшыліся, а ўраджай зерневых і бульбы аказаўся неблагім. Прынамсі паводле афіцыйных лічбаў смяротнасць у 1856 годзе заўважна зменшылася. Як пісаў Павел Баброўскі „с прекращением голода, болезней, эпидемий и с наступлением мира, осенившего народы на всем пространстве обширного нашего государства"[101].

Эпідэмічныя захворванні працягвалі збіраць свой страшны плён і ў іншых беларускіх губернях. У Віленскай губерні ў 1856 годзе на халеру і крывавы панос захварэлі 3907 чалавек, з ліку якіх памерлі 2996 (76,6%)[102]. Але сітуацыя ў цэлым пачала выпраўляцца. Хоць у 1856 годзе ўраджай не выглядаў удалым, у 1857 годзе ў Гродзенскай губерні аднавіўся дэмаграфічны рост, прытым, што ўраджай гэтага года быў амаль такі самы, як у папярэднім. Да канца 1850-х гадоў эпідэміялагічная сітуацыя ў беларускіх губернях вярнулася да нормы.

Такім чынам, голад і эпідэміі ў 1853-1856 гадах з асаблівай сілай ударылі па насельніцтве Гродзенскай губерні. Паводле самых асцярожных падлікаў, яны забралі за гэтыя гады болей 50 тысяч жыхароў Гродзенскай губерні, што складала звыш 6% насельніцтва. У Віленскай і Мінскай губернях наступствы кліматычных катаклізмаў і неўраджаяў у 1850-ыя гады былі не такімі трагічнымі. Першапрычынай неўраджаю і голаду сталі надзвычай неспрыяльныя ўмовы надвор'я, якія некаторыя даследчыкі называюць апошнім подыхам „малой ледніковай эпохі". Гэтая эпоха выклікала заўважнае пахаладанне ў Еўропе ў XIV — пачатку XIX стагоддзя. Так, холад вясной і ўлетку, празмерныя ападкі і сырасць прывялі ў Гродзенскай губерні ў 1850-ыя гады

[101] П. Бобровский, *Материалы для географии и статистики России*, ч. 1, с. 583.
[102] А. Корева, *Материалы для географии и статистики*, с. 695.

да трохгадовага неўраджаю, апроч таго стваралі ідэальнае асяроддзе для пашырэння эпідэміялагічных захворванняў.

Але голад і высокую смяротнасць нельга спісаць толькі на надвор'е. Кліматычныя ваганні агалілі эканамічныя і сацыяльныя праблемы тагачаснага грамадства. Аграрная гаспадарка Беларусі насіла залежны характар. Асноўны прыбытак памешчыкам і купцам прыносіў замежны гандаль зернем. Напрыклад, паўгалодныя сяляне Гродзеншчыны вырошчвалі хлеб для Прусіі, дзе ўзровень развіцця сельскай гаспадаркі быў нашмат вышэйшы. Дзяржаўная казна Расійскай імперыі галоўны прыбытак атрымлівала ў выглядзе водкупаў на продаж гарэлкі, якія ў суме нашмат перавышалі ўсе астатнія падаткі. А ў гарэлку пераганялася значная частка зерня і бульбы. І ўсё гэта базавалася на прымусовай прыгоннай працы сялян, якім на выпадак голаду гарантаваліся (ды і тое не заўсёды) тры літры зерня на тыдзень на аднаго чалавека. Пасля голаду і эпідэмій ужо хіба ўсе — памешчыкі, дзяржаўныя чыноўнікі, сяляне — зразумелі, што прыгонная сістэма павінна быць рэфармавана. Праўда, усе бачылі рэформы па-свойму. Землеўладальнікі, напрыклад, марылі вызваліцца ад адказнасці за харчаванне сялян у часе голаду, але зусім не збіраліся аддаваць апошнім зямлю. Нездарма, менавіта памешчыкі Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губерняў першымі звярнуліся да імператара Аляксандра II з прапановай адмяніць прыгоннае права. У кожным разе перамены, як гаворыцца, віселі ў паветры. У імперыі з прыходам маладога імператара пачалася палітыка лібералізацыі. У 1861 годзе Аляксандр II адмяняе прыгоннае права. А неўзабаве выбухнула паўстанне супраць імперыі. Беларусь даволі хутка мадэрнізуецца нават у варунках аўтарытарнай імперскай улады. Неўраджайныя гады і эпідэміі перыядычна здараюцца ў паслярэформенны перыяд, але іх наступствы былі ўжо непараўнальна меншыя, чым у час неўраджаю 1840-1850-х гадоў.

**Summary**

**Cold, Famine and Plagues: Climatic Cataclysms and Epidemics in Belarus in the 1840s**

A powerful wave of famine and diseases swept across Europe in the 1840s. It also reached Belarus. Statistical data indicate a demographic decline in the territory of Belarus in the 1840s. This decline was caused by severe crop failures. The crop failures were caused by natural disasters – a very large amount of rain and cold. Famine and damp weather led to outbreaks of epidemic diseases. Cholera posed the greatest threat to human lives. The state system of protection against famine turned out to be powerless in the fight against the elements. Official medicine was available only to the upper and middle classes. The most unfavourable conditions developed in the Grodno province in 1853–1855. According to the most conservative estimates, famine and disease took more than fifty thousand lives in this province in 1854 and 1855. State authorities sought to conceal this information. The situation

began to improve in 1856. The end of the Crimean War played an important role. Famine and diseases exposed serious social problems, which had existed earlier. The serf economy turned out to be ineffective. As a result, all strata of the society came to understand the need for reforms, and above all – to free the peasantry from serfdom.
**Keywords:** demographic decline, crop failure, famine, epidemic.

**Streszczenie**

**Chłód, głód i zaraza: klimatyczne kataklizmy i epidemie na Białorusi w latach 40-50. XIX wieku**

W latach czterdziestych XIX wieku przez Europę przetoczyła się potężna fala głodu i chorób, która dotarła także do Białorusi. Dane statystyczne z lat 40-50. XIX wieku świadczą o niżu demograficznym na jej terytorium. Spadek liczby ludności w tym okresie był rezultatem poważnego nieurodzaju, spowodowanego klęskami żywiołowymi – bardzo dużą ilością opadów i chłodem. Głód i wilgoć doprowadziły do wybuchu epidemii. Największe zagrożenie dla życia ludzi stwarzała cholera. Państwowy system zapobiegania głodowi okazał się bezsilny w konfrontacji z żywiołem. Oficjalna medycyna była dostępna tylko dla wyższych i średnich klas. Najbardziej niesprzyjające warunki panowały w guberni grodzieńskiej, w której w latach 1854–1855 według bardzo ostrożnych szacunków głód i choroby pochłonęły życie ponad 50 tysięcy osób. Władze państwowe starały się ukryć niepokojące informacje. Sytuacja zaczęła się poprawiać w 1856 roku. Ważną rolę odegrało także zakończenie wojny krymskiej. Głód i choroby obnażyły nurtujące społeczeństwo problemy. Gospodarka pańszczyźniana okazała się nieefektywna. W rezultacie wszystkie warstwy społeczne zrozumiały potrzebę reform, a przede wszystkim konieczność wyzwolenia i uwłaszczenia chłopów.
**Słowa kluczowe:** kryzys demograficzny, nieurodzaj, głód, epidemia.

**Siarhiej Tokć** — profesor w Katedrze Teorii i Historii Prawa „BIP-Uniwersytet Prawa i Technologii Informacyjnych” (Filia w Grodnie), pracownik Centrum Studiów Białoruskich przy Uniwersytecie Warszawskim. Zainteresowania badawcze: historia społeczna i polityczna Białorusi w XIX-XX wieku, mikrohistoria. Autor ponad 150 publikacji, w tym dziewięciu książek.

**Святлана Марозава**
(Гродна)

## Белая, 1873 год: расправа са святым

У 60-я — 70-я гады XIX стагоддзя ў еўрапейскай навуцы і грамадстве актуалізавалася гістарычная памяць пра ўніяцкага святога Язафата (Кунцэвіча). Найперш узмацнілася яго шанаванне ў Беларусі, Літве і Польшчы. Паўстанцы 1863 года абвясцілі святога Язафата сваім заступнікам. У сувязі з гэтым у 1865 годзе ў Ватыкане было прынята рашэнне распаўсюдзіць гэты культ на ўсю Рымска-каталіцкую царкву і распачалася падрыхтоўка да кананізацыі.

У адказ у Расійскай імперыі была прадпрынята масіраваная атака на гістарычную памяць пра Язафата Кунцэвіча з мэтай яго дыскрэдытацыі, каб перашкодзіць кананізацыі. Цар Аляксандр II пісаў папе Пію IX, што Язафат Кунцэвіч недастойны такога гонару ў Каталіцкай царкве, і падмацоўваў свае аргументы некалькімі дакументамі, у тым ліку падробленым знакамітым лістом канцлера Льва Сапегі 1622 года[1].

Наступ з боку Масквы і Пецярбурга быў падмацаваны шэрагам наспех выдадзеных кніжак, якія кампраметавалі ўніяцкага пакутніка, прадстаўлялі яго як злачынцу, пераследніка і ненавісніка, каб не дапусціць абвяшчэння каталіцкім святым. Асабліва апалчыліся супраць яго ідэолагі заходнерусізму Міхаіл Каяловіч і Ксенафонт Гаворскі.

Рашэнне папы аб кананізацыі Кунцэвіча, па словах М. Каяловіча, „можа стаць ударам прама ў рускае сэрца” і „можа моцна адбіцца ў Заходняй Расіі, асабліва з-за абуральнай руплівасці многіх вялікарускіх чыноўнікаў”, якія кіруюць гэтай краінай „паліцэйскім спосабам”: нішчаць крыжы на дарогах, нават пастаўленыя ў памяць аб вызваленні сялян; здзекуюцца над святынямі; „мужыкам у іншых месцах загадваюць адрошчваць бароды, перашываць сярмягі па вялікарускім кроі”. Па перакананні ідэолага заходнерусізму, у Заходняй Расіі, дзе „ваенная дыктатура глыбока ўрэзалася ў каляіну”, „цяпер самае крытычнае становішча”. Асудзіўшы „здзек гэтых паўнаўладных нікчэмнасцей”, ён выказаў думку, што „найпершых рускіх нягоднікаў трэба душыць той жа вяроўкай, якая душыла здраду польскую”[2].

[1] V. Panucevič, *Sv. Josaphat, Archijapiskap Połacki. 1623-1963: Referat čytany na Tydni Chryścijanskaj Jednašci 19 studzienia 1963*, Chicago 1963, s. 180.

[2] Рукапісны аддзел Расійскай нацыянальнай бібліятэкі (далей: РА РНБ), ф. 629,

„Чакаць больш зручнага часу падрыхтаваць многіх супраць гэтай справы [кананізацыі — С. М.] нельга, — пісаў М. Каяловіч папячыцелю Віленскай навучальнай акругі Івану Карнілаву. — На днях выступаю са з'едлівым артыкулам супраць папы, Язафата і разам супраць Баболі"[3]. М. Каяловіч прапанаваў ажыццявіць шэраг мер, каб нейтралізаваць ажыўленае пакланенне святому. Сярод іх — перадрукаваць, як мага хутчэй, у «Виленском вестнике» і ва ўсіх губернскіх ведамасцях ліст Сапегі да Язафата Кунцэвіча з гісторыі Бантыш-Каменскага[4]; перадрукаваць і распаўсюдзіць артыкул пра Кунцэвіча, надрукаваны ў мінулым годзе ў „Вестнике Западной и Юго-Западной России", а таксама дакумент 1623 года з апісаннем розных пакутаў праваслаўных ад Кунцэвіча; прадпісаць усім праваслаўным святарам пры любым зручным выпадку распавядаць у пропаведзях пра «жорсткасць» Язафата Кунцэвіча[5].

Разумеючы, што рашэннем папства аб кананізацыі Кунцэвіч „узняты да значэння постаці гістарычнай", К. Гаворскі ўзяўся зрынуць гэтага куміра з пастамента, на які яго ўзнялі сучаснікі. Ён асудзіў „аблудных нашых сабратоў", якія ўзводзяць яму статуі, алтары і храмы, паляць фіміям, выдумляюць гімны і службы. Шанаванне Кунцэвіча ён назваў ідалапаклонствам. Сцвярджаў, што папа Пій IX, „гледзячы на яго скрозь туман двух с паловай стагоддзяў, прагледзеў шмат грэшнага ў жыцці Язафата і супрацьзаконнага ў яго дзеяннях"[6].

спр. 393: Письмо М. О. Кояловича И. П. Корнилову. 1860-е годы (копия), л. 1-2 адв.

3 Тамсама, л. 3.

4 Існуе дзве рэдакцыі ліста канцлера Вялікага Княства Літоўскага Льва Сапегі Язафату Кунцэвічу ад 12 сакавіка 1622 г.: аўтэнтычная, створаная самім карэспандэнтам, і сфальшаваная, якая існуе ў некалькіх версіях. Адны гісторыкі схіляюцца да думкі аб магчымым фальшаванні яшчэ ў часы самога Язафата, тым больш, што ў лісце да мітрапаліта Іосіфа Руцкага ад 10 жніўня 1622 г. ён пісаў: „Пісары копіі тых лістоў зрабіўшы, іх злачынцам аддаюць". Але ўважлівы аналіз дае падставу думаць, што пераробка зроблена ў канцы XVIII ст. Яе адхіленне ад праўдзівага тэксту выклікана як некваліфікаванасцю перакладчыка, які не меў дастатковых ведаў у польскай і лацінскай мовах, так і яго тэндэнцыйнасцю. Галоўным фальсіфікатарам даследчыкі перапіскі Язафата Кунцэвіча лічаць Мікалая Бантыш-Каменскага. Яго задачай было не столькі высвятленне гістарычнай праўды, колькі пашырэнне ідэй і поглядаў, выпрацаваных Сінодам. У выніку „ампутацыі", зробленай Бантыш-Каменскім, ліст Сапегі, які ўтрымліваў парады, перасцярогі, ператварыўся ў абурэнне нібыта гвалтоўнымі дзеяннямі полацкага архіепіскапа. Гл.: *Эпісталяцыя Сьвятога Язафата: Збор дакумэнтаў*, уклад. і апр. М. Баўтовіча, Полацак 2006, с. 16, 24, 26.

5 РА РНБ, ф. 629, спр. 393, л. 3.

6 К. А. Говорский, *Иосафат Кунцевич, полоцкий униятский архиепископ*, Вильна 1865, с. 3-4, 17.

Заходнееўрапейскія вучоныя адказалі на сціплыя „кніжкі для народа” пра Язафата Кунцэвіча, што ў 1860-я гады выйшлі з-пад пяра М. Каяловіча і К. Гаворскага, капітальнымі навуковымі працамі пра святога, заснаванымі на грунтоўнай базе крыніц. Гэта працы Марціна[7] і Гвэпіна[8] з Францыі, Пелеша з Аўстрыі[9], Канціеры з Італіі[10], Лёозгарна з Германіі[11].

У чэрвені 1867 года папа Пій IX абвясціў Язафата Кунэціча святым усёй Каталіцкай царквы. Гэты была ўрачыстасць міжнароднага значэння. У ёй удзельнічала больш за 500 дастойнікаў з усяго свету, розных рас і абрадаў.

У фокусе тых падзей апынуўся горад Белая[12] на Падляшшы, а ў ім — уніяцкая пабазыльянская царква Нараджэння Маці Божай, дзе зберагаліся мошчы святога Язафата. Як яны апынуліся ў Бялай?

Паколькі Пётр I, будучы са сваім войскам у Беларусі пад час Паўночнай вайны, знішчаў тут унію, уніятаў, у тым ліку фізічна, і культ святога Язафата, мошчы святога былі вывезены з Полацка. Спачатку іх схавалі ў Жыровічах, але калі сюды стала набліжацца рускае войска, мошчы перавезлі ў Белую, у манастыр ва ўладаннях Радзівілаў і змясцілі ў замкавую капліцу. Пры набліжэнні маскоўскага войска да Бялай мошчы замуравалі ў замкавай сцяне. Пасля вайны Радзівілы, якія сталі лічыць мошчы сваёй уласнасцю, не вярнулі іх базыльянам. Тыя скардзіліся ў Рым. Паколькі патрабаванні Апостальскага прастола вярнуць мошчы Радзівілы ігнаравалі, той у 1743 годзе даў дазвол на іх захаванне ў Белай пры ўмове будаўніцтва Радзівіламі за свой кошт уніяцкай царквы і манастыра для базыльянаў. Царква была пабудавана ў 1747-1759 гадах. У 1765 годзе ў яе перанеслі мошчы святога[13].

7 S. I. Martinov, *Le plan d'abolition de l'eglise grecque Unie*, Paris 1873; той жа, *Saint Josaphat et ses detracteurs*, Lion 1875.

8 A. Guepin, *Saint Josaphat archeveque de Polock, martyr de l'Unite Catholique et l'Eglise Grecque Unie en Pologne*, Paris 1874-1878, vol. 1-2; той жа, *Un apotre de l'Uniondes Eglis an XVII siecle Saint Josaphat et l'Eglise Greko-slave en Pologne et en Russie*, Paris 1897-1898, vol. 1-2.

9 J. Pelesz, *Geschichte der Union der ruthenischen Kirche mit Rom von den altesten Zeiten bis die Gegenwart*, Wien 1878-1880, bd. 1-2.

10 N. Contieri, *Vita di S. Giosafat arcivescovo e martire Ruteno dell' ordine di S.Basilio*, Roma 1867.

11 J. Looshorn, *Der heilige Martyrer Josaphat Kuncevicz, Erzbischof von Polock*, Munchen 1898.

12 Белая — традыцыйная беларуская назва сучаснага польскага горада Бяла-Падляска, што знаходзіцца ў Люблінскім ваяводстве ў 36 км ад мяжы з Рэспублікай Беларусь. У XV-XVIII стагоддзях горад уваходзіў у склад Берасцейскага ваяводства Вялікага Княства Літоўскага.

13 V. Panucevič, *Sv. Josaphat, Archijapiskap Połacki. 1623-1963: Referat čytany na Tydni Chryścijanskaj Jednaści 19 studzienia 1963*, Chicago 1963, c. 176-178.

Абвяшчэнне святога Язафата патронам антымаскоўскага змагання 1863 года суправаджалася на Падляшшы і Холмшчыне ўрачыстасцямі. Вялікія працэсіі прыходзілі тады ў Белую з абразамі святога, каб пакланіцца яго мошчам.

Пра падзеі 1861-1873 гадоў у Белай, звязаныя з шанаваннем святога Язафата і выдаленнем яго з публічнага культу, распавядае аб'ёмістая архіўная справа з фонду Дэпартамента духоўных спраў замежных веравызанняў, выяўленая намі ў Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Санкт-Пецярбургу[14].

Яшчэ ў 1861 годзе ў галоўным алтары бельскай царквы з'явілася мармуровая рака, куды збіраліся змясціць мошчы святога Язафата. Пакуль жа яны захоўваліся ў старой труне, якая жалезнымі скобамі і чатырма замкамі была прымацавана да сцяны. Ключы ад труны захоўваліся ў горадзе Холме — цэнтры епархіі, у Холмскай духоўнай кансісторыі.

Пад час паўстання за прастолам царквы была размешчана вялікая карціна «Пакутніцкая смерць Язафата Кунцэвіча», якую напісаў у 1861 годзе вядомы польскі жывапісец Юзэф Зімлер, што працаваў у гістарычным жанры. За сваю працу ён атрымаў ад заказчыка, імя якога засталося невядомым, 100 рублёў. Карціна прызнавалася „выдатнай у мастацкіх адносінах".

Вясной 1865 года вышэйшыя пецярбургскія і мясцовыя свецкія і духоўныя ўлады ўзяліся за царкву і яе рэліквіі. Устанаўленне ў храме пад час паўстання гэтай карціны было расцэнена як „палітычная маніфестацыя супраць урада і рускай народнасці", арганізаваная з мэтай абуджэння грэка-ўніяцкіх настрояў. Было прызнана, што карціна мае „абуральны змест" і „варожы характар", шкодная для тутэйшага краю і мае быць з царквы выдалена. Але як гэта зрабіць, каб не абурыць грамадскую думку?

Рашэнне знайшоў ваенны начальнік Бельскага павета. 20 снежня ён прапанаваў: карціну з царквы асцярожна выдаліць, „не надаючы гэтай справе выгляду ганенняў на памяць Язафата, але засноўваючыся на выключна яўным рэвалюцыйным характары гэтай выявы, выстаўленай у царкве пад час мяцежнага хвалявання ў выглядзе палітычнай маніфестацыі супраць урада і рускай народнасці"[15].

Прыхаджанам растлумачылі „абуральны змест" і „варожы характар" карціны. З храма яе прыбралі і адправілі ў Маскву, у Румянцаўскі

[14] Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў (далей: РДГА), ф. 821, воп. 4, спр. 2109: О мнимых мощах Иосафата Кунцевича, находящихся в Бельской по-василианской церкви. 3 мая 1865 года — 5 сентября 1874 года.

[15] РДГА, ф. 821, воп. 4, спр. 2109, л. 19.

музей. А заадно туды накіравалі чатыры барэльефы, знятыя з падножжа статуі ў Сувалках, што былі там устаноўлены пад час маніфестацый 1861 года, з выявамі святога каралевіча Казіміра, польскай каралевы Ядвігі, езуіцкага місіянера XVII стагоддзя Андрэя Баболі. Адзін з барэльефаў уяўляў сабой выяву Язафата Кунцэвіча з тапаром, уваткнутым у галаву — сімвалам яго пакутніцкай смерці. „Уяўна святыя місіянеры каталіцызму на Русі, аб прызнанні якіх святымі столькі [...] намагаюцца цяпер палякі," — так характарызаваліся барэльефныя выявы двух апошніх гістарычных персанажаў у суправаджальных дакументах у расійскую сталіцу[16].

Ад дырэктара Румянцаўскага музея за гэтыя падарункі прыйшла падзяка.

У 1867 годзе, калі ў Рыме ішоў працэс кананізацыі Язафата Кунцэвіча, расійскія ўлады ўстрывожыліся, што ў Белай, дзе знаходзіцца труна епіскапа, з гэтай нагоды „можна чакаць нейкіх маніфестацый". Вось пачнуць пасля кананізацыі сцякацца ў Белую на паклон масы народа, а каталіцкае і ўніяцкае духавенства будзе служыць малебны і акафісты новаму святому. Таму вырашылі выдаліць мошчы святога з публічнага культу. У красавіку гэтага года начальнік Бельскага павета прасіў „забяспечыць яго інструкцыяй, як належыць паступіць у выпадку рэлігійнага руху ўніятаў і асабліва духавенства", пры гэтым раіў прыняць прэвентыўныя меры, каб магчымыя маніфестацыі папярэдзіць[17].

Сярод такіх мер мясцовыя ўлады разглядалі выкрыццё, што мошчы святога не з'яўляюцца нятленнымі. Труну Язафата прапаноўвалі асведчыць, накіраваць у Пецярбург. Пры гэтым агаворвалі, што зрабіць усё трэба раптоўна, каб заўчасна не ўзбуджаць чуткі.

Больш прымальнай здалася ідэя выдаліць мошчы Язафата з царквы пад выдуманай прычынай яе рамонту. Знайшлі, што гэта — вельмі зручны выпадак, якім трэба скарыстацца, каб выдаліць Язафата не толькі з царквы, але і з межаў Холмскай епархіі наогул.

Обер-пракурор Сінода граф Дзмітрый Талстой (ён жа — міністр народнай асветы Расійскай імперыі), які разглядаў гэтыя прапановы, не палічыў зручным зусім выдаляць грабніцу. Ён раіў проста перанесці яе з царквы ў склеп пад храмам. А „каб не было спакусы і магчымых замахаў" вярнуць грабніцу на яе месца, то ў склепе яе і замураваць. Прычым зрабіць гэта, на думку высокага расійскага саноўніка, трэба было галосна.

16 Тамсама, л. 33 адв.
17 Тамсама, л. 41, 46.

Пазней, у 1873 годзе, обер-пракурор Д. Талстой пісаў імператару Аляксандру II:

> Уяўныя мошчы Кунцэвіча заўсёды ўзбуджалі рэлігійны фанатызм у навакольнага люду, прыцягваючы да сябе на пакланенне масу народу. [...] Часы ўзмоцненай польскай агітацыі ў царкве ў 1831, 1839 і 1863-1864 гадах былі ў той жа час момантамі выключнага напалу рэлігійнага фанатызму, які ўзбуджаўся імем уніяцкага пакутніка.
>
> Таму ўяўлялася неабходным выдаліць прадмет яго шанавання, які нядобранамераныя людзі выкарыстоўвалі як зброю для ўзбуджэння жарсцей і парушэння добрай грамадзянскай згоды ў асяроддзі мясцовага насельніцтва.
>
> Але справа гэта, закранаючы рэлігійныя пачуцці народа, патрабавала выключнай абачлівасці і для яе выканання належала чакаць зручнага выпадку. Маючыя адбыцца работы па ўнутранай пераробцы грэка-ўніяцкай царквы ў вёсцы Бяла давалі добрапрыстойную нагоду разам з вынясеннем з яе ўсяго начыння выдаліць таксама і труну з уяўнымі мошчамі Язафата[18].

Улады непакоіла, што „прыбранне мошчаў можа выклікаць нараканні ў народзе" на Падляшшы, дзе „настроі розумаў у народзе нацягнутыя і сур'ёзныя"[19]. Ды і не хацелі прыцягваць да сябе ўвагу іншых дзяржаў. Таму на такі крок рашыліся толькі ў 1873 годзе, калі Уніяцкая царква дажывала на Падляшшы свае апошнія дні, а час прыглушыў міжнародную памяць аб кананізацыі. Непасрэднымі арганізатарамі гэтай справы сталі настаяцель бельскай царквы протаіерэй Ліўчак[20], ён жа — сакратар Холмскай кансісторыі, і адміністратар Холмскай епархіі протаіерэй Попель, якія дзейнічалі па даручэнні Сінода.

Загадчык пабудовамі ўніяцкіх цэркваў у Царстве Польскім 27 красавіка 1873 года прасіў з Белай, каб яму „дазволілі адразу [...] пакончыць з Язафатам, бо правалокі даюць магчымасць агітатарам падрыхтаваць хваляванні"[21].

Прыхаджане і святары, калі даведаліся пра непазбежнасць вынясення мошчаў святога на час рамонту храма, прасілі кансісторыю аб дазволе зрабіць гэта з „належнай царкоўнай цырымоніяй". Начальства ж хацела правесці „без шуму і агалоскі, якая можа адбіцца ва ўсім

[18] РДГА, ф. 821, воп. 4, спр. 2109, л. 123-124.

[19] Тамсама, л. 61 адв.-62.

[20] Ливчак — так пададзена прозвішча ў дакументах Дэпартамента духоўных спраў замежных веравызанняў Міністэрства ўнутраных спраў Расійскай імперыі.

[21] РДГА, ф. 821, воп. 4, спр. 2109, л. 72-72 адв.

каталіцкім свеце". Але найбольш баяліся, што калі пачнуць труну замуроўваць, то прыхаджане, братчыкі царквы ўздымуць усё навакольнае насельніцтва[22].

Без агалоскі, аднак, не атрымалася.

На 23 мая губернатар загадаў дэкану Філевічу склікаць у Белую ўсіх святароў, каб прысутнічалі пры пераносе мошчаў. Праўда, святар Шокальскі[23] (Сакольскі), які гаварыў пра непрыстойнасць месца для ўстаноўкі труны з мошчамі, да перанясення не быў дапушчаны. У Белую прыбылі таксама капітан, сакратар губернатара, начальнік жандармерыі з атрадам жандараў і аддзел салдат. З Холма прывезлі ключы ад грабніцы Язафата.

У ноч з 25 на 26 мая 1873 года ў адным з аддзяленняў царкоўнага склепа з дошак былі зроблены ўзвышэнне для труны з мошчамі і дзверы з акоўкай і замком. Ноччу ж знялі драўляную абшыўку, зробленую прыхаджанамі для труны святога Язафата, і падпілавалі жалезныя скобы, якімі яна была прымацавана да сцяны. Труну пры гэтым не адкрывалі, старыя пячаткі на ёй не парушылі, а змясцілі яе ў новаўладкаваную труну, якую апячаталі.

26 мая да царквы пачаў збірацца народ, які даведаўся пра перанос святых мошчаў. Сабралася каля ста прыхаджан. Апранутыя ў рызы святары чыталі малітвы. Запрошаны цясляр адкруціў шрубы, якімі труна святога была прымацавана да сцяны

Але тут пачаліся праблемы...

Калі благачынны Філевіч адслужыў службу і прапанаваў братчыкам і прыхаджанам дапамагчы духавенству перанесці труну, ніхто не крануўся з месца: ні само „дашчэнту перапалоханае духавенства", якое спаслалася на сваю малую колькасць для ўздыму сапраўды цяжкай труны; ні братчыкі і прыхаджане, якія растлумачылі, што не смеюць сваімі грэшнымі рукамі дакрануцца да святыні, не зрабілі ні кроку да труны. Акрамя святара Ліўчака. Але ўсе яго далейшыя звароты да вернікаў і ўгаворванні засталіся беспаспяховымі.

Атрымалася замінка. Царкву зачынілі на замок. Накіравалі тэлеграму да губернатара: „Што рабіць?" — „Узяць 8 жандараў і скончыць усю авантуру", — быў яго загад. Апоўдні зноў паклікалі да царквы святароў. За гэты час уцёк і з'ехаў з Белай святар Васкрэсенскага прыхода Іаан Кунцэвіч. Затое выкліканы з вёскі Канстанцінава дэкан Мікалай

[22] Тамсама, л. 72 адв.-79.

[23] Шокальский — так пададзена прозвішча ў дакументах Дэпартамента духоўных спраў замежных веравызанняў Міністэрства ўнутраных спраў Расійскай імперыі.

Каліноўскі падышоў да алтара, выцягнуў з нішы саркафаг і загадаў жандарам узяць яго. Тыя ў прысутнасці жыхароў Белай і ваколіц і святароў вынеслі мошчы з царквы ў склеп. Зробленыя ў гэты склеп дзверы замкнулі на ключ і апячаталі. Ключ аддалі бельскаму благачыннаму для перадачы ў Кансісторыю.

Настаяцель бельскай царквы протаіерэй Ліўчак дакладваў начальству, што перанясенне мошчаў „паўплывала непрыемна толькі на бельскіх мяшчан, але не на вясковы люд, які складаў большасць яго прыхаджан”[24]. Праз некалькі дзён прыйшоў загад губернатара замураваць грабніцу з мошчамі, каб ніхто не змог яе са склепа забраць. Протаіерэй згадзіўся „для канчатковага супакаення падазронай асцярогі з боку ўніяцкага насельніцтва” без шуму і агалоскі замураваць склеп.

Праўда, гэтага Ліўчака абвінавачвалі ў нядобрасумленнасці: пры любой нагодзе ён глуміўся над Язафатам, але ў той жа час прасіў Кансісторыю, каб труну ў яго царкве захавалі на даступным для пакланення народа месцы, бо яна з’яўлялася крыніцай яго прыбытку.

Употай, без парушэння пячатак на дзвярах, 5 жніўня была замуравана цаглянай сцяной арка, што вяла ў той адсек падвала, дзе былі пастаўлены мошчы. 3 верасня разламалі дашчэнту алтар, на якім раней стаяла труна. Ікона ў срэбнай аправе з выявай Язафата, што знаходзілася ў алтары, была здадзена святару Ліўчаку.

З Пецярбурга 18 жніўня загадалі адміністратару Холмскай епархіі Попелю ўвесь склеп замураваць, „каб падазроныя асцярогі і ўзбуджаная ўвага з боку прыхаджан супакоіліся і аслаблі”[25]. 30 верасня цаглянай кладкай замуравалі адзінае акенца ў царкоўным склепе і адзіны ў яго ўваход. Кладку затынкавалі ў адной плоскасці са сцяной. Протаіерэй Попель паведаміў сталічным уладам, што звесткі пра замураванне склепа ўспрымаюцца мясцовым насельніцтвам індыферэнтна і не робяць кепскага ўражання, паколькі, па перакананні народа, мошчы былі пахаваны самім духавенствам[26].

Аб перанясенні мошчаў далажылі імператару. „Вельмі рады, што яно адбылося без усялякіх беспарадкаў,” — была яго рэзалюцыя 14 лістапада 1873 года на данясенні графа Д. Талстога[27].

21 лістапада прастору, у якой знаходзілася лесвіца ад люка на падлозе царквы да гэтага ўваходу, наглуха засыпалі смеццем і паверх насыпу

[24] РДГА, ф. 821, воп. 4, спр. 2109, л. 103 адв.
[25] Тамсама, л. 111, 113.
[26] РДГА, ф. 821, воп. 4, спр. 2109, л. 123-124.
[27] Тамсама, л. 123.

паклалі падлогавыя бэлькі. Чацвёртага снежня была завершана ўкладка новай падлогі ў царкве, прычым быў замураваны і сам люк.

І, урэшце, як рапартавалі ў Пецярбург, 5 снежня была разабрана мармуровая рака, змешчаная ў 1861 годзе ў галоўным алтары і падрыхтаваная для мошчаў Язафата Кунцэвіча. „Гэтай апошняй работай усялякі след існавання азначаных мошчаў у бельскай царкве быў знішчаны"[28]. На ўсё гэта выдаткавалі 153 рублёў 69 ½ капейкі.

У жніўні 1874 года завяршаўся рамонт царквы ў Белай. Паўстала пытанне аб яе асвячэнні. Баяліся, што асвячэнне „магло бы падаць па прычыне вядомых [...] мошчаў падставу да нараканняў і можа быць нават беспарадкаў у асяроддзі прыхаджан"[29].

Царкву асвяцілі 15 жніўня 1874 года. Асвячэнне прайшло спакойна.

Замураваныя ў 1873 годзе ў глыбокім і вільготным склепе базыльянскай царквы ў Белай мошчы Язафата Кунцэвіча выявіў у 1916 годзе, пад час Першай сусветнай вайны, нямецкі афіцэр пры раскопках, праведзеных па просьбе аўстра-венгерскай арміі. У 1917 годзе была зроблена спроба перадачы мошчаў католікам, але рашэннем ваеннага кіраўніцтва аўстрыйскай арміі іх вывезлі па-за межы ваенных дзеянняў, у Вену.

У 1918 годзе ва ўніяцкай царкве святой Барбары ў Вене папская камісія, якую ўзначальваў мітрапаліт Іосіф Шаптыцкі, каб пацвердзіць аўтэнтычнасць, падвергла мошчы кананічнаму агляду. Апроч уніяцкага духавенства прымалі ўдзел прадстаўнікі венскага ардынату, спецыялісты па кансервацыі, вядомыя медыкі і іншыя. Камісія пацвердзіла поўную аўтэнтычнасць рэліквіі. Добра захавалася галава святога, тулава, правая рука (левая была аднята яшчэ ў 1743 годзе і перададзена базыльянам у Полацк), ногі. З агляду галавы лекары ўстанавілі, што смерць наступіла ад удару сякерай (бердышом), а не ад выстралу агнястрэльнай зброі, бо слядоў уваходу кулі няма. У цэлым добра захаваліся і старыя епіскапскія шаты, часткова са слядамі крыві, а на правай руцэ епіскапа — добрай работы стары пярсцёнак з вялікім смарагдам.

Мошчы апранулі ў новы базыльянскі хабіт і новыя шаты епіскапа. Залататканы амафор ахвяраваў мітрапаліт І. Шаптыцкі. Украінскія эмігранты ахвяравалі для святога Язафата залаты епіскапскі крыж і ладную бронзавую труну са шклянымі сценамі, праз якія мошчы былі добра бачныя[30].

28 Тамсама, л. 130.

29 Тамсама, л. 133 адв.

30 У. Талочка, *Св. Язафат у Вільні*, «Наша Слова», 15.04.2020.

Пад канец Другой сусветнай вайны, калі Савецкая Армія набліжалася да Вены, мошчы былі сакрэтна перавезены ў Рым. Сусветная рэліквія, якую ў 1873 годзе ў Белай па загадзе з Пецярбурга выкінулі ў склеп, сёння захоўваецца ў галоўным храме каталіцкага свету — ватыканскай базіліцы святога Пятра і з'яўляецца аб'ектам пакланення каталікаў і грэка-каталікаў з усяго свету. Пазбаўленне ад гэтай рэліквіі, як і ад царкоўнай уніі наогул, абярнулася для беларусаў Падляшша культурным збядненнем, знішчэннем і вымываннем мясцовай спадчыны, зменай ідэнтычнасці.

**Summary**

**Biała, 1873: Discreditation of the saint**

The article is devoted to the description of the events of 1865-1874 in the town of Biała in the Siedlce governorate, connected with the destruction of the historical memory about the Uniate Saint Josaphat Kuntsevich, when his veneration increased in Belarus, Poland and Lithuania. The Vatican's decision in 1865 to extend his cult to the entire Catholic Church and the act of canonization in 1867 were answered by the secular and ecclesiastical authorities of the Russian Empire with a campaign to discredit the saint. The town of Belaya in Podlasie and its Uniate Church of the Nativity of the Virgin, where the relics of the saint were kept, were in the centre of those events. Details of the neutralization of the influence of the cult of St. Josaphat on religious and social sentiments in the region and of the prevention of Catholic and Uniate pilgrimages to the church are presented on the base of the documents from the Russian State Historical Archive.

**Keywords:** Uniate saints, Josaphat (Kuntsevich), cult, veneration, canonization, Biała of the the Siedlce governorate, Church of the Nativity of the Virgin, reburial.

**Streszczenie**

**Biała, 1873: rozprawa ze świętym**

Artykuł opisuje wydarzenia z lat 1865-1874 w gminie Biała powiatu bialskiego guberni siedleckiej wokół niszczenia pamięci historycznej o unickim świętym Jozafacie Kuncewiczu, którego kult szerzył się na Białorusi, w Polsce i na Litwie. Na decyzję Watykanu z 1865 r. o upowszechnieniu jego kultu w całym Kościele katolickim oraz na akt kanonizacji w 1867 r. świeckie i kościelne władze Imperium Rosyjskiego zareagowały kampanią dyskredytującą świętego, szargającą jego pamięć. Centrum wydarzeń stał się unicki kościół pw. Narodzenia Najświętszej Marii Panny w Białej na Podlasiu, w którym przechowywano relikwie świętego. Na podstawie dokumentów z Rosyjskiego Państwowego Archiwum Historycznego autorka przybliża szczegóły działań zmierzających do zneutralizowania wpływu kultu św. Jozafata na nastroje religijne i społeczne w regionie oraz do zapobieżenia pielgrzymkom katolików i unitów do kościoła w Białej.

**Słowa kluczowe:** święty unicki Jozafat (Kuncewicz), relikwie, kult, kanonizacja, atak na pamięć, dyskredytacja, Biała powiatu bialskiego guberni siedleckiej, Kościół NMP w Białej, reakcja parafian i duchowieństwa.

**Swiatłana Marozawa** — profesor doktor, pracownik naukowy w Katedrze Historii Białorusi, Archeologii i Specjalnych Dyscyplin Historycznych Grodzieńskiego Uniwersytetu Państwowego im. Janki Kupały. Zainteresowania naukowe: historia Kościoła unickiego

(grekokatolickiego) na Białorusi w latach 1596-1839 i postunickiej Białorusi. Autorka około 400 prac naukowych, w tym monografii *Уніяцкая царква ў этнакультурным развіцці Беларусі (1596-1839 гады),* Гродна 2001; *Сваёй веры ламаць не будзем...: Супраціў дэўнізацыі ў Беларусі (1780-1839 гады)*, Гродна 2014. Za drugą monografię została przez Białoruski PEN-Club nagrodzona medalem Franciszka Bahuszewicza. Autorka i współautorka trzech dziesiątków podręczników do historii Białorusi. Od 2005 r. na podstawie podręczników przygotowanych z udziałem S. Marozawej w szkołach prowadzone są lekcje historii Białorusi od końca XVIII do początku XX w.

пра нашых гродзенцаў, чым у „Наднёманскіх былях”[7]. Калі ўзровень артыкулаў прадыктаваны адрасам на шырокага чытача, то зусім не апраўдвае гэтага тыраж.

Даруйце за шчырасць, не гаварыце аб гэтым сваім калегам, хаця, што ім думка нейкага вясковага настаўніка.

Дзякую за пісьмо ў выдавецтва. Здаецца, усё добра. Выдавецтва дало 12 аркушаў. Кнігу адправілі на рэцэнзіраванне ў АН[8] БССР, чакаю вынікаў. У ліпені-жніўні абяцаюць аддаць у набор.

Выклікалі ў МА[9] БССР, прапануюць увайсці ў адзін з аўтарскіх калектываў па стварэнню падручнікаў па літаратуры для 8-10 класаў. Страшна. Ды і час, адкуль браць яго.

У апошнія паўтара года мне многа гадзяць — непрыемна, нахабна. Некалі гэта пагражала б турмою. Пры сустрэчы раскажу ўсё.

Шчыра жадаю добрага здароўя Марыі і Марыне[10] поспехаў. Да сустрэчы.

Вечна Ваш — Уладзімір Урбановіч.

11 мая 1971 года

Паважаны Аляксей Міхайлавіч!

Пісьмо ваша атрымаў. Мы згодны прыняць практыкантаў. Калі гэта будзе ў верасні-кастрычніку, зможам нават прадаставіць чалавекам чатыром школьную кватэру — пакой, пасцелі. Можна да нас прысланць і двух хімікаў, гісторыкаў.

Сёлета нам патрэбен настаўнік рускай мовы, пажадана, каб мог весці ў 6-8 класах нямецкую мову. Нагрузка: 20 гадзін, 2 класы, прыблізна 60 вучняў. Кватэра прыватная, мы плацім 5 руб. у месяц. Зразумела, што нам патрэбен добры настаўнік. Калі ёсць добры чалавек, то пасылайце. Мы ў РАНА[11] ўсё ўладзім.

Летам хачу без вучняў пайсці па купалаўскіх мясцінах і распрацаваць адпаведны маршрут.

Пры нагодзе, калі будзеце ў Навагрудку, абавязкова заязджайце з Марыяй і Марынай да нас. Нашы тэлефоны: 96-7-28, 96-7-47.

Са шчырым прывітаннем Уладзімір Урбановіч.

7 „Наднёманскія былі” — зборнік артыкулаў і нарысаў. Мінск, Выдавецтва „Беларусь”, 1968 г.

8 АН — Акадэмія навук.

9 МА — міністэрства адукацыі.

10 Марына Аляксееўна Загідуліна (1955) — дачка Аляксея Пяткевіча, беларускі мастацтвазнаўца.

11 РАНА — раённы аддзел народнай адукацыі.

4 красавіка 1972 года

Дарагі Аляксей Міхайлавіч!

Работу над рэарганізацыяй музея канчаем. Застаўся неаформленым аддзел пра сучасную літаратурную Гродзеншчыну.

Мне патрэбна Ваша дапамога.

1. Мне патрэбны фатаграфіі ўсіх 10 членаў СП[12] БССР Гродзенскага аддзялення. Фатаграфіі павінен зрабіць Пераход — фотакарэспандэнт „Гродзенскай праўды". Сазваніцеся з ім і Вы. Я яму напісаў, ёсць і вусная дамоўленасць.
2. Дапамажыце нам дастаць аўтографы Дануты[13], Іпатавай[14], Дуксы[15] і Голуба[16] — адрасы іх нам не вядомы і напісаць асабіста не можам.
3. Не магу нідзе знайсці фатаграфію Дварчаніна[17], а яна нам проста неабходна, калі можаце, дапамажыце. Можна зняць на кальку.
4. Не маем таксама фатаграфій Явара[18], Сучка[19], Граніта[20] і Краўцова[21]. Напішыце нам гады жыцця Краўцова, крыху больш біяграфіі.
5. Прышліце адрас Ларысы Геніюш[22].

Музей адкрываць думаем 19 мая. Ідзе гутарка аб тым, што з нагоды 90-годдзя Якуба Коласа[23] нашай школе прысвоіць яго імя.

З сардэчным прывітаннем і надзеяй Уладзімір Урбановіч.

[12] СП — Саюз пісьменнікаў.

[13] Данута Бічэль (1938) — беларуская паэтка.

[14] Вольга Іпатава (1945) — беларуская пісьменніца.

[15] Мар'ян Дукса (1943-2019) — беларускі пісьменнік.

[16] Юрка Голуб (1947-2020) — беларускі паэт.

[17] Ігнат Дварчанін (1895-1937) — беларускі пісьменнік, доктар філасофіі, загінуў у сталінскіх лагерах.

[18] Міхась Явар (Міхаіл Карась, 1903-1933) — беларускі паэт і грамадскі актывіст.

[19] Алесь Сучок (Пятро Дабрыян, 1916-1993) — беларускі паэт і грамадскі дзеяч.

[20] Пятрусь Граніт (Іван Івашэвіч, 1909-1980) — беларускі паэт.

[21] Макар Краўцоў (Макар Касцевіч, 1891-1939) — беларускі паэт, публіцыст, грамадска-палітычны дзеяч.

[22] Ларыса Геніюш (1910-1983) — беларуская паэтка, дзяячка нацыянальнага руху.

[23] Якуб Колас (1882-1956) — класік беларускай літаратуры.

28 снежня 1972 года

Дарагі Аляксей Міхайлавіч!

Няхай Новы год прынясе Вам і Марыі Міхайлаўне і Марыне ўсё добрае і прыгожае: здароўе, шчасце, радасць і новыя поспехі.

Вельмі рады за Марыю і яе артыкул у ЛіМе[24], часцей бы так.

Сардэчнае прывітанне Аляксею Карпюку[25]. У музеі мы паказалі яго крупным планам. І... загад з Гродзенскага абкама — зняць. Я, зразумела, не зрабіў гэтага, проста, забыўся. Вельмі хочацца сустрэцца, пагутарыць.

Усяго найлепшага ад нас усіх Уладзімір Урбановіч.

Валеўка, 29 снежня 1978 года

Дарагія Марыя Міхайлаўна і Аляксей Міхайлавіч!

Прашу прабачэння, што не паведаміў аб тым, што атрымаў Bergman[26]. Перачытаў з вялікай цікавасцю і карысцю. Вінават, што не адказаў на паштоўку. Не буду апраўдвацца — разумею, што гэта бестактна. Даруйце.

Шчыра віншуем Вас з наступаючым Новым годам... Каб ён быў бясхмарным і шчодрым ва ўсіх адносінах: на здароўе, радасць, творчыя поспехі і сапраўднае сяброўства, якога нам так часта не хапае.

Павіншуйце ад нас Марыну, калі ў яе ўсё добра, то мы шчыра цешымся і ад душы жадаем ёй шчасця.

Уладзімір Урбановіч.

Валеўка, 4 красавіка 1979 года

Добры дзень, дарагі Аляксей Міхайлавіч!

Кнігу перачытаў два разы з вялікай цікавасцю і яшчэ з большай карысцю. Як многа мы яшчэ не ведаем пра вялікіх людзей.

Прашу прабачэння, што шлю яе з так вялікім спазненнем: чыталі і іншыя людзі, і ўсё спадзяваўся наведацца ў Гродна і перадаць асабіста. Але абставіны складваюцца так, што зрабіць гэтага хутка не змагу. Вясна, агароды, экзамены — так што не да раз’ездаў.

У мяне без асаблівых змен. Далейшае „прозебание”. Праўда, за год выступіў адзін раз у „Народном образовании”[27], у нейкім зборніку,

[24] Маецца на ўвазе беларускі тыднёвік „Літаратура і мастацтва”.

[25] Аляксей Карпюк (1920-1992) — беларускі пісьменнік і грамадскі дзеяч.

[26] Аляксандра Бергман (1906-2005) — беларускі і польскі гісторык. Маецца на ўвазе яе кніжка „Rzecz o Bronisławie Taraszkiewiczu”, выдадзеная ў Варшаве ў 1977 г.

[27] „Народное образование” — расійскі педагагічны часопіс.

які выпусціла нашае МА БССР і ездзіў на першую рэспубліканскую канферэнцыю па ахове прыроды ў Віцебск. Але ўсё гэта між іншым...

З кніг, калі ж лічыць адной, нічога цікавага не дастаў. А вось адна — гэта сапраўдны „белы крук”. Кніга царкоўная, старажытная. Друк у форме скарынінскага, застаўкі, арыгінальныя буквіцы. Сабраны ўсе малітвы на Октябрь месяц, на кожны дзень. Мяркую, што кніга надрукавана недзе на Гродзеншчыне, не пазней XVII стагоддзя. У графіцы няма імён Пятроўскай рэформы. Першых 16 старонак няма, але захаваўся апошні ліст з выпраўленымі памылкамі і недакладнасцямі тэкста. Цікава, што слова „царю” усюды выпраўлена на слова „император”.

Летам сабіраюся з’ездзіць да аднаго магістра багаслоўя і спадзяюся, што ён дапаможа ўсё выясніць. А, вось яшчэ што, дастаў 22 тамы энцыклапедыі Эфрона і Брокгаўза.

Часамі хвараю, а так усё ідзе па нахіленай, усё бліжэй і бліжэй да вечнага акіяну.

З сардэчным прывітаннем Уладзімір Урбановіч.

Валеўка, 24 снежня 1981 года

Дарагі Аляксей Міхайлавіч!

Чамусьці на памяць усплылі словы Янкі Купалы[28]:

Адзін, адзін раз толькі ў год
Збірацца можам з ласкі року,
Каб год іржавы карагод
Зганяць з мінуўшчыны далёкай ...

Так і мы часам успамінаем знаёмых, жадаем ім дабра і шчасця. Але і гэта добра.

Вам, Вашай сям’і шчасця і радасці ад працы, ад дзяцей, ад унукаў, не ведаць адзіноты ў Новым 1982 годзе.

Шчыра Вашы Урбановічы.

Валеўка, 2 мая 1983 года

Дарагі Аляксей Міхайлавіч!

Шчыра дзякую за Першамайскія пажаданні. Май — гэта вясна і радасць. Але ў маім жыцці яе ўсё менш і менш. З кожным годам мацней адчуваецца старасць, часта сэрца сваволіць, але, мабыць, самае страшнае, што за два гады пенсіённага часу не магу ўжыцца ў амплуа пенсіянера. Крыху працую. Паверце — не для грошай.

[28] Янка Купала (1882-1942) — класік беларускай літаратуры.

Часамі даходзяць да нас слухі пра Вашу ўстанову, пра рэформы, новых людзей, новыя патрабаванні. Ну, што ж, палякі кажуць: „Czas robi swoje”. Усё трэба перажыць. Ах, як многа прыходзіцца асвоіць новых рэформ, новых патрабаванняў, якія часта нічога не ўносяць у нашае жыццё.

Літаратурны музей ліквідавалі[29]. Гэта і пабудзіла мяне напісаць Вам. Праўда, сабіраюцца яго рэканструіраваць, аднавіць. У першым томе энцыклапедыі нататка будзе. Гэта, здаецца, і падсцёгвае наша новае начальства аднавіць экспазіцыю.

Вельмі буду ўдзячны Вам, калі напішаце мне, калі было створана Гродзенскае аддзяленне Саюза пісьменнікаў, хто ім кіраваў, быў членамі, як яно развівалася і г.д. Адным словам — яго гісторыю. Мне здаецца, што ўсё гэта будзе не лішнім у нашай экспазіцыі.

У мяне вельмі туманнае ўяўленне пра гісторыю Вашага аддзялення за апошнія гады: новыя члены, іх творы, перспектыўная моладзь. Буду вельмі ўдзячны за фатаграфіі, кнігі, аўтографы. Не ведаю, як лічыць Дуксу? Не маем ні адной кніжкі з аўтографам Д. Бічэль. Вельмі выгараў аўтограф Карпюка, ды і Вашая фатаграфія нам бы прыгадзілася. Як лічыць Бандарыну[30]? Мастацкі фонд БССР прапануе адкрыць маленькую карцінную галерэю, просіць толькі назваць мастакоў. Зразумела, нашых гродзенцаў. Калі можаце, падскажыце. Навагрудчан ведаю. Нічога не магу знайсці Хэлмінскага[31], які большую частку свайго жыцця пражыў у нас.

Вельмі прашу Вас, калі зможаце, дапамажыце нам.

Шчырае прывітанне Вам і Вашай сям’і шле У. А. Урбановіч.

18 красавіка 1986 года

Дарагі Аляксей Міхайлавіч!

Пасылаю патрэбную Вам кнігу. Яна крыху пашкоджана часам, без канкрэтных выхадных дадзеных. Але асноўны змест не пашкоджаны.

У мяне асаблівых змен няма, калі не лічыць, што з кожным годам усё больш сваволіць сэрца. Працую, вяду 6 гадзін. Закончылі музей. Знешне ўсё больш пышна, больш красна, па зместу намнога бядней. У жніўні месяцы пашкодзіў левую нагу. Ляжаў каля месяца ў больніцы,

[29] Маецца на ўвазе школьны краязнаўчы музей Валеўскай сярэдняй школы Навагрудскага раёна.

[30] Зінаіда Бандарына (1909-1959) — беларуская пісьменніца.

[31] Ян Хэльмінскі (1851-1925) — мастак.

лячыўся ў Друскеніках. Але вынік не радуе. Хадзіць балюча. Буду кідаць работу.

Адносна Міцкевіча. Зрабіў некалькі раздзелаў:

Адкуль род А. Міцкевіча.

Бацькі паэта.

Калі і дзе нарадзіўся паэт.

Школьныя гады.

А. Міцкевіч і Марыля[32].

Сабраў многа матэрыялаў па тэме „Навагрудчына і беларускі фальклор у творчасці Адама Міцкевіча". Работу нікому не паказваў, хаця летам мінулага года сустракаўся з Янкам Брылём[33], Уладзімірам Калеснікам[34], Кастусём Цвіркам[35]. Не пісаў нікуды і пра выданне.

У школе адносіны з начальствам больш чым дрэнныя. Адзіная падтрымка — калектыў, хаця і за мяне, але адкрыта сказаць пра гэта не можа. З боку адміністрацыі паследуюць санкцыі як эканамічныя, так і іншага парадку. Прыходзіцца жыць „na marginesie", за жалезным занавесам. Што ж — усё трэба пераважыць.

Ганна[36] працуе. Ёй яшчэ засталося 6 год.

Сардэчнае прывітанне ў сіле.

Уладзімір Урбановіч.

Летцы, 9 снежня 1989 года

Дарагі Аляксей Міхайлавіч!

Шчыра віншуем Вас усіх з наступаючымі Калядамі і Новым годам. Здароўя Вам, поспехаў, шчасця і радасці, мужнасці ў барацьбе за ўсё роднае, не адступаць з барыкад Адраджэння.

Каб усе Вы не ведалі нягод і гора, нядобрых людзей і слёз, каб край наш ізноў зазвінеў напевам родных песень.

Ад душы Ганна і Уладзімір Урбановічы.

Валеўка, 19 снежня 1991 года

Дарагі Аляксей Міхайлавіч!

Шчыра Вам і Вашай сям'і жадаем правесці Каляды і весела сустрэць Новы год. Яшчэ больш рады за званне „прафесар". Ад душы віншуем

32 Маецца на ўвазе Марыля Верашчака (1799-1851) — каханая Адама Міцкевіча.

33 Янка Брыль (1917-2006) — народны пісьменнік Беларусі.

34 Уладзімір Калеснік (1922-1994) — беларускі літаратуразнавец і педагог.

35 Кастусь Цвірка (1934) — беларускі пісьменнік.

36 Ганна Урбановіч (1937-2009) — жонка Уладзіміра Урбановіча.

— Вы гэта заслужылі, не толькі шматгадовай працай, але і верай у перамогу беларускіх незалежных ідэалаў. Вам і Марыі, дзецям і ўнукам — здароўя, поспехаў, радасці і шчасця заўсёды, любячыя Вас, жадаюць Ганна і Уладзімір.

Валеўка, 17 снежня 1992 года

Дарагі Лёша, Аляксей Міхайлавіч!

У мяне не было так блізкага і дарагога чалавека, адданага таму, за што я і памру. Здароўя, шчасця, поспехаў Вам ад душы жадаюць Ганна і Уладзімір.

Валеўка, 20 снежня 1993 года

Дарагія Марыя і Аляксей!

Віншуем усю Вашу сям’ю з наступаючымі Калядамі і Новым годам. Шчыра жадаем добрага здароўя, творчых поспехаў, шчасця і радасці, каб у нашай хаце запанавала сапраўдная радасць і свабода, а ў Вашай хаце не ведалі ні гора, ні слёз, каб яна напоўнілася добрымі людзьмі і весялосцю ўнукаў і бесклапотным дабрабытам.

P.S. Фатаграфіі знайшоў у матэрыялах музея. Зрабіў іх А.Пераход[37] па маёй просьбе ў 1980 годзе.

Ганна і Уладзімір.

Валеўка, 20 красавіка 1994 года

Паважаны Дружа!

Ліст атрымаў, за што і дзякую. У маім захалусным жыцці — і гэта радасць..., што мяне яшчэ нехта помніць, што і я чалавек, хаця і пенсіянер.

Здаецца, асноўны матыў Вашага ліста быў у тым, што Саламон Маймон[38] нарадзіўся не ў Жуковым Барку, а ў Суковым Бары, і як доказ спасылка на саліднае ізраільскае энцыклапедычнае выданне. Кніга С. Маймона была напісана па-нямецку. Не ведаю, ці ёсць у гэтай мове наш гук „ж”, як ён фіксуецца нямецкай графікай? Жуковы Барок, сапраўды, недалёка Міра, але з 1939 года гэта ўжо Стаўбцоўскі раён Мінскай вобласці. І тут жа ў Нёман упадае рэчка Ячонка — усё гэта Саламон Маймон апісвае ў сваёй аўтабіяграфічнай кнізе. Гэту вёсачку і прыстань на Нёмане арэндавалі яго дзед, пазней бацька, а пасля Ул. Сыракомля[39]. Ды і логіка падказвае, што суковымі бываюць толькі адзінокія, палявыя

37 Аркадзь Пераход (1923-2009) — беларускі фотакарэспандэнт.

38 Саламон Маймон (1753-1800) — нямецкі філосаф яўрэйскага паходжання.

39 Уладзіслаў Сыракомля (Людвік Кандратовіч, 1823-1862) — беларускі і польскі пісьменнік.

сосны. Гэтае ж „ж" перайшло ў „с" з-за няўважлівасці перакладчыкаў і рэдактараў. А вёсачка, як некалі так і цяпер называецца Жуковым Барком. Між іншым, я там быў. Прашу не ставіць пытанне аб унясенні паправак у мой артыкул. Даю Вам магчымасць на той жыдоўска ... нейкай канферэнцыі ўнесці папраўку ў іх энцыклапедыю. Раіў бы звярнуць увагу і на творчасць Мендэле Мойхер-Сфорыма[40].

А цяпер крыху пра сябе. Я глыбока паражыў смерць Рамана Лецкі[41] і Генадзя Каханоўскага[42]. Яшчэ летам -93 Генадзь з супрацоўнікамі АН, СП і некалькімі мастакамі былі ў мяне, амаль дзень правялі на Свіцязі, купаліся, смяяліся, так сказаць, бесклапотна адпачывалі. І раптам — гэты страшны некралог. Гэта быў патрэбны чалавек, які хацеў і мог многа зрабіць для нашага народа, каб ён помніў сваё мінулае, каб ён пачаў называць сябе беларускім. Хай яму будзе пухам зямля, якую ён так любіў. Я яго не забуду.

А так настрой: „Паскудства, брат, і не пытайся". Гляджу на ўсё і бачу той жа камуністычны лад, бачу, як яны (камуністы) адзін аднаго абараняюць, падтрымліваюць матэрыяльна і ў выбарныя органы, як і некалі накіроўваюць каго хочуць. Да канца стагоддзя мы не збавімся ад гэтай пошасці, ды і іх адродкі яшчэ доўга будуць забруджваць наш побыт марксісцкім смуродам.

А я ўсё ляжу ў гэтым апошнім акопе, які абараняе беларускасць ад русіфікацыі і паланізацыі. Сардэчнае прывітанне Марыі, дачцы і Вам шле Урбановіч.

21 снежня 1998 года

Дарагі Аляксей Міхайлавіч!

Усёй Вашай сям'і ад усяго сэрца жадаем весела правесці Каляды і сустрэць Новы год. Як заўсёды — добрага здароўя, поспехаў і здзяйсненняў, радасці за дзяцей і ўнукаў. Каб Вашу хату абміналі хваробы і дрэнныя людзі, гора і слёзы, каб не зачохла вера, што загляне сонца і ў наша ваконца.

Я і Ганніная маці (94 гады) „дыхаем на ладан" — Ганна праветрывае хату.

Пра многае трэба сказаць, але я вельмі дрэнна ўжо бачу. Нават днём — патрэбна электрычнасць. Яшчэ раз шлем шчырыя пажаданні.

Ганна і Уладзімір.

40 Мендэле Мойхер-Сфорым (1836-1917) — яўрэйскі пісьменнік.
41 Раман Лецка (1912-1993) — беларускі калекцыянер, мастак, краязнавец.
42 Генадзь Каханоўскі (1936-1994) — беларускі гісторык, краязнавец, літаратуразнавец, фалькларыст.

**_Улада і грамадства БССР у 1929-1939 гг. у дакументах Сакрэтнага аддзела / Асобага сектара ЦК КП(б)Б,_ складальнік, аўтар прадмовы І. Раманава, Б.м.: Логвінаў, 2019, 1120 с.**

У сучасным грамадстве і навуковым асяроддзі Беларусі можна сустрэць розныя ацэнкі савецкага мінулага — ад узнёслых да крайне негатыўных. На афіцыйным узроўні беларускія ўлады падкрэсліваюць пераемнасць БССР і Рэспублікі Беларусь і робяць акцэнт на станоўчых з'явах XX стагоддзя — мадэрнізацыі грамадства і эканомікі, перамозе ў Вялікай айчыннай вайне, сацыяльных дасягненнях і г.д. Гістарычная навука таксама прызнае гэтыя факты, але зазначае, што метады дасягнення „сацыялістычнага дабрабыту" былі далёкімі ад дэмакратычных. Пра гэта сведчыць вялікая колькасць навуковых прац, якія з'явіліся ў апошнія дзесяцігоддзі на постсавецкай прасторы. У іх закранаюцца розныя аспекты сацыялістычнай рэчаіснасці: паўсядзённае жыццё, асаблівасці функцыянавання інстытуту цэнзуры і прапаганды, узаемаадносіны ўлады і творчай інтэлігенцыі, успрыманне грамадствам сацыялістычных пераўтварэнняў і шмат іншага.

У Беларусі згаданыя праблемы таксама разглядаюцца спецыялістамі, але гаварыць пра бум публікацый, на жаль, не даводзіцца. І ў гэтай сітуацыі выдадзены Ірынай Раманавай зборнік дакументаў аб узаемаадносінах улады і грамадства БССР у 1929-1939 гг. уяўляецца значнай падзеяй у развіцці беларускай гістарычнай навукі. Яго матэрыялы дазваляюць прааналізаваць адзін са складаных перыядаў у гісторыі Беларусі, даюць магчымасць акрэсліць новыя і дэталізаваць ужо вядомыя навуковыя праблемы, паказаць разнастайнасць савецкай рэчаіснасці для розных катэгорый і груп насельніцтва.

Зборнік складаецца з прадмовы, шасці раздзелаў, спісу скарачэнняў, імяннога ўказальніка, зместу, у якім прадстаўлены пералік дакументаў у раздзелах. Усяго выданне змяшчае 803 дакументы з Сакрэтнага аддзела / Асобага сектара ЦК КП(б)Б за 1929-1939 гг., якія захоўваюцца ў фондзе 4-п (вопіс № 21) Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь.

У прадмове Ірына Раманава характарызуе гэты фонд і адзначае асаблівасці яго камплектавання, прадстаўляе дакументы, якія там захоўваюцца, і тыя з іх, што ўвайшлі ў выданне. Яна падкрэслівае, што некаторыя матэрыялы ўжо былі ўведзены ў навуковы зварот, але іх недастаткова, каб паказаць і ацаніць усю палітру падзей у БССР пад час „сталінскай рэвалюцыі зверху". У прадмове сцісла акрэсліваюцца навуковыя праблемы з адсылкай да дакументаў выдання, зазначаюцца

асаблівасці археаграфічнага апісання і метадалагічныя падыходы, выкарыстаныя пры падрыхтоўцы крыніц да публікацыі.

Канцэптуальна матэрыялы зборніка адлюстроўваюць таталітарны характар савецкай дзяржавы, пра што, праўда, І. Раманава ў прадмове не піша. Пра гэта сведчаць самі крыніцы. У гэтай сувязі хтосьці зверне ўвагу на тое, што ў выданні няма ці свядома апушчаны фрагменты дакументаў, дзе адлюстроўваецца паўсядзённая дзейнасць калгасаў, мала поспехаў і дасягненняў у справе пабудовы сацыялістычнага грамадства, а таму зробіць выснову аб перадузятасці складальніцы зборніка. Іншыя наадварот зробяць акцэнт на адмоўных баках савецкай рэчаіснасці і склаўшайся палітычнай сістэмы, бо дакументы даюць шмат прыкладаў і аргументаў на карысць тэзіса аб злачынным характары савецкай улады. Аднак пры ўважлівым чытанні і аналізе крыніц становіцца зразумелым, што І. Раманава перш за ўсё імкнулася паказаць шматграннасць і складанасць жыцця савецкага чалавека і грамадства ў цэлым.

Дакументы адлюстроўваюць разнастайныя пазіцыі як людзей з сістэмы, так і тых, хто быў па-за ёй, паказваюць уплыў адукацыйных, светапоглядных, культурных і іншых фактараў на ацэнку падзей з боку партыйных функцыянераў, фіксуюць рэакцыю розных слаёў насельніцтва на сітуацыю ў краіне, праліваюць святло на палітычную культуру ў цэлым. Яны дазваляюць прасачыць фарміраванне лініі партыі і змены ў ёй, рэакцыю розных сацыяльных груп на ключавыя падзеі ў БССР / СССР у 1929-1939 гг.

Ірына Раманава выдзеліла шэсць праблемных блокаў у дакументах Сакрэтнага Аддзела / Асобага аддзела ЦК КП(б)Б, якія прадставіла ў выданні наступным чынам: „Вёска: супрацьстаянне ўлады і сялянства”, „Горад: структурызацыя і рэгламентацыя жыцця гараджан”, „Нацыянальныя меншасці і ўлада”, „Рэлігія: вернікі і ўлада”, „Улада і культура”, „Рэпрэсіі: ад адрасных да масавых”.

Дакументы раздзела „Вёска: супрацьстаянне ўлады і сялянства” перш за ўсё адлюстроўваюць становішча сялян у краіне, эканамічныя, сацыяльныя, паўсядзённыя аспекты іх жыцця, гарызантальныя і вертыкальныя грамадскія сувязі, міжнацыянальныя адносіны, ступень успрымання прапагандысцкіх лозунгаў і бачанне рэальнай сітуацыі сялянамі. У апошнім выпадку звяртаюць на сябе ўвагу моцныя антысавецкія настроі ў вёсцы. Супраціўленне сялян сістэме мела розныя праявы: скаргі, падпалы, забойствы актывістаў, масавыя выхады з калгасаў, уцёкі ў горад, самавольныя перасяленні, кантрабанда, самазабойства і інш. Улады ў гэтых абставінах спалучалі прапагандысцкія і рэпрэсіўныя меры для падаўлення супраціву, выхавання новага

грамадства і савецкага чалавека. Дакументы адлюстроўваюць свядомасць чыноўнікаў розных узроўняў, якія замест выяўлення аб'ектыўных прычын праблем і цяжкасцей шукаюць суб'ектыўныя прычыны, вінаватых у недахопах і правалах, і адпаведна выкарыстоўваюць як адміністрацыйны, так і эканамічны ціск на сялян: забарону на пастаўку тавараў у мясцовасці, дзе не выканалі план нарыхтовак сельскагаспадарчай прадукцыі, спыненне кааператыўнага і дзяржаўнага гандлю, крэдытавання, высяленне пэўных груп грамадзян і інш. Матэрыялы зборніка сведчаць пра метадычную працу савецкай улады па вынішчэнні ў людзей пачуцця ўласніка.

У разглядаемы перыяд у беларускіх гарадах назіраліся сур'ёзныя эканамічныя і сацыяльныя праблемы, пра што сведчаць дакументы раздзела „Горад: структурызацыя і рэгламентацыя жыцця гараджан". Яны адлюстроўваюць ступень забяспечанасці гарадскога насельніцтва прадуктамі харчавання і прамысловымі таварамі, нормы іх размеркавання сярод розных катэгорый гараджан, міжнацыянальныя адносіны і рост антысеміцкіх настрояў і інш. Тут жа прадстаўлены матэрыялы, якія раскрываюць дзейнасць апарату прапаганды, у тым ліку ў справе арганізацыі стаханаўскага руху, барацьбы з „падпольнымі фашысцкімі арганізацыямі" і да т.п.

Трэці тэматычны блок зборніка прысвечаны нацыянальным меншасцям. Яго матэрыялы адлюстроўваюць асаблівасці становішча і жыцця яўрэяў, палякаў, латышоў, літоўцаў, немцаў, цыган у БССР. Заўважым, што некаторыя сюжэты, звязаныя з імі, сустракаюцца і ў іншых раздзелах кнігі, што дазваляе лепш зразумець сутнасць нацыянальный палітыкі беларускіх улад, напрыклад, у пытанні школьнай адукацыі на мовах нацыянальных меншасцей, ахарактарызаваць настроі насельніцтва, у тым ліку яго рэакцыю на правядзенне атэістычнай кампаніі, стварэнне калгасаў. Дакументы адлюстроўваюць барацьбу кіраўніцтва краіны і мясцовай адміністрацыі з беларускай мовай, беларускімі нацыянал-дэмакратамі, расійскім шавінізмам, прапольскімі контррэвалюцыйнымі і шпіёнскімі арганізацыямі і інш.

Праблема ўзаемаадносін грамадства і ўлады ў рэлігійным пытанні прадстаўлена як шматузроўневая. Дакументы дапамагаюць прааналізаваць рэлігійную палітыку савецкіх улад і рэакцыю на яе насельніцтва, ахарактарызаваць матэрыяльнае становішча святарства і высвятліць асаблівасці іх падаткаабкладання, зразумець ступень рэлігійнасці розных катэгорый насельніцтва. У зборніку прыводзяцца звесткі аб пратэстах супраць закрыцця храмаў, адмова веруючых прымаць удзел ва ўсесаюзным перапісе насельніцтва і інш.

У раздзеле „Улада і культура” асноўны матэрыял датычыцца рэпрэсій у дачыненні дзеячаў навукі і культуры. Гэта чысткі навуковых установ ад „сацыяльна чужых і варожых элементаў”, справа беларускіх нацдэмаў, знішчэнне згадак пра „ворагаў народа” ў літаратуры, фотаматэрыялах, фондах бібліятэк. Спецыялісты знойдуць у гэтай частцы зборніка звесткі аб матэрыяльным становішчы настаўнікаў, пісьменнікаў, навукоўцаў, характарыстыку сітуацыі ў навуковых і адукацыйных установах (Інстытут мовазнаўства і Інстытут гісторыі Беларускай акадэміі навук, Вышэйшы педагагічны інстытут, Горацкі сельскагаспадарчы інстытут, Польскі педагагічны тэхнікум і інш.), апісанне настрояў школьнікаў і студэнтаў і інш. Становішча нацыянальнай культуры ў сярэдзіне — другой палове 1930-х гг. адлюстроўвае аналіз Міхасём Лыньковым стану беларускай літаратурнай арганізацыі (1933), дакладная запіска Панцеляймона Панамарэнкі да Іосіфа Сталіна „Аб беларускай мове, літаратуры і пісьменніках” (1938) і іншыя дакументы.

Пратаколы допытаў, змест і мова лістоў у ЦК КП(б)Б са зняволення сведчаць аб паламаным сістэмай лёсе чалавека. У іх дзеячы навукі і культуры стараюцца апраўдацца, перакласці віну і адказнасць на сваіх калег, выратаваць сябе і сваіх блізкіх нават коштам невінаватых людзей.

Дадатковы крыніцазнаўчы аспект змешчаных у выданні лістоў — выкарыстанне мовы прапаганды і партыі (так званай „новамовы”) у аналізе цякучай сітуацыі ў навуковых, культурных, адукацыйных установах, спробах даказаць сваю невінаватасць ці падкрэсліць, што падчас зняволення адбылося перавыхаванне і пераасэнсаванне ранейшых учынкаў. На іх фоне зусім інакш выглядаюць лісты ў цэнтральныя і рэспубліканскія газеты. Іх аўтары звяртаюць увагу на тое, што рэальнае жыццё ў краіне істотным чынам адрозніваецца ад таго вобраза, які малюе прапаганда.

Завяршае выданне раздзел, прысвечаны рэпрэсіям. У ім прадстаўлены не толькі пратаколы допытаў і паказанні арыштаваных. Сабраныя І. Раманавай дакументы паказваюць ступень антысавецкіх настрояў у грамадстве, розныя формы рэпрэсій, нечалавечыя катаванні і выбіванне паказанняў, пошук як знешніх, так і ўнутраных ворагаў, атмасферу падазронасці, настроі ў грамадстве ў цэлым. Прадстаўлены тут матэрыял дапаўняе папярэднія тэматычныя блокі і робіць уяўленне пра жыццё ў БССР / СССР у 1930-я гады больш поўным.

Падсумоўваючы, зазначым, што дакументы зборніка адлюстроўваюць пераважна нізкі ўзровень адукацыі, прафесійнай падрыхтоўкі і маральных якасцей уладнай вертыкалі, сведчаць, што галоўным крытэрыем ацэнкі якасці чалавека выступала яго палітычная адданасць УКП(б) і яе вучэнню, а не прафесійны досвед ці высокія маральныя якасці. З крыніц

вынікае разуменне таго, што савецкі чалавек фактычна станавіўся закладнікам сістэмы і быў вымушаны шукаць ворагаў усюды, нават у бліжэйшым асяроддзі. Гэта было выклікана, з аднаго боку, патрабаваннямі зверху, а з другога — перагібамі, без якіх немагчыма было выканаць гэтыя патрабаванні. Пры гэтым, як вынікае з дакументаў, большасць партыйна-дзяржаўных дзеячаў была ідэйнай. Для такіх людзей пагрозы і запалохванні з'яўляліся найбольш дзейсным сродкам рэалізацыі высокіх лозунгаў пра пабудову светлай будучыні.

Аднак нават адданасць УКП(б) / КП(б)Б і дзяржаве не выратоўвала ў выпадках, калі сістэма шукала і „выкрывала" непасрэдных ці патэнцыйных ворагаў. Ад яе рэпрэсіўных жорнаў ніхто не мог уратавацца: ні партыйны функцыянер, ні супрацоўнік НКУС, ні просты чалавек. У таталітарным грамадстве чалавек быў толькі шрубкай, на якую да пэўнага часу не звярталі ўвагі. Такім чынам адбывалася фактычнае вынішчэнне высокіх маральных якасцей людзей, для якіх галоўнай мэтай станавілася выжыванне, нягледзячы ні на што, у страшных умовах. І тут у ход ішлі даносы, звальненні „класава чужых і антысавецкіх элементаў", іх высяленне, фактычнае давядзенне да самагубства (як па прычыне цкавання, так і па прычыне таго, што не было магчымасці пракарміць сям'ю), забойствы і інш. Дакументы паказваюць, што такая абстаноўка спрыяла фарміраванню і пашырэнню антысавецкіх настрояў у грамадстве. Аднак сам факт іх існавання не дазваляе патлумачыць і абгрунтаваць той вялікі маштаб рэпрэсій, з якім сутыкнуліся савецкія грамадзяне ў 1930-я гады.

Характарызуючы зборнік, зазначым, што прыведзеныя ў ім дакументы адлюстроўваюць і іншы аспект сацыялістычнай рэчаіснасці — уздзеянне прапаганды на свядомасць розных груп насельніцтва. Яно было настолькі моцным, што нават трапіўшы ў жорнавы рэпрэсій частка людзей працягвала верыць у добрага Сталіна і прызнаваць сваю „віну".

Высока ацэньваючы праведзеную І. Раманавай працу па выяўленні і навуковай апрацоўцы дакументаў, зазначым, што выданню відавочна не хапае біяграфічных даведак і навуковых каментарыяў да крыніц. Тым не менш, ужо зараз можна канстатаваць, што разглядаемы зборнік стаў важнай з'явай у беларускім крыніцазнаўстве і гістарыяграфіі. Выдадзеныя І. Раманавай дакументы несумненна падштурхнуць як беларускіх, так і замежных гісторыкаў да новых навуковых даследаванняў і аб'ектыўных высноў па гісторыі сацыялістычнага мінулага Беларусі.

**Любоў Козік**
(Гродна)

# In memoriam



## Уладзімір Ляхоўскі (1964-2021)

Вельмі сумна і крыўдна, калі заўчасна адыходзяць у Вечнасць людзі. Аднак асабліва балюча і цяжка на душы робіцца тады, калі нас пакідаюць таленавітыя і бязмежна адданыя сваёй справе асобы. Бясспрэчна, да ліку апошніх якраз належаў Уладзімір Ляхоўскі, сэрца Якога раптоўна перастала біцца 6 верасня 2021 года.

Уладзімір Ляхоўскі нарадзіўся 5 лютага 1964 года ў Менску. Продкі гісторыка мелі шляхецкае паходжанне і паходзілі з вёскі Прысынак на Уздзеншчыне. У 1930-я гады Яго бацькі сталі ахвярамі сталінскай калектывізацыі. Сям’я была дэпартавана ў Котлас на поўначы Расіі (Архангельская вобласць). Бацька будучага гісторыка падчас вайны быў мабілізаваны ў войска, але потым здолеў вярнуцца на радзіму і пасяліцца ў Менску, куды пазней прыехала таксама маці. Паводле слоў самога Уладзіміра, бацькі працяглы час хавалі перад дзецьмі сваё трагічнае мінулае, а праўда пра яе зрабіла на юнаку вялікае ўражанне, паўплываўшы на далейшы жыццёвы выбар. Даведаўшыся аб гэтым трагічным эпізодзе сямейнай гісторыі, Ён нават адмовіўся ўступаць у партыю, нягледзячы на тое, што перад гэтым адбыў гадавы кандыдацкі стаж. Як малады чалавек яшчэ напрыканцы 1980-х гадоў Ён далучыўся да беларускага адраджэнскага руху. Разам з гэтым прыйшло захапленне гісторыяй сваёй айчыны. У 1993 годзе Уладзімір Ляхоўскі завочна скончыў Гістарычны факультэт БДУ,

адну з найлепшых кузняў гістарычных кадраў у Беларусі. З 1993 года Ён працаваў рэдактарам выдавецтва „Беларуская Энцыклапедыя”, а з 1995 года быў супрацоўнікам часопіса „Спадчына”. З 1998 года з'яўляўся навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Пачынаючы з 2002 года Ён спалучаў гэтую пасаду з працай у Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь. Пазней распачаў працу ў якасці дацэнта Факультэта міжнародных адносін БДУ. У гэты час напоўніцу разгарнуўся Яго навукова-даследчыцкі талент. Ён шмат друкаваўся на старонках айчынных і замежных навуковых перыядычных выданняў, у тым ліку „Спадчыны”, „Беларускага гістарычнага часопіса”, „Беларускіх гістарычных сшыткаў”, „Архэ” і іншых. 12 кастрычніка 2007 года ў Інстытуце гісторыі НАН Беларусі Уладзімір Ляхоўскі абараніў кандыдацкую дысертацыю па піянерскай тэме „Адукацыя на акупаваных Германіяй беларускіх землях у гады Першай сусветнай вайны (1915-1918)”. Руплівая праца не засталася незаўважанай у навуковых і культурных колах. Спадар Уладзімір быў адным з лаўрэатаў прэстыжнай польскай прэміі імя Льва Сапегі (2010), а ў 2013 годзе атрымаў ад Беларускага ПЭН-Цэнтра медаль Францішка Багушэвіча. Апрача таго, Ён з'яўляўся ганаровым сябрам Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі.

Кажучы пра Уладзіміра Ляхоўскага як пра навукоўца, неабходна падкрэсліць, што даследаванне гісторыі Бацькаўшчыны было для Яго не толькі творчай працай, але і жыццёвым прызначэннем. Мала які даследчык мог пахваліцца такімі грунтоўнымі ведамі і працавітасцю, як Ён. Яго навуковыя зацікаўленні ахаплівалі розныя перыяды і аспекты. Аднак перш за ўсё Ён даследаваў гісторыю беларускага нацыянальнага Адраджэння першай паловы XX стагоддзя. Па праве Яго можна лічыць летапісцам беларускага нацыянальна-вызвольнага руху. Спадар Уладзімір вядомы як аўтар шматлікіх піянерскіх прац, прысвечаных гісторыі Беларускай Народнай Рэспублікі, беларускага школьніцтва ў гады Першай сусветнай вайны і ў міжваенны перыяд, а таксама беларускага маладзёвага руху і незалежніцкай эміграцыі. Апрача таго апошнім часам Яго пяру належалі публікацыі па тэме нацыянальнай сімволікі. Найбольш вядомымі працамі даследчыка з'яўляюцца манаграфіі *Школьная адукацыя ў Беларусі падчас нямецкай акупацыі (1915-1918)* (Вільня — Беласток 2010) і *Ад гоманаўцаў да гайсакоў. Чыннасць беларускіх маладзёвых арганізацый у 2-й палове XIX — 1-й палове XX ст. (да 1939 г.)* (Беласток — Вільня 2012), а таксама падрыхтаваны супольна з іншымі навукоўцамі зборнік *Слуцкі збройны чын у дакумэнтах і ўспамінах* (Менск 2006). Аднак гэта толькі верхавіна айсберга навуковага даробку гісторыка, які складаецца з соцень

іншых не менш цікавых і змястоўных публікацый. Усе працы Нябожчыка адзначаюцца надзвычайнай навуковай навізной, глыбінёй аналізу і грунтоўнасцю. Без перабольшвання належыць адзначыць, што Яго публікацыі з'яўляюцца на вагу золата для сучаснай беларускай гістарычнай навукі. Гэта прызнавалі ўсе, нават тыя, хто не падзяляў Яго перакананняў і думак. Гісторык увёў у навуковы зварот безліч раней невядомых фактаў і крыніц. Дзякуючы даследчыку з нябыту вярнуліся імёны многіх дзеячаў беларускага нацыянальнага руху, якія раней былі няслушна забыты. Спадар Уладзімір быў сапраўдным увасабленнем даследчыцкай аб'ектыўнасці і шляхетнасці, а таксама паслядоўнасці ў сваіх навуковых поглядах. Нягледзячы на складаны час і вонкавыя абставіны, Ён непахісна працягваў быць адданым сваім каштоўнасцям як гісторык і грамадзянін.

З упэўненасцю можна сказаць, што Яго працы назаўсёды ўвайшлі ў канон беларускай гістарычнай навукі як абавязковыя для тых, хто будзе займацца даследаваннем беларускага нацыянальнага руху. Яны будуць своеасаблівым шляхаводам як для пачынаючых гісторыкаў, так і для тых, хто ўжо працяглы час даследуе беларускае адраджэнне. Як калісьці сам Аўтар, яны будуць творча натхняць іншых і дапамагаць ім у пошуках новых даследчыцкіх напрамкаў. Няма сумневу, што ў асобе Уладзіміра Ляхоўскага гістарычная навука страціла выдатнага навукоўца і гэту страту яшчэ доўга яна не здолее запоўніць.

Напрыканцы хачу дадаць, што Нябожчык быў не толькі выдатным даследчыкам, але таксама вельмі добрым, добразычлівым і адкрытым чалавекам. У маёй памяці Ён застанецца тым, хто заўжды дапамагаў карыснай парадай, ахвотна дзяліўся назапашаным досведам і ведамі. З'яўляўся прыкладам патрыятызму і любові да сваёй Бацькаўшчыны і яе мінулага. Ён валодаў чароўнай і вельмі рэдкай здольнасцю перадаваць сваю станоўчую энергію іншым. Кожная сустрэча і размова з Ім моцна натхняла і давала вялізны імпэт да творчай працы. Зараз з вялікай настальгіяй узгадваю нашы супольныя вандроўкі па архівах і шкадую, што многія планы і задумы так і застануцца нязздейсненымі. Я заўсёды буду вельмі ўдзячны лёсу за тое, што ён даў мне магчымасць асабіста быць знаёмым са спадаром Уладзімірам. Вечная памяць Табе, дарагі сябра і калега!

**Юры Грыбоўскі**

# Księgarnie prowadzące ciągłą sprzedaż publikacji BTH

*Białystok*
AKCENT, ul. Rynek Kościuszki 17

*Warszawa*
Główna Księgarnia Naukowa im. B. Prusa, ul. Krakowskie Przedmieście 7
LIBER, ul. Krakowskie Przedmieście 24
LIBER, ul. Dobra 56/66 (gmach Biblioteki Uniwersyteckiej)

*Poznań*
Poznańska Księgarnia Naukowa „Kapitałka”, ul. Mielżyńskiego 27/29

*Mińsk (Białoruś)*
www.knihi.net; tel. 643 57 33; Кнігі поштай, 220 050 Мінск, п/с 333

# Publikacje Białoruskiego Towarzystwa Historycznego

„Białoruskie Zeszyty Historyczne = Беларускі Гістарычны Зборнік", nr 1-50, Białystok 1994-2016 — red. J. Kalina (nr 1-4), E. Mironowicz (nr 5-50); **nr 1, 2, 3, 13 — sprzedane**; **nr 4-12, 14-53 cena 20 zł + koszt wysyłki**

Wiesław Choruży, *Białoruski drugi obieg w Polsce 1981-1990*, red. E. Mironowicz, Białystok 1994, ss. 148, il. **sprzedana**

Irena Matus, *Wieś Strzelce-Dawidowicze w tradycji historycznej*, red. O. Łatyszonek, Białystok 1994, ss. 234, il. **sprzedana**

o. Grzegorz Sosna, Doroteusz Fionik, *Dzieje Cerkwi w Bielsku Podlaskim*, red. A. Mironowicz, Białystok 1995, ss. 193, il. **sprzedana**

Oleg Łatyszonek, *Białoruskie formacje wojskowe 1917-1923*, Białystok 1995, ss.273, il. **cena 30 zł + koszt wysyłki**

*Białorusini i stosunki polsko-białoruskie na Białostocczyźnie 1944-1956*, tom I: sierpień 1944 — grudzień 1946, część 1: sierpień 1944 — grudzień 1945, opr. S. Iwaniuk, Białystok 1996, ss. 256, **cena 15 zł + koszt wysyłki**; część 2: styczeń — grudzień 1946, Białystok 1998, ss. 233, **cena 15 zł + koszt wysyłki**

Helena Głogowska, *Białoruś 1914-1929. Kultura pod presją polityki*, Białystok 1996, ss. 238, il. **sprzedana**

o. Grzegorz Sosna, Doroteusz Fionik, *Orla na Podlasiu. Dzieje Cerkwi, miasta i okolic*, Bielsk Podlaski — Ryboły — Białystok 1997, ss. 194, il. **sprzedana**

Antoni Mironowicz, *Teodozy Wasilewicz, archimandryta słucki, biskup białoruski*, Białystok 1997, ss. 71 **sprzedana**

*Księga cudów przed ikoną Matki Bożej w Starym Korninie dokonanych*, oprac. A. Mironowicz, Białystok 1997, ss. 201 **sprzedana**

*Pieršy zjezd biełarusaŭ svietu (8-10 lipienia 1993 h., h. Minsk). Materyjały i dakumienty,* układalnik H. Surmač, Minsk, 1997, ss. 335, il. **sprzedana**

Antoni Mironowicz, *Życie monastyczne na Podlasiu*, Białystok 1998, ss. 118 **sprzedana**

Antoni Mironowicz, *Metropolita Józef Nielubowicz Tukalski*, Białystok 1998, ss. 127 **sprzedana**

o. Grzegorz Sosna, Doroteusz Fionik, *Parafia Ryboły*, Bielsk Podlaski — Ryboły — Białystok 1999, ss. 210, il. **cena 20 zł + koszt wysyłki**

Aniela Katkovič, Vieranika Katkovič-Klentak, *Uspaminy*, red. Ł. Hłahoŭskaja, V. Charužy, Biełastok 1999, ss. 142, il. **sprzedana**

Antoni Mironowicz, *Sylwester Kossow, biskup białoruski, metropolita kijowski*, Białystok 1999, ss. 144 **sprzedana**

„Naš Radavod. Kniha 8. Biełarusy i palaki: dyjałoh narodaŭ i kultur. X-XX st.", redaktary: D. Karaŭ, A. Łatyšonak, Hrodna — Biełastok 1999 (2000), ss. 628 **sprzedana**

Eugeniusz Mironowicz, *Polityka narodowościowa PRL*, red. O. Łatyszonek, Białystok 2000, ss. 285 **sprzedana**

Irena Matus, *W Puchłach, Stawku, Trześciance. Z dziejów oświaty ludu białoruskiego na Podlasiu*, red. D. Wysocka, Białystok 2000, ss. 176, il. **sprzedana**

Małgorzata Moroz, *"Krynica". Ideologia i przywódcy białoruskiego katolicyzmu*, red. E. Mironowicz, Białystok 2001, ss. 230 **cena 20 zł + koszt wysyłki**

o. Grzegorz Sosna, Doroteusz Fionik, *Pasynki i okolice*, Bielsk Podlaski — Ryboły — Białystok 2001, ss. 282, il. **sprzedana**

Marjan Pieciukievič, *Kara za słužbu narodu. Abrazki ssylnaha žyćcia*, Biełastok 2001, ss. 200, il. **cena 20 zł + koszt wysyłki**

*Piotr Sierhijewicz 1900-1984. Ze zbiorów prywatnych*, Gdańsk — Sopot — Gdynia 2002, ss. 24, katalog wystawy. **sprzedana**

Jan Tarasiewicz/Jan Tarasievič, *Pieśń miłości. Utwory na fortepian pod redakcją Ihara Ałoŭnikava* / *Piesnia kachannia. Tvory dla fartepijana pad redakcyjaj Ihara Ałoŭnikava,* Minsk — Biełastok 2002, ss. 132 **cena 20 zł + koszt wysyłki**

Antoni Mironowicz, *Józef Bobrykowicz, biskup białoruski*, Białystok 2003, ss. 214 **cena 10 zł + koszt wysyłki**

Mikoła Škialonak, *Biełaruś i susiedzi*, Biełastok 2003, ss. 300 **sprzedana**

Aniela Kotkowicz, Weronika Kotkowicz-Klentak, *Od Budsławia do GU-Łagu*, red. H. Głogowska, W. Choruży, Białystok 2003, ss. 140 **cena 10 zł + koszt wysyłki**

Antoni Mironowicz, *Sylwester Czetwertyński, biskup białoruski*, Białystok 2004, ss. 158 **cena 10 zł + koszt wysyłki**

Cina Kłykoŭskaja, *Sajuz Biełaruskaj Moładzi. Viartańnie z zabyćcia*, Biełastok 2004, ss. 228 **sprzedana**

Marjan Pieciukievič (Marian Pieciukiewicz), *Listy. Listy (1956-1982)*, Biełastok 2005, ss. 156, il. **cena 20 zł + koszt wysyłki**

o. Grzegorz Sosna, Doroteusz Fionik, *Szczyty. Dzieje wsi i parafii*, Bielsk Podlaski — Ryboły — Białystok 2005, ss. 434, **cena 30 zł + koszt wysyłki**

Antoni Mironowicz, *Kościół prawosławny w Polsce*, Białystok 2006, ss. 918 **sprzedana**

Viktor Stachwiuk, *Siva zozula*, Biłostuok 2006, ss. 196, il.
**cena 15 zł + koszt wysyłki**

Antoni Mironowicz, *Serafion Połchowski, władyka białoruski*, Białystok 2007, ss. 166 **cena 10 zł + koszt wysyłki**

Piotr Chomik, *Kupiatycka Ikona Matki Boskiej. Historia i literatura*, Białystok 2008, ss. 128 **cena 15 zł + koszt wysyłki**

Anton Miranovič, *Pravasłaŭnaja Biełaruś*, Biełastok 2009, ss. 352 **sprzedana**

*Wizytacje cerkwi unickich dekanatu nowodworskiego diecezji supraskiej*, opr. P. Borowik i G. Ryżewski, Białystok 2009, ss. 184 **cena 15 zł + koszt wysyłki**

Jazep Najdziuk, *Paznavajma historyju biełaruskaha narodu*, Biełastok — Inaurocłaŭ 2010, ss. 316 **cena 25 zł + koszt wysyłki**.

Siarhiej Dubinski, *Bibliohrafija pa archieolohii Biełarusi i sumiežnych krain (spadčyna archieołaha)*, Biełastok 2010, ss. 338 **sprzedana**

*Urzędowe i gwarowe nazwy miejscowości Białostocczyzny*, opr. M. Kondratiuk, Białystok 2011, ss. 372 **cena 40 zł + koszt wysyłki**

Łarysa Geniusz, *Ptaki bez* gniazd, Białystok 2012, ss. 331 + audiobook: Łarysa Hienijuš, *Ptuški biaz hniozdaŭ* (w języku białoruskim), **cały nakład został rozdany**

Danuta Kuczyńska, *Łuka nad Narwią. Pamięć jest skarbem bezcennym*, Białystok 2013, ss. 72, il. **cena 20 zł + koszt wysyłki**

Barbara Tomczuk, *Białoruskie Towarzystwo Historyczne. XX*, Białystok 2013, ss. 200; książkę można bezpłatnie otrzymać w siedzibie Białoruskiego Towarzystwa Historycznego w Białymstoku (ul. Proletariacka 11)

*Historia Białorusinów Podlasia,* red. S. Iwaniuk, O. Łatyszonek, Białystok 2016, **cena 50 zł + koszt wysyłki**

Michał Sierba*, Radziwiłłowskie dobra Orla (1585-1695),* red. O. Łatyszonek, Białystok 2017, **cena 30 zł + koszt wysyłki**

Tomasz Błaszczak, *Białorusini w Republice Litewskiej,* red. O. Łatyszonek, Białystok 2017, **cena 35 zł + koszt wysyłki**

Tomasz Błaszczak, Iryna Matiash, Dorota Michaluk, *Iwan Kraskowski (1880–1955). W służbie Białorusi i Ukrainy,* Białystok 2019, **cena 35 zł + koszt wysyłki**

**Publikacje, których Białoruskie Towarzystwo Historyczne było współwydawcą**

Krystyna Mazur, Doroteusz Fionik, *Bielsk Podlaski — miasto pogranicza*, Białystok 2003, ss. 144 **sprzedana**

Oleg Łatyszonek, *Od Rusinów Białych do Białorusinów*, Białystok 2006, ss. 388 **sprzedana**

Eugeniusz Mironowicz, *Białorusini i Ukraińcy w polityce obozu piłsudczykowskiego*, Białystok 2007, ss. 296 **sprzedana**

**Publikacje BTH można zamawiać drogą elektroniczną**
kamunikat@kamunikat.org **albo** bzh@neostrada.pl
**lub faksem:** + 48 (85) 744 61 11

## Падпіска на „Białoruskie Zeszyty Historyczne — Беларускі Гістарычны Зборнік”

кошт №№ 3 — 16 / 12 зл./ асобнік
№№ 17 —34 / 15 зл. асобнік
№ 35 і наступныя / 20 зл. — паўгадавая падпіска (1 нумар)
40 зл. — гадавая падпіска (2 нумары)

Вышэйпададзеную суму, у якую ўлічаны ўжо кошт пасылкі, трэба пералічыць на рахунак Беларускага Гістарычнага Таварыства: Białoruskie Towarzystwo Historyczne, Bank Pekao S.A. Oddział w Białymstoku, ul. Rynek Kościuszki 7, 15-950 Białystok
70 1240 5211 1111 0000 4930 2882

## Адрас Беларускага Гістарычнага Таварыства

15-449 Białystok, ul. Proletariacka 11, Polska tel.: (+48) 85 744 61 11; e-mail: bzh@neostrada.pl
**У Інтэрнэце пра выданьні Беларускага Гістарычнага Таварыства**
http://kamunikat.org/bzh.html
http://bzh.kamunikat.org